

*Рис. 1.* Динар Мухаммеда Туглака (1325 — 1351), Дели, 742 г.х. (1340/1341 гг.). Оригинал




Рис. 2. Места находок индийских монет (по А А. Быкову): I. Золотая Орда, 1-9, 11-18; II. Вели-кое княжество Литовское, г. Слуцк, клад 1902 г.

БОХАН Ю. (Мінск)

# БАЯВЫЯ НАГАЛОЎІ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIV — КАНЦЫ XVI СТАГОДДЗЯ

У выніку імклівага поступу тэхнічнай думкі на захадзе Еўропы, а таксама дастаткова аператыўнага пранікнення ў Вялікае княства Літоўскае еўрапейскіх навацый і ўзаемадзеяння іх з мясцовымі і ўсходнімі традыцыямі, на абшарах гэтай дзяржавы ў часы позняга сярэднявечча і Рэнесанса назіраецца надзвычайнае багацце тыпаў і форм шлемаў. Гэта знайшло адлюстраванне ў значнай стракатасці тэрміналогіі, што да XVI ст. канчаткова замацавалася ў старабеларускай (т. зв. “рускай”) мове, на той час афіцыйнай у Вялікім княстве Літоўскім. Паказальна, што абагульняючая назва баявых нагалоўяў, аналагічная характэрнаму для лацінамоўных дакументаў акрэсленню “galea”, фігуруе ў крыніцах таго часу вельмі рэдка. Выкарыстоўваемы для гэтых мэтаў тэрмін “гелм” альбо “гельм” (ад. ням. і польск. Helm) сустракаецца толькі спарадчына, у асноўным у дачыненні чыста абстрактых шлемаў (напрыклад, геральдычных (Любавский, 1900. С. 462)), а ў асобных выпадках нават супрацьпастаўляецца канкретным тыпам аховы галавы[1], кожны з якіх, як правіла, фіксуецца пад уласнай назвай.

У аснове тэрміналагічнай тыпалогіі тагачасных шлемаў ляжалі іх канструкцыйныя і функцыянальныя асаблівасці. Падставовым элементам любога шлема з’яўляўся звон, што ахоўваў найбльш небяспечную для паражэння частку галавы — чарапную каробку. Тыпалагічная эвалюцыя шлема адбывалася, галоўным чынам, шляхам удасканалення формы звону і дапаўнення яго дадатковымі засцерагальнымі элементамі. Паводле галоўнага функцыянальнага прызнака — наяўнасці ці адсутнасці аховы твару, усе шлемы падзяляліся на закрытыя і адкрытыя. На фармаванне канструкцыі баявых нагалоўяў уплываў агульны характар узбраення, як засцерагальнага, так і наступальнага, тактыка, асаблівасці “вайскавой манеры” і ўзбраення патэнцыяльнага праціўніка, а таксама павевы моды.

Дакументы Вялікага княства Літоўскага XVI ст. фіксуюць пяць тыпаў шлемаў: шаломы, капаліны, прылбіцы, штурмгабы і шышакі. Разам з тым, у рамках кожнага тыпа існавалі варыянты, якія ў большасці выпадкаў не знаходзяць адлюстравання ў дакументах таго часу. Гэта ўяўляецца вельмі істотным, калі ўлічыць, што адзін і той жа шлем па канструкцыйных асаблівасцях мог набліжацца да аднаго тыпу, а па функцыянальных — да другога. На жаль, колькасць вядомых на сёнешні дзень аўтэнтычных баявых нагалоўяў другой паловы XIV — канца XVI ст., звязаных з землямі Вялікага Княства, даволі абмежаваная. Істотнай крыніцай для рэканструкцыі выгляду шлемаў з’яўляюцца дадзеныя іканаграфіі, нумізматыкі і сфрагістыкі, аднак храналагічна яны ахопліваюць у асноўным канец XIV — пачатак XV і канец XV — пачатак XVI ст. У той жа час падаўляючая большасць пісьмовых крыніц датуецца XVI ст. У сувязі з гэтым узнікаюць дзве сур’ёзныя праблемы — праблема тэрміналагічнай тыпалогіі некаторых форм нагалоўяў другой паловы XIV — XV стст., якая мусіць мець пэўную штучнасць, і праблема рэканструкцыі ўсіх магчымых варыянтаў шлемаў, фіксуемых у дакументах XVI ст. Для іх вырашэння падаецца мэтазгодным зварот да замежных аналагаў; гэта тычыцца, прынамсі, тых краін, дзе для пазначэння пэўных тыпаў шлемаў ужываліся аналагічныя тэрміны і адкуль яны, разам з пазначаемымі імі прадметам (Памецька, 1982. С. 107) маглі пранікнуць на землі Вялікага княства Літоўскага.

## ШАЛОМЫ

Тэрмін “шалом” (шолом, шелом) трапіў у вайсковую лексіку Вялікага княства Літоўскага з часоў далітоўскай Русі, дзе ён абазначаў шлем наогул. Падобнае значэнне слова “шалом” аказалася настолькі жывучым, што знайшло адлюстраванне нават у сучаснай лексіцы шэрагу ўсходнееўрапейскіх народаў (беларуск. і руск. “шлем”, украінск. “шолом”, літоўск. “šalmas”). Характернай рысай старажытнарускіх шаломаў з’ўлялася выцягнутая ўгару форма звона (цэльнакаванага альбо зкляпанага з некалькіх частак), прыкрываўшага толькі чарапную каробку. Істотным, але неабавязковым дадаткам да шалома была барміца — эластычнае, найчасцей кальчужнае пакрыццё вушэй, шыі, шчок і падбароддзя воіна. Барміца старажытнарускіх

[1] У якасці прыклада такога супрацьпастаўлення можа служыць запіс артыкула 5 другога раздзела Статута Вялікага Княства 1588 г.: “А хоружий, гды будеть хоругов держати, маеть на собе мети зброю добрую и гелм або шишак и бронь” (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588, 1989. С. 103).

шаломаў мацавалася да звона на стала, для чаго на ніжнім краі апошняга часам змяшчаліся спецыяльныя адтуліны. Часам замест барміцы ўжываўся каптур у выглядзе кальчужнай шапкі, якая насілася пад шлемам і мела падоўжаныя з бакоў і ззаду краі, якія спадалі на плечы і маглі зашпільвацца на падбароддзі.

Некаторыя старажытнарускія шаломы мелі наноснік, паўмаску альбо маску (адпаведна тыпы IIб, IV і III паводле класіфікацыі А. Кірпічнікава). Аднак да другой паловы XIV ст. падобныя нагалоўі выйшлі з баявога ўжытку і тыповы шалом гэтага часу ўяўляў сабой адкрыты шлем, які складаўся з аднаго звону і з'яўлялўся, такім чынам, найбольш прымітыўным відам баявых пакрыццяў галавы (Кирпичников, 1971. С. 22--32).

Неабходна асобна спыніцца на форме звона шаломаў старажытнарускага часу як на падставовай рысе іх класіфікацыі. Традыцыйна выдзяляюцца канічныя і сферакнічныя шаломы, прычым да апошніх залічваюцца як нагалоўі са шпілем, такі без яго (Кирпичников, 1971. С. 24--25). Між тым лёгка заўважыць моцнае падабенства паміж канічнымі шаломамі і сфераканічнымі шаломамі без шпіля. І тыя, і другія мелі форму раздзьмутага конуса альбо стажка з вострым ці скругленым верхам. Падобныя нагалоўі, вядомыя ў еўрапейскай навуцы як "нармандскія" альбо "стажковыя", ужываліся ва ўсёй Еўропе да XIV ст. (Кирпичников, 1971. С. 25; Kwaśnewicz, 1989. S. 66). У той жа час, шаломы са шпілем былі больш характэрныя для Усходу, адкуль і патрапілі на Русь. Таму, з улікам еўрапейскіх рэалій, уяўляецца апраўданым называць іх шаломамі "старажытнарускага" ці "рускага" тыпу, у адрозненне ад "стажковых" шаломаў, не меўшых ярка выражанай нацыянальнай афарбоўкі.

Выкарыстанне шаломаў у Вялікім княстве Літоўскім мела даўнія традыцыі. У значнай ступені гэта абумоўлівалася тым, што большую частку тэрыторыі гэтай дзяржавы складалі беларускія, украінскія і рускія землі, дзе падобныя баявыя пакрыцці галавы былі тыповымі. Разам з тым, яшчэ задоўга да ўтварэння Вялікага Княства назіраюцца ўплывы "рускай" школы на прадукаванне шлемаў у Літве. З чатырох вядомых літоўскіх шлемаў XI — XIII стст. (уключаючы адзін фрагмент) тры маюць "стажковую" форму і, па ўсёй верагоднасці, з'яўляюцца мясцовымі імітацыямі раннесярэднявечных рускіх шаломаў (Габрюнайте, 1965. С. 115--132). Шаломы "старажытнарускага" тыпа сустракаюцца таксама ў старажытнасцях прусаў (Финно-угры..., 1987. С. 449, табл. XXX: 8).

Па меры распаўсюджання ў вялікім княстве Літоўскім новых відаў шлемаў замежнага паходжання, тэрмін "шалом" губляе сваё ўніверсальнае значэнне і выкарыстоўваецца толькі для акрэслення шлемаў пэўнага тыпу. Як сінонім адкрытага шлема-звона ён фіксуецца ў дакументах не толькі Вялікага князтва Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы (Кирпичников, 1976. С. 29), але і пранікае, праўда ў трансфармаваным выглядзе, на землі Польскага каралеўства (scholm) і Тэўтонскага ордэна (slomhuben) (Nowakowski, 1980. S.45--46; Uzbrojenie..., 1990. S. 70). Цікава, што інвентары ордэнскіх арсеналаў натуюць на мяжы XIV і XV стст. таксама загадкавыя "прускія шлемы" (pruscher helme), што, на думку польскага даследчыка А. Навакоўскага, уяўлялі сабой тыповыя для Усходу шаломы з барміцай лускавай канструкцыі, запазычаныя праз пасрэдніцтва Візантыі і Русі балтамі, а таксама "спічастыя шлемы" (storczhelme, spiczgehelme), якія найбольш поўна мусяць адпавядаць характэрный "старажытнарускай" форме (Nowakowski, 1980. S. 65--67). Вядомыя два аўтэнтычныя ўзоры падобных шлемаў канца XIV — пачатку XV ст. з прускай тэрыторыі. Гэта шлем з Мельна (Альштынскае ваяводства), знойдзены на месцы бітвы 1410 г. і шлем з Выструця над Прэголай. Абодва шаломы маюць гарызантальна зрэзаны край звону з дзірачкамі пад барміцу, выцягнуты шпіль (у мельнскага экземпляра ён упрыгожваўся абламаным на сёнешні дзень сцяжком-"ялаўцом"), аднак калі нагалоўе з Выструця мае "цыбулістыя", сфераканічныя абрысы (мал. 1: 2), то шлем з Мельна ўяўляе сабой як бы цыліндр, які лейкападобна пераходзіць у шпіль (мал. 1: 1). Для адрознення ад нагалоўяў сфераканічнай формы, падобныя шаломы мэтазгодна называць цыліндрычна-канічнымі. Не выключана, што шлемы з Мельна і Выструця, нетыповыя для заходнееўрапейкага ўзбраення, былі згублены пад час Грунвальдскай выправы кімсьці з ліцвінаў ці русінаў войска Вітаўта (Głosek, 1980. S. 58--60).

Пра папулярнасць на мяжы XIV і XV стст. шаломаў са шпілем нават у прадстаўнікоў вышэйшых сацыяльных слаёў, сведчаць пячаткі літоўскіх князёў. Вершнікі у шаломах "цыбулістых" абрысаў з брылькападобным выступам у лобнай частцы паказаны на пячатках Дзмітрыя Карыбута за 1386 г. (мал. 2: 1) (AGAD, DP, n. 4435) і Свідрыгайлы за 1420 г. (мал. 2: 7) (AGAD, DP, n. 4449). Найбольшую ўвагу прыцягваюць брылькападобныя выступы, характэрныя для мангола-татарскіх шлемаў таго ж часу. Гэта маглі быць альбо ўласна брылькі, альбо прымацаваныя да ніжняга края нагалоўя фігурныя

пласціны, прылягаўшыя да ілба (Горелик, 1983. С. 261; 1987. С. 189).

Можна меркаваць, што ўсходнія шаломы былі даволі папулярнымі ў Вялікім княстве. Часам яны нават спецыяльна замаўляліся за мяжой, у тым ліку і ў тых краях, дзе не існавала сталых традыцый па вырабу арыентальнага ўзбраення. Прыкладам могуць служыць "татарскія шаломы" (schlomy Tartharorum), выраблены на заказ у Кракаве і высланыя ў Літву ў 1418 г. (Rachunki dworu..., 1896. S. 521--522). Невядома, ідзе тут гаворка пра нагалоўі, ідэнтычныя паказаным на пячатках Дзмітрыя Карыбута і Свідрыгайлы, альбо якія іншыя, аднак несумненна, што меліся на ўвазе шлемы са шпілем, паколькі менавіта яны ўспрымаліся ў тагачаснай Польшчы як татарскія (Urbrojenie..., 1990. S. 58).

Апроч сфераканічных нагалоўяў, на пячатках літоўскіх князёў канца XIV — сярэдзіны XV ст. фігуруюць шаломы "стажковай" формы з падоўжанымі з бакоў і ззаду краямі звона, якія баранілі вушы і патыліцу воіна. Такія шлемы паказаны па пячатках Вітаўта за 1404 (мал. 2: 2), 1413 (мал. 3: 1) і 1426 (мал. 2: 10) гады (AGAD, DP, n. 4448; AGAD, DP, n. 815; Zbior praw litewskich..., 1841. S. 1, tabl. I: a), Жыгімонта Карыбута за 1433 г (мал. 3: 2) (Vossberg, 1854. Taf. 24) і Свідрыгайлы за 1452 г. (мал. 2: 9) (AGAD, DP, n. 7313). Падобныя шлемы прынята называць баскінетамі, ад анг. і фр. bascinet ці bassinet (Kwaśniewicz, 1989. S. 18). У польскай зброязнаўчай літаратуры яны больш вядомыя як лэбкі, хаця ў сярэднявечнай Польшчы для іх абазначэння ўжываліся тэрміны szlom, schlome і інш. (Uzbrojenie..., 1990. S. 45).

На думку шэрагу даследчыкаў, у аснове генезіса баскінетаў ляжаў малы "сакрэтны" шлем, які насіўся пад "гаршковым" шлемам. Пераканаўчым падаецца таксама погляд, што "шалом-лэбка" сфармаваўся шляхам паглыблення звычайнага "стажковага" шалома, паміж якім і баскінетам маюцца пераходныя варыянты з мягка прафіляванымі краямі звона (Uzbrojenie..., 1990. S. 43). Не выключана, што мела месца перасячэнне абедзьвух эвалюцыйных ліній, у выніку чаго паўстала нагалоўе, якое па набыцці формы, блізкай да "стажковай", захавала на нейкі час функцыі "сакрэтнага" шлема (Kwaśnewicz, 1989. S. 18).

Блізкія па баявых якасцях да "стажковых" і "рускіх" шаломаў, баскінеты мелі больш дасканалую канструкцыю, што выявілася не толькі ў глыбейшым звоне, але і ў зручнейшай сістэме мацавання барміцы (Uzbrojenie..., 1990. S. 44--45, 52). Недзе з 1370 г. яна пачала чапляца да звона пры дапамозе спецыяльных трубчатых завесаў з прапушчанай праз іх драцінай, пры выманні якой барміца лёгка здымалася, што спрашчала яе замену.

"Szlomy" часта фігуруюць у рахунках польскага каралеўскага двара, у тым ліку ў спісах узбраення, прызначанага для прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага. У 1394 г. такія шлемы атрымалі смаленскі князь Глеб, Раман, верагодна, князь кобрынскі, літвін Свімунт (Swimunti Litwano), а таксама нейкі Іван з Віцебска (Iwano cuidam de Witewsko) (Rachunki dworu..., 1896. S. 194--197). Годам раней 2,5 грыўны на набыццё "шалома-лэбкі" і барміцы да яго (pro szlom et geynk) атрымаў з каралеўскага скарбу віленскі староста Мінгал ( Rachunki dworu..., 1896. S. 166). У 1399 г. з Кракава было выслана "domino duci Wytowdo... VIII barbutas et szlomy" (Swaryczewski, 1987. S. 62).

Надзвычай каштоўную інфармацыю аб ужываемых у канцы XV ст. у Вялікім княстве Літоўскім шаломах прыносяць мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, створаннага, праўдападобна, у 1485-95 гг. на ўсходзе дзяржавы, верагодна, ў Полацку ці Смаленску (Шматаў, 1984. С. 20; Чернецов, 1989. С. 146). Падаўляючую большасць прадстаўленных тут шаломаў складаюць нагалоўі "рускага" тыпа, як правіла дапоўненыя барміцай, радзей — без яе (Радзивиловская..., 1902). На адной з мініяцюр паказаны шалом, дапоўнены буйной металічнай пласцінай, якая абапіраецца на грудную частку даспеха і закрывае ніжнюю частку твару, не з'яўляючыся элементам шлема (мал. 4: 1). Такія пласціны-падбароднікі (ням. Bart) былі вельмі папулярныя ў Еўропе ў XV ст. (Żygulski, 1982a. S. 103; Müller, Kunter, 1984. S. 31). Падбароднік, адлюстраваны ў Радзівілаўскім летапісе, узмоцнены парай акруглых шчыткоў, прынітаваных у раёне вушэй, што было пэўным парушэннем традыцый, паколькі такія шчыткі звычайна мацаваліся не да падбародніка, а непасрэдна да шлема.

Звоны шаломаў "рускага" тыпу з Радзівілаўскага летапісу маюць як сфераканічную, так і, праўда значна радзей, цыліндрычна-канічную форму (мал. 4: 1--8). Шпілі некаторых шаломаў упрыгожаны шарыкамі-"яблыкамі" альбо сцяжкамі-"ялаўцамі". Адна з мініяцюр фіксуе сфераканічны шалом з султанам, прымацаваным да лобнай часткі звона. Усе шаломы маюць гарызантальна зрэзаны край і моцна набліжаюцца да нагалоўяў, ужываных у Маскоўскай дзяржаве (Кирпичников, 1976. Табл. III, XII). Пэўнае выключэнне складаюць шаломы са схематычна паказанай простакутнай пласцінай, размешчанай

уздоўж края на лобнай частцы звона (мал. 4: 6). Падобныя пласціны былі характэрныя для аднаго з варыянтаў мангола-татарскіх шлемаў другой паловы XIV — першай чвэрці XV ст. (Горелик, 1983. С. 261).

Акрамя шаломаў са шпілем, на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу фігуруюць"стажковыя" шаломы і нагалоўі у выглядзе сферычных касак, цэльнакаваных ці скляпаных з некалькіх частак (мал. 4: 4-5, 9). Падобны сферычны шлем, месца і абставіны знаходкі якога невядомыя, маецца ў зборах Ковенскага дзяржаўнага гістарычнага музея (мал. 1: 3). Паводле заходніх аналагаў шалом датуецца літоўскімі даследчыкамі XI — XIII ст. (Габрюнайте, 1965. С.129--132; Волкайте-Куликаускене, 1965. С. 70--71), хаця на Захадзе сферычныя нагалоўі былі вядомыя яшчэ ў канцы XV ст. (Barlett, Embleton. P. 20). Цікава, што маскоўскія мініяцюрысты XVI ст. любілі паказваць ваяроў заходніх краін, у тым ліку і Вялікага княства Літоўскага, менавіта ў такіх шлемах (Арциховский, 1944. С. 62--63)[2]. Уяўляецца праўдападобным, што сферычныя шаломы генетычна былі звязаны са "стажковымі" і выцеснілі іх на мяжы XIV і XV стст. як больш практычныя. Позняе ж ужыванне "стажковых" шаломаў ў Вялікім княстве Літоўскім можна растлумачыць як больш марудным распаўсюджаннем тут еўрапейскіх навацый, так і традыцыйнай схільнасцю да спічастых форм. Мініяцюры Радзівілаўскага летапісу фіксуюць "стажковыя" шаломы двух варыянтаў — з вертыкальным рабром спераду і без яго (мал. 4: 10--11). "Рабрыстае" нагалоўе падобнай формы, дарэчы, паказана таксама на галаве даводцы літоўскага атрада з гравюры "Бітва пад Оршай" у брашуры А. Крыцкага, выдадзенай у Кракаве ў 1515 г. (Polonia typographica..., 1962. Tabl. 128). Спецыфіка гэтага шалома у тым, што ён мае не адно вертыкальнае рабро, а некалькі (мал. 5).

Пра значнае распаўсюджанне шаломаў у войску Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў першай палове XVI ст. сведчаць і пісьмовыя крыніцы. Сярод 64 шлемаў, адлюстраваных у "рэестры пасталітых рэчаў скарбных" за 1510 г., узгадваецца 8 "шоломцов" (НАРБ, кмф-18, воп. 1, N 223, А. 161). Ажно 95 шаломаў налічвалася ў 1536 г. у збраёўні замка Магільна, што складала каля 80% усіх баявых нагалоўяў магільнянскага арсенала (НАРБ, кмф -5, воп. 1, N 2483, А. 10). Шаломы баранілі галовы князя Андрэя Збаражскага і двух чалавек ягонага дзесяціасабовага почата падчас службы гэтага літоўскага магната ў польскай наёмнай роце Яна Мялецкага ў 1526-30 гг. (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 17). Аднак у другой палове XVI ст. шаломы выцясняюцца з баявога ўжытку. Паводле попіса войска Вялікага княства Літоўскага за 1567 г., падобныя нагалоўі мелі ўсяго тры чалавекі, якія яўна не належылі да катэгорыі заможных феадалаў і з'явіліся на попіс без уласных початаў (РИБ, 1915. К. 575--576, 598).

ГАРШЧКОВЫЯ ШЛЕМЫ

Тэрмін "гаршчковыя шлемы" з'яўляецца у значнай ступені штучным і не фігуруе ў пісьмовых крыніцах. Ён прыняты сучаснымі зброязнаўцамі для акрэслення сярэднявечных рыцарскіх шлемаў, якія складаліся з аднаго толькі звона, аднак ахоўвалі ўсю галаву ваяра і належылі, такім чынам, за закрытых нагалоўяў. Такія шлемы склёпываліся з жалезных пласцін, забяспечваліся зрокавымі шчылінамі і адтулінамі для дыхання. Формай яны нагадвалі блізкі да цыліндра гаршчок, перакулены дагары дном, адкуль і паходзіць іх назва (Kwaśniewisz, 1989. S. 62--63). Гаршковыя шлемы найчасцей з'яўляліся атрыбутам вышэйшых слаёў феадальнага грамадства і менавіта тут падобныя нагалоўі ўжываліся, галоўным чынам як геральдычна-парадны аксэсуар, нават пасля страты імі баявога значэння (Uzbrojenie..., 1990. S. 41).

Звесткі аб ужыванні гаршчковых шлемаў у вялікім княстве Літоўскім надзвычай няпэўныя. Праўдападобна такое нагалоўе, якое ахоўвае ўсю галаву ваяра і мае вертыкальнае рабро спераду і клінападобнае завяршэнe ў падбародачнай частцы, паказана на пячатцы троцкага князя Кейстута за 1353 (?) г. (Gumowski, 1930. S. 702, tabl. IV: 29). Шыю воя пакрывае кальчужнае пляценне, якое заходзіць пад шлем. Можна меркаваць, што гэта кольчаты каптур альбо барміца "сакрэтнага" шлема-баскінета. У цэлым выява носіць рысы стылізацыі і пазбаўлена дробных дэталяў (мал. 3: 3).

Найбольшую цікавасць выклікае спічастае завяршэнне шлема, якое нават дало падставу асобным даследчыкам памылкова залічыць яго да шаломаў "старажытнарускага" тыпу (Sochaniewicz, 1930. S. 93). Між тым падобная дэталь з'яўляецца даволі характэрнай для гаршчковых шлемаў

[2] Савецкім даследчыкам А. Арцыхоўскім было выказана меркаванне, што ў выглядзе сферычных касак мініяцюрысты паказвалі характэрныя для Захаду салады. Не аспрэчваючы гэты тэзіс, можна заўважыць, што ён слушны не ва ўсіх выпадках, бо ў Радзівілаўскім летапісе, напрыклад, ароч выяз сферычных шлемаў, маюцца і выявы (праўда ўсяго дзве) ўласна саладаў, прычым выкананыя даволі рэалістычна (мал. 4: 16--17).

другой паловы XIV — пачатку XV ст. (Bashford, 1921. Pl. XIV--XVIII). Не выключана, што гэта было абумоўлена распаўсюджанай у гэты час практыкай нашэння вялікапамерных гаршчковых шлемаў паверх спічастых баскінетаў, што папросту мусіла вымагаць кшталтаванне верху шлема, першапачаткова пляскатага, у выглядзе конуса. Акрамя чыста функцыянальных выгод, гэта давала яшчэ і выдатную магчымасць для аздаблення баявога нагалоўя, якое часам набывала вельмі арыгінальны і нават фантастычны выгляд.

Цікавую інфармацыю аб адным са шлемаў Вітаўта прыносяць рахункі Тэўтонскага ордэна, дзе пад 1401 г. фіксуецца наступны запіс: “item XV scot prush vor eichelin und ander gerethe czu Wytowts helm czu worgulden den im der meister sante, dreisig mark deme goltsmede amtage conuersionis Pauli” (Codex epispolaris..., 1882. S. 961). Гаворка тут ідзе пра выдаткаванне 15 прускіх скойцаў на “eichelin” і іншыя прылады для шлема (helm) вялікага князя Літоўскага. На тое, што ў дадзеным выпадку меўся на ўвазе гаршчковы шлем, ускосна ўказвае сам тэрмін “helm”, які, на думку шэрагу даследчыкаў, ужываўся на землях Ордэна выключна ў дачыненні падобных нагалоўяў (Nowakowski, 1980. S. 63). Гэты тэзіс аспрэчвае на карысць шырэйшага трактавання тэрміна “helm” А. Навакоўскі, але затое ён трактуе “eichelin” як упрыгожанне ў выглядзе завершаных трэфамі выцягнутых плакетак, што абрамялі зрокавыя шчыліны, а часам і змяшчаліся ўздоўж вертыкальнага рабра гаршчковых шлемаў (Nowakowski, 1980. S. 76). Такім чынам, у любым выпадку ёсць сур’ёзныя падставы вызначаць вышэйзгаданы шлем Вітаўта як гаршчковы.

У другой палове XIV — пачатку XV ст. гаршчковыя шлемы паўсюль у Еўропе ўжо выходзяць з баявога ўжытку і выкарыстоўваюцца толькі як цэрэманіяльныя ці турнірныя. Хутчэй за ўсё, падобнае ж прызначэнне мелі таксама гаршчковыя шлемы Кейстута, Вітаўта, а магчыма і некаторых іншых прадстаўнікоў палітычнай эліты Вялікага княства Літоўскага.

## КАПАЛІНЫ

Капаліны, пашыраныя ў Еўропе з XII ст., атрымалі сваю назву з-за падабенства да металічнага капелюша. Яны з’яўляліся пераважна адкрытым шлемам і ў гэтым набліжаліся да шаломаў, аднак канструкцыйную іх адметнасць складалі больш ці менш шырокія палі, часам апушчаныя ўніз. У шэрагу выпадкаў палі апускаліся так нізка, што засланялі верхнюю частку твару; у такіх выпадках яны праразаліся зрокавай шчылінай — “візурай”, што ператварала капалін у поўзакрыты шлем, а пры даданні накладнога падбародніка--”барта” — у цалкам закрыты (Kwaśniewicz, 1989. S. 83--84; Uzbrojenie..., 1990. S. 53--54).

Капаліны двойчы фіксуюцца на літоўскіх пячатках другой паловы XIV ст. ( абедзве датуюцца 1379 г.). Першая належыць князю Кейстуту ( Vossberg, 1854. Taf. 24) і прадстаўляе ваяра ў конусападобным шлеме з “яблыкам” на вастрыі і нешырокімі палямі. Шлем надзеты паверх кальчужнага каптура (мал. 3: 6). Блізкае па форме нагалоўе, але без каптура, паказана на пячатцы сына Кейстута Вітаўта (мал. 3: 5). Аналагаў падобным капалінам у тагачаснай Еўропе не выяўлена. Стылістычна найбольш блізкім да іх з’яўляецца візантыйскі шлем XII — XIII стст., які захоўваецца ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля ( Żygulski, 1982a. S. 61--62). Гэты шлем характэрызуецца нешырокімі палямі і конусападобным звонам з акруглым “гузам” на вастрыі і невысокім цыліндрычным абводам у ніжняй частцы.

Больш тыповую форму маюць капаліны, прадстаўленыя на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу. Тут фіксуюцца капаліны двух відаў — з “цыбулістым” звонам з “яблыкам” на невысокім шпілі (мал. 4: 12-13) і са звонам сферычнай формы (мал. 4: 14-15). І ў першых, і ў другіх даволі шырокія палі прыапушчаны, што робіць шлемы глыбейшымі. Такія нагалоўі шырока ўжываліся ў XIV — XVI стст. ва ўсёй Еўропе (Oce, 1995. Рис. 1-2; Barlett, Embleton. P. 20, 42, tabl. 39; Uzbrojenie..., 1990. Il. 58, 80). Некаторыя іх формы бытавалі таксама на Усходзе ( Горелик, 1987. Рис. 7).

Капаліны як адзін з пашыраных тыпаў аховы галавы фіксуюць пісьмовыя крыніцы Вялікага княства Літоўскага з першай паловы XVI ст. Менавіта такія шлемы (38 штук) складалі большасць нагалоўяў, занатаваных у “рэестры паспалітых рэчаў скарбных” за 1510 г. (НАРБ, кмф-18, воп. 1, N 223, а. 161). 24 капаліны меліся ў 1536 г. у збраёўні замка Магільна (НАРБ, кмф-5, воп. 1, N 2483, а. 10). “Зброя дощатая з наручи и з наколенками и з капалином” фігуруе сярод рэчаў, што адсуджваў у сваёй жонкі Аўдоцці ў 1540 г. гарадзенскі мешчанін Багдан Хведкавіч ( АВАК, 1890. С. 243). Яшчэ ў 1571 г. два капаліны знаходзілася сярод узбраення Глускага замка (Ткачоў, 1991. С. 117), але папулярнасць капалінаў у другой палове XVI ст. падае, што ілюструюць попісы войска Вялікага Княства 1565 і 1567 гг., дзе падобныя шлемы не фігуруюць.

Мадыфікацыяй капаліна з’яўляўся пашыраны ў Еўропе ў эпоху Рэнесанса “марыён”. Бытавалі т. зв. “чаўновыя” і “грушковыя” марыёны. Першыя

характаразаваліся акруглым звонам з высокім грэбнем і палямі, завостранымі і задранымі ўгару спераду і ззаду. "Грушковыя" марыёны мелі сплошчаныя палі і высокі звон з выразным рабром, які завяршаўся скіраваным назад невялікім шыпам (Kwaśniewicz, 1989. S. 151--152). У пісьмовых крыніцах Вялікага княства Літоўскага разглядаемага перыяду ўзгадкі аб марыёнах не выяўлены, хвця не выключана, што яны маглі мецца ў распараджэнні асобных феадалаў. Марыёны XVI ст. захоўваліся, напрыклад, у збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы да 1926-27 гг. (Żygulski, 1982a. S. 203).

ПРЫЛБІЦЫ

Распаўсюджанне на землях Вялікага княства Лтоўскага прылбіц прыпадае на другую палову XIV ст. Галоўную ролю ў гэтым распаўсюджаніі адыграла, верагодна, пасрэдніцтва Польшчы і Тэўтонскага ордэна, бліжэйшых заходніх суседзяў дзяржавы Гедымінавічаў. Польскае паходжанне мае, напэўна, сам тэрмін "прыбліца" (przyłbica), які абазначае шлем з рухомай часткай, якая бароніць твар. Канструкцыя, форма і памеры гэтай часткі могуць быць featureрознымі, але яна павінная быць мабільнай (адхіляцца ці адчапляцца) і не складаць аднаго цэлага са звонам (Uzbrojenie..., 1990. S. 48).

Прылбіцы "старэйшага" тыпу, узнікшыя ў Еўропе ў першай палове XIV ст., былі генетычна звязаны з "лэбкамі-шаломамі", складаліся са звона і рухомай аховы твару, цалкам пакрываючы галаву, але пакідаючы неабароненай шыю, якую засланяла толькі кальчужная барміца. Сыходзячы з формы звона прылбіц старэйшага тыпу, іх мэтазгодна называць таксама закрытымі баскінетамі.

Лічыцца, што першапачатковую функцыю па ахове твару выконваў у прылбіц старэйшага тыпу рухомы наноснік, найчасцей у выглядзе падоўжанага трохкутніка. Ніжні, шырокі канец наносніка мацаваўся да падбародачнай часткі барміцы, верхні ж, забяспечаны пятлёй, чапляўся за спецыяльны кручок на лобнай частцы звона (Uzbrojenie..., 1990. S. 48). Звісаючы ў свабодным стане, адчэплены наноснік нагадваў бараду, таму прылбіца з наноснікам называлася, на думку польскага даследчыка А. Сварычэўскага, "барбутай", што па італьянску азначае "барадач" (Swaryczewski, 1987. S. 62). Барбуты фігуруюць у канцы XIV ст. сярод зброі, імпартаванай у Вялікае княства Літоўскае з Польшчы: у 1399 г. з Кракава выслана "domino duci Wytowdo... VIII barbutas et szlomy" (Swaryczewski, 1987. S. 62).

У другой палове XIV ст. з'явіліся прылбіцы з заслонай-забралам, што цалкам закрывала твар і забяспечвалася візурай і адтулінамі для дыхання. Першапачатковая заслона, адкідаемая на звон, мацавалася на адной лобнай завесе (т. зв. "кляпавая"заслона, ням. Klappvisier), у далейшым пачалі выкарыстоўвацца два скроневыя шарніры, пацясніўшыя "кляпавую" канструкцыю. Шарнірная заслона магла мець дадатковыя шплінтаваныя завесы, што дазваляла цалкам здымаць яе. У мэтах павышэння трываласці заслона набывала выцягнутыя абрысы, дзякуючы якім такі шлем, вельмі функцыянальны і грозны на выгляд, атрымаў назву "псіная пыса" ці "псіны каптур" (ад ням. Hundsgugel) (Uzbrojenie..., 1990. S. 48--49). Верагодна, падобнае нагалоўе, названае "casside przilbicza", атрымаў за кошт польскага каралеўскага двару ў 1394 г. Пётр, пісар Вітаўта (Rachunki dworu..., 1896. S. 193). Пра тое, што гэта быў досыць дасканалы шлем, сведчыць ягоны кошт — 4 грыўны, што складала максімальную суму, выплочваемую са скарбу Ягайлы за баявыя пакрыцці галавы (Uzbrojenie..., 1990. S. 235). "Псіныя пысы", што належылі князю Свідрыгайле, узгадваюцца пад 1403 г. у кнізе выдаткаў падскарбія Тэўтонскага Ордэна: "Item XVI scot eime furmane mit eime pferd der herczog Swittirgail II panzer und hindiskogeln ken Baselauken czu furen von des meisters geheise" (Codex epistolaris..., 1882. S. 966).

"Псіныя пысы" неаднаразова фіксуюцца на пячатках літоўскіх князёў. Баскінеты з "кляпавай" заслонай падстаўлены на пячатках Скіргайлы за 1387 г. (мал. 2: 6) (AGAD, DP, n. 4439), Аляксандра Вігунта за 1388 г. (мал. 2: 5) (AGAD, DP, n. 4440) і Вітаўта за 1418 г. (мал. 2: 4) (AGAD, DP, n. 7253). Цікавым элементам нагалоўя з пячаткі Вітаўта з'яўляецца султан з пер'яў, які нібыта вырастае са спічастага завяршэння звона. Такі самы султан можна заўважыць і на пячатцы Скіргайлы за 1394 г. (AGAD, n. 4446), аднак заслона шлема мацуецца тут не на адной лобнай, а на двух скроневых завесах (мал. 2: 3).

Маюцца ўскосныя сведчанні таго, што Вялікае княства Літоўскае не толькі запазычвала на мяжы XIV і XV стст. гатовыя формы заходніх прылбіц, але і само аказвала пэўны ўплыў на іх кшталтаванне. У гэтым сэнсе ўвагу прыцягваюць фіксуемые ў крыжацкіх інвентарах шлемы, акрэсленыя як "pekilhaube" і "prewsche hube". А. Навакоўскі схільны трактаваць гэтыя тэрміны як сінонімы, абазначаўшыя балтыйскую, ці са слоў крыжакоў "прускую" прылбіцу, характэрную як для Ордэна, так і для Вялікага княства Літоўскага, спецыфічнай рысай якой з'яўляўся спічасты звон "рускай" формы (Nowakowski, 1980. S. 74, 149). Гіпотэза А. Навакоўскага аб пашырэнні ў Вялікім Княстве "спічастых прылбіц" знаходзіць

падцверджанне ў дадзеных сфрагістыкі. Падобныя шлемы са звонам сфераканічнай формы і “яблыкам” на шпілі паказаны на пячатках Ягайлы за 1380 г. (мал. 2: 8) (Żebrawski, 1865. S. 43, tabl. 17, n. 44) і Вітаўта за 1384-85 гг. (мал. 3: 4) (Semkowicz, 1930. S. 68). Спічастыя абрысы мае звон “псінай пысы”, адлюстраванай на ўжо згаданай пячатцы Аляксандра Вігунта за 1388 г. Праўдападобна, што сфераканічную форму мелі таксама ўпрыгожаныя султанамі звоны шлемаў з пячатак Скіргайлы за 1394 г. і Вітаўта за 1418 г., паколькі для ўмацавання пер’яў султана на вастрыі неабходна была шпілепадобная трубка-утулка, якая мусіла надаць баскінету “цыбулістыя” абрысы.

Вялікая функцынальнасць прылбіц старэйшага тыпу абумовіла даволі позняе іх бытаванне; заходнія выяўленчыя крыніцы фіксуюць іх яшчэ ў канцы XV ст. (Uzbrojenie..., 1990. S. 52;  Biskup, 1991. Il. 28). Аднак пошук найбольш дасканалых форм баявых нагалоўяў прывёў да з’яўлення ў гэты час прылбіцы малодшага тыпу — т. зв. “армэ” ці “армет” (ад англ. armet), якая была сканструявана ў Італіі каля 1420 г. Шлем выдатна ахоўваў галаву і быў вельмі зручнымі дзякуючы даданню да акруглага, шчыльна прылягаўшага да галавы звона (пераважна з грэбнем) паўкруглых бакавых пласцін--”шчок”. Шчокі расчыняліся ўбакі на завесах і замыкаліся на падбароддзі пры дапамозе металічнага гузіка ці кручка. Заслона ў выглядзе кароткай дзюбы, забяспечаная візурай і вентыляцыйнымі адтулінамі, мацавалася на скроневых шарнірах (Żygulski, 1982a. S. 101--102).

На працягу XVI ст. прылбіца малодшага тыпу зазнала шэраг мадыфікацый. Побач з традыцыйнай армэ часцей выкарыстоўваюцца прылбіцы, у якіх месца пары шчок заступае цэльны заслонападобны падбароднік, прымацаваны за звона на агульных з заслонай бакавых шарнірах. Замыканне падобных шлемаў на галаве ажыццяўлялася не на падбароддзі, а па абодвух баках шыі. Пасля 1520 г. падбароднікі некаторых прылбіц сталі дапаўняцца металічнымі каўнярамі-абойчыкамі, прымацаванымі на стала, што ліквідавала шчыліны ў раёне горла і практычна ператварала шелм у адно цэлае з даспехам. Прылбіцы без прымацаванага каўняра былі, у сваю чаргу, сканструяваны такім чынам, што напускаліся на абойчык даспеха і ахоплівалі сваім жолабападобным краем спецыяльны адагнуты борцік, размешчаны па ягоным горлавым зрэзе ( Винклер, 1992. С. 108--109). Заслона армэ, першапачаткова афармленая ў выглядзе “вераб’інай дзюбы”, набывае форму “кавальскіх мяхоў” альбо скругленай “малпавай морды”, а пасля 1540 г. — зноў дзюбы, аднак падзеленай на дзве часткі, вершнюю і ніжнюю, што зрабіла яе яшчэ больш мабільнай (Żygulski, 1982a. S. 148--149).

Гаварыць пра ўжыванне прылбіц малодшага тыпу ў Вялікім княстве Літоўскім можна не раней XVI ст. Найбольш поўнае ўяўленне аб падобных шлемах даюць арыгінальныя экземпляры і рэканструкцыі радзівілаўскіх гарнітураў, зробленыя аўстрыйскім зброязнаўцам О. Гамберам і польскім даследчыкам З. Фуіньскім (Fuinski, 1988. S. 115--140). Прылбіца са звонам акруглай формы, падбароднікам з прымацаваным каўняром і механадобнай заслонай дапаўняе “максімільянаўскі” даспех нямецкай работы першай чвэрці XVI ст. (з часткамі, што паходзяць з несвіжскай збраёўні Радзівілаў), які захоўваецца зараз у калекцыі фон Кенбуша ў Нью-Йорку (Żygulski, 1982a. Il. w alb. 89). У Стакгольмскім Каралеўскім музеі маецца нагалоўе, выкананае ў 1550--55 гг. нюрнбергскім платнерам Кунцам Лохнерам для караля Польскага і вялікага князя Літоўскага Жыгімонта Аўгуста (Żygulski, 1982a. S. 197, il. w alb. 64). Прылбіца належыць да катэгорыі “напускных”, г. зн. не мае прымацаванага каўняра; замыкаецца яна пры дапамозе шчок. Заслона падвоеная, у выглядзе дзюбы. Звон шлема мае грэбень, на патылічнай частцы змяшчаецца ўтулка пад султан. Аналагічная прылбіца, таксама работы Кунца Лохнера, уваходзіа ў склад гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага, выробленага каля 1555 г. Сюды ж уваходзіла таксама другая прылбіца, падобная на папярэднюю, але з рухомым падбароднікам і прымацаваным да яго наборным каўняром (мал. 6: 1) (Fuinski, 1988. S. 131, il. 109). Дзве прылбіцы з рухомымі падбароднікамі дапаўнялі яшчэ адзін радзівілаўскі гарнітур другой паловы XVI ст.; адрозненне паміж імі заключалася ў тым, што адно нагалоўе (знаходзіцца ў Метрапалітэнскім музеі Мастацтва ў Нью-Йорку) мела прымацаваны каўнер, а другое яго не мела (мал. 6: 2) (Fuinski, 1988. S. 132, il. 110). “Каўняровая” прылбіца з грэбнем, узмацняльнай бляхай з левага боку, двухчастковай дзюбападобнай заслонай і падпоркай да яе ўваходзіць у склад даспеха Крыштофа Мікалая Радзівіла “Пяруна”, вырабленага ў Італіі каля 1600 г. (захоўваецца ў музеі Войска Польскага ў Варшаве) (Żygulski, 1982b. S. 100, n. 95).

Найбольш ранняй, а таксама поўнай і дакладнай выяўленчай крыніцай, якая фіксуе ўжыванне прылбіц малодшага тыпу ў войску Вялікага княства Літоўскага, з’яўляецца створаная ў 20-х гг. XVI ст. карціна ананімнага мастака “Бітва пад Оршай” (захоўваецца ў Нацыянальным

музеі ў Варшаве). Прылбіцы тут складаюць адзін з асноўных тыпаў шлемаў літоўскага боку (на жаль, на карціне немагчыма адрозніць уласна ліцвінаў ад польскіх наёмнікаў). Усе яны забяспечаны характэрнымі для "класічных" армэ шчокамі, аднак у асобных выпадках шчокі не пакрываюць пярэдняй часткі падбароддзя. Прылбіцы маюць заслоны чатырох мадіфікацый — у выглядзе "вераб'інай дзюбы", "малпавай морды", "кавальскіх мяхоў", а таксама сплошчаныя заслоны, больш характэрныя для нагалоўяў іншага тыпу — саладаў (мал. 7).

З 20-х гг. XVI ст. прылбіца як асноўны тып баявога нагалоўя фіксуецца таксама пісьмовымі крыніцамі. Каралеўская і соймавая ўстава аб земскай абароне за 1528 г. нават абавязывала ўсіх землеўладальнікаў "с каждых осми служоб людей ставити пахолка, на добром кони, во зброи, з древом, с прапором, на котором бы был панцер, прылбица, меч або корд, сукня цветная, павеза и остроги две" (АЗР, 1848. С. 188). Прылбіца ў якасці рэкамендуемага шлема зацвярджалася таксама земскай ухвалай і Статутам 1529 г. (Акты литовско-русского государства..., 1899. С. 232; Zbór praw litewskich..., 1841. S. 170).

Важным сведчаннем папулярнасці прылбіц у другой чвэрці — сярдзіне XVI ст. з'яўляюцца попісы наёмных рот, у тым ліку і польскіх, але ў якіх служылі літоўскія атрады. Так з шасці шлемаў, пералічаных у рэестры дзесяціасабовага почата князя Андрэя Збаражскага, служыўшага ў 1528-30 гг. у роце Яна Мялецкага, палову складалі прылбіцы (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 17, k. 63-64). У таксама дзесяціасабовым адрадзе падляшскага шляхціца Херубіна Вайновіча, які ў 1531 г. фігуруе ў роце Лаўра Цёлка, восем чалавек мелі прылбіцы, у аднаго ўвогуле не фіксуецца ніякага нагалоўя, а сам Вайновіч карыстаўся шлемам, акрэсленым агульным тэрмінам "galea" (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 57, k. 62-63). У наступным годзе ў попісе роты Яна Малецкага ўзгадваецца з шасцю вершнікамі Андрэй Валынец, які ўзброіў сваіх камбатантаў выключна ў прылбіцы (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 22, k. 15). Толькі такія шлемы фігуруюць у 1540 г. у пяціасобным почаце ананімнага Казачка з Брацлава, што служыў у роце Бернарда Прэтвіча (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 39, k. 36), атрадах Мікалая Збаражскага (рота Пракопа Сяняўскага, 1536 г.) (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 28, k. 13--14), Георгія Збаражскага (рота Венцлава Блодэка, 1542 г.) і Аляксандра Палубенскага (рота Яна Мадалянскага, 1542 г.) (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 42, k. 48, 191), Андрэя Нарбута (рота Мацея Влодэка, 1548 г.) (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 52, k. 5), звенігарадскага казака Івана (рота Бернарда Прэтвіча, 1552 г.) (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 59, k. LXXXII) і г. д. Са 152 чалавек гусарскай роты аршанскага старасты Філона Сымановіча Кміты Чарнобыльскага, прылбіцы мела ў 1567 г. 98 ваяроў. Яшчэ большы працэнт прылбіц знаходзіўся на ўзбраенні далучаных да роты Кміты казакаў — 42 прылбіцы на 48 чалавек ( Археографический сборник документов..., 1867. С. 214--224).

Прылбіцы ў сярэдзіне XVI ст. былі неад'емнай часткай феадальных арсеналаў. На захоп маёмасці, сярод якой значыліся "згброи, панцыри, тарчы, прылбицы, седла, вузды" и інш., скардзіўся ў 1559 г. уладальнік косаўскага маёнтка пан Якуб Савіцкі (АВАК, 1895. С. 76). Прылбіцы знаходзіліся сярод рэчаў, зрабаваных у 1557 г. у шляхцянкі Ганны Марцінавай (АВАК, 1895. С.257). Прылбіца мелася ў 1565 г. у маёнтку земянкі Слонімскага павета Зоф'і Віктарынавай Івацэвічах і "прылбиц старых осьм" — у Шылавецкім двары (АВАК, 1895. С. 156). Шэсць прылбіц засталося ў 1582 г. пасля смерці Андрэя Бабраўніцкага ў жамойцкім маёнтку Жэймяны (АВАК, 1887. С. 263).

Значная колькасць прылбіц, якой валодала заможная шляхта, дазвала ёй выстаўляць на вайну шматлікія атрады выключна ў такіх шлемах. Паводле попісу 1567 г., толькі прылбіцы мелі початы князёўны Любецкай Ганны Мікалаеўны Осцікавай (15 "коней"), суддзі зямлі Троцкай пана Размуса Даўгірда (16 "коней" і 8 драбаў), пана Станіслава Няміры (48 "коней"), ваяводы Мсціслаўскага і старасты Браслаўскага пана Юрыя Осціка (141 "конь"), пана Троцкага і старасты Бельскага Юрыя Аляксандравіча Хадкевіча (180 "коней") (РИБ, 1915. К. 504, 501, 444, 441) і інш.

Меншая забяспечаннасць прылбіцамі назіралася ў павятовых харугвах, куды ўваходзілі бяднейшая шляхта. Гэта тлумачыцца тым, што далёка не кожны феадал валодаў ахоўным узбраеннем наогул. Але і тут працэнт прылбіц сярод "шлемаўладальнікаў" быў вельмі высокім, у тым ліку і сярод рыцараў, якія не мелі ўласных васалаў, хаця маглі набыць засцерагальнае ўзбраенне ў адным экземпляры. Пэўна да такіх феадалаў належыў земянін Гарадзенскага павету Багдан Чашэйкавіч, які ў 1556 г. у сваім маёнтку Горніцы меў з ахоўнага ўзбраення толькі панцыр і прылбіцу (АВАК, 1894. С. 168). Падобны ж асартымент аховы цела меў у 1565 г. Іван Багдановіч з Мяхова, які скардзіўся, што ў яго "вшисток порадок военный погорел, то есть панцер, прильбица, сагайдаки два, ощепы два" (АВАК, 1895. С. 151). Цікава, што крыніцы фіксуюць ужыванне прылбіцы, г. зн. у

традыцыйным разуменні найбольш цяжкога з тагачасных шлемаў, у камплекце не толькі з цэльнакаваным даспехам (“зброяй бляхавай”), элементам якога яна, у прынцыпе, і з’яўлялася, але і з кольчатым панцырам, неметалічнымі даспехамі і нават у якасці адзінай дэталі засцерагальнага касцюма. У якасці прыклада можна разгледзіць дадзеныя попісу шэрагу тыповых павятовых харугваў за 1567 г.:

| Павет | Лічба апалчэнцаў | Лічба, меўшых шлем | Лічба меўшых прылбіцу | т.л. прылбіцу і пласцінчаты даспех | прылбіцу і панцыр | прылбіцу і неметалічныя даспехі | толькі прылбіцу | крыніца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Слонімскі | 355 | 93 | 83 | 6 | 71 | 5 | 1 | РИБ, т. 35, к. 838-852 |
| Ковенскі | 728 | 114 | 114 | — | 105 | 8 | 1 | там жа, к.712--747 |
| Менскі | 266 | 168 | 161 | 12 | 138 | 10 | 1 | там жа, к. 1215-1231 |
| Віленскі | 588 | 268 | 256 | 18 | 205 | 26 | 7 | там жа, к. 537-566 |
| Браслаўскі | 95 | 59 | 56 | 2 | 42 | 1 | 1 | там жа, к. 634-638 |
| Мазырскі | 30 | 22 | 22 | 1 | 21 | — | — | там жа, к.1235-1237 |
| Рэчыцкі | 49 | 37 | 37 | 3 | 32 | 2 | — | там жа, к. 1231-1233 |
| Пінскі | 257 | 102 | 99 | 1 | 97 | 1 | — | там жа, к.1203-1215 |
| Бельскі | 4027 | 317 | 310 | 3 | 162 | 120 | 25 | там жа, к. 1035-1181 |

Як бачна, спалучэнне прылбіц з аблегчанымі відамі даспеху ці ўвогуле без ніякай аховы тулава было ў сярэдзіне XVI ст. справай звычайнай. Між тым тыповая прылбіца таго часу (армэ) не толькі ахоўвала твар, але і змяншала абзор, што пры ўмове недастатковай бяспекі цела ў цэлым было не столькі карысным, колькі шкодным, асабліва для ваяроў, забяспечаных зброяй далёкага бою. А працэнт нагалоўяў, акрэсленых як “прылбіцы”, быў сярод падобных вояў нават вышэйшым чым у тых, якія мелі толькі халодную зброю. У рэестры ўзбраення, высланага ў 1569 г. з Нясвіжа да Чарнаўчыц, узгадваецца 25 прылбіц, спецыяльна названых “казацкімі”, у той час як шышакі, што былі, задавалася б, лягчэйшымі за прылбіцы ў традыцыйным разуменні гэтага слова, называюцца тут “гусарскімі” (AGAD, AR. n. 2, k. 15, 22). Прылбіцы часам выступалі таксама як адзіны элемент засцерагальнага ўзбраення пешых драбаў (у тым ліку і стральцоў ( РИБ, 1915. К. 443, 526), хаця соймавыя пастановы ўвогуле не прадугледжвалі для іх ніякай аховы цела (Документы..., 1897. С. 453).

Усё гэтае прымушае думаць, што ў шэрагу выпадкаў у літоўскім войску ўжываліся аблегчаныя прылбіцы, прыстасаванне якіх да патрэб лёгкаўзброенных ваяроў адбывалася, верагодна, за кошт здымання асобных частак. Цікавыя прыклады аблегчаных армэ прыносіць карціна “Бітва пад Оршай”, дзе паказаны наёмныя драбы як у “поўных” прылбіцах, так і ў прылбіцах са знятымі заслонамі і нават шчокамі (мал. 7). Можна думаць, што падобнае аблягчэнне прылбіц практыкавалася не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім. На карысць гэтага сведчыць, напрыклад, прылбіца без заслоны, якая дапаўняе даспех імператара Карла V, выраблены ў Інсбруку ў 1512 г. (Bruno, 1977. S. (1599), il. 61).

Ёсць падставы меркаваць, што ў XVI ст. тэрмінам “прылбіца” акрэсляліся і шлемы, абсалютна непадобныя на армэ. На гэта ўказвае шэраг пісьмовых крыніц як Вялікага Княства, так і яго суседзяў, у тым ліку і найбольш блізкай па характару ўзбраення Польшчы. Так, згодна з попісам польскай наёмнай роты Яны Пілецкага за 1531 г., у почаце Мікалая Завязы адзін з камбантантаў меў адначасова прылбіцу і шалом ( AGAD, KDAW, dz. 85, n. 19, к. 102), а Ян Туслёўскі, што служыў у 1552 г. у пешай роце Лямпарта Ганінскага, спалучаў прылбіцу з капалінам (AGAD, KDAW, dz. 85, n. 57, k. 122). Між тым, дзякуючы спецыфічнай канфігурацыі звона, прылбіца малодшага тыпу проста не можа спалучацца ні з шаломам (за выключэннем, хіба

што, сферычных шаломаў), ні тым больш з шыракаполым капалінам, які мусіць выступаць толькі як верхняе нагалоўе. Адсюль вынікае, што падобныя "прылбіцы"павінны былі ўяўляць сабой невялікія шлемы, досыць шчыльна прылягаўшыя да чэрапа і без пласцінавай заслоны, якая адхілялася шляхам падымання ўгару. У прынцыпе, такім патрабаванням адпавядалі баскінеты з наноснікамі, аднак магчымасць іх шырокага выкарыстання ў XVI ст. выклікае пэўныя сумненні. Праўда, "przylbic staroszwieczkich z noskami 3" фіксуюцца яшч ў 1584 г. у рэестры зброі Крыштофа Радзівіла (AGAD, AR, n. 5, к. 1), аднак той факт, што яны названы "старасвецкімі", сведчыць пра іх архаічнасць, а можа нават і рарытэтнасць.

Не выключана таксама, што ўзгаданыя прылбіцы канструктыйна набліжаліся да "прылбіц маскоўскіх", зрабаваных у 1564 г. у жаўнераў гаспадарскага двараніна Васіля Шашковіча" (Plewczyński, 1995. S. 41-42). Сыходзячы з самога тэрміна, гэта былі нагалоўі, даволі характэрныя для ўсходняга суседа Вялікага княства Літоўскага. Між тым шлемы з пласцінкавай аховай твару былі для Маскоўскай дзяржавы нетыповымі, хаця тэрмін "прылбіца" быў тут вядомы. Ён абазначаў міскападобнае нагалоўе-звон, якое прыкрывала лоб і забяспечвалася барміцай, прымацаванай не толькі па баках і ззаду, але і спераду (тут яна была карацейшай), засланяючы частку твару. Кальчужнае палатно можна было адхіліць, таму функцыянальна такія нагалоўі, вядомыя таксама як "місюркі" (ад арабск. Місp — Егіпет), сапраўды могуць быць залічаны да прылбіц, аднак канструкцыйна яны набліжаюцца да шаломаў. У Маскоўскай дзяржаве місюркі таксама насіліся пад іншымі шлемамі, асабліва калі апошнія не мелі барміцы (Винклер, 1992. С. 278; Денисова, Портнов, Денисов, 1953. С. 56).

Кальчужнае пляценне адыгрывала ў канструкцыі прылбіц-місюрак надзвычай важную ролю, што набліжала іх да кольчых каптуроў і рабіла натуральным дапаўненнем да панцыраў. Таму, хутчэй за ўсё, менавіта місюркі варта разумець пад тымі прылбіцамі, якія ўзгадваюцца як элемент кальчужнага камплекта. Найбольшую ўвагу прыцягвае ў гэтым сэнсе "рэестр паспалітых рэчаў скарбных" за 1510 г., у якім фігуруюць "панцыров 18, а прилбиц 18 новых до панцыров, а обойчиков панцырьных 17, а зарукаве 4, шорць один" (НАРБ, кмф-18, воп. 1, N 223, а. 161). Цалкам верагодна, што якраз місюркі былі названы ў спісе высланых у 1569 г. з Нясвіжа да Чарнаўчыц "прылбіцамі казацкімі", тым больш што падобныя нагалоўі ўжо ў часы Стэфана Баторага (1575-86) былі тыповым відам аховы галавы казацкай кавалерыі (Borawski, 1992. S. 212).

На жаль, на падставе пісьмовых крыніц нельга дакладна высветліць, аб якіх прылбіцах ідзе гаворка ў кожным канкрэтным выпадку. Можна толькі выказаць гіпатэтычнае меркаванне, што існавала тэндэнцыя ў выкарыстанні "поўных" прылбіц у камплекце са "зброяй бляхавай", аблегчаных прылбіц і місюрак — у выпадках адсутнасці баявога пакрыцця тулава, у той час як у спалучэнні з мягкімі даспехамі (кольчымі ці неметалічнымі) маглі ўжывацца ўсе мадіфікацыі прылбіц. Выбар нагалоўя абумоўліваўся тут, хутчэй за ўсё, густамі ці фінансавымі магчымасцямі ваяра, характарам наступальнай зброі альбо першапачатковай камплектацыяй[3].

САЛАДЫ

Тып шлема, вядомы як салада, з'яўляецца італьянскім вынаходніцтвам і ўпершыню ўзгадваецца ў 1407 г. у т. зв. "Інвентары Ганзагаў". У Германіі падобныя шлемы фіксуюцца пад тэрмінам "tschäladen" у спісах 1425-26 гг., а ў Польшчы яны фігуруюць як "lepka", "lapka", "lepkin" і г. д. з 1416 г. (Uzbrojenie..., 1990. S. 45--46). У якасці баявога шлема салады былі пашыраны ў Еўропе ў XV — першай палове XVI ст., хаця спарадычна яны маглі выкарыстоўвацца і пазней, галоўным чынам на турнірах пэўных тыпаў (Żygulski, 1982a. S. 148).

У аснове генезіса салады ляжаў баскінет (Müller, Kunter, 1984. S. 27), у выніку скруглення спічастага завяршэння і выгінання тыльнага края звона якога ўзнік адкрыты шлем з даволі плыткім звонам і кароткім, загнутым угару напатылічнікам, блізкі па баявых якасцях да шаломаў. У Цэнтральнай Еўропе ў сярэдзіне XV ст. была сфармавана т.зв. "нямецкая салада", якая характаразавалася глыбокім, прарэзаным візурай звонам, прыкрываўшым верхнюю частку твару, і доўгім напатылічнікам. У камплекце з падобнымі шлемамі шырока выкарыстоўваліся накладныя падбароднікі-"барты" (Müller, Kunter, 1984. S. 31; Żygulski, 1982a. S. 101). "Нямецкія салады" маглі быць як глухімі, так і з рухомай заслонай. Па

---

[3] Прыкладам такой камплектацыі можа таксама служыць зафіксаваны ў рэестры ўзбраення, высланага ў 1569 г. з Нясвіжа да Чарнаўчыц "tehiljay moskyewski na czjrwonim yaxamjcye bljaszkamj nitowanj s prjlbica" (AGAD, AR, n. 2, k. 30). Зразумела, што і прылбіца тут была, па ўсёй верагоднасці, "маскоўская", г. зн. місюрка.

канструкцыйных і функцыянальных асаблівасцях глухія салады набліжаліся да капалінаў з прарэзанымі візурай палямі, салады з заслонай — да прылбіц старэйшага тыпу.

Крыніцы, якія сведчаць аб ужыванні саладаў на землях Вялікага княства Літоўскага, даволі скупыя. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць арыгінальныя шлемы, адзін з якіх, знойдзены ў 1994 г. у г. Мсціславе, захоўваецца ў фондах мясцовага гісторыка-археалагічнага музея (Бохан, 1996. С. 33--39). Гэтая салада належыць да катэгорыі глухіх, выраблена з цэльнага кавалка жалеза і мае характэрную скругленую форму звона, краі якога злёгку адгінаюцца вонкі, а ззаду пераходзяць ў доўгі выгнуты напатылічнік. Уздоўж шлема праходзіць рабро, якое пераходзіць у сплошчаны грэбень. Пярэднюю частку звона праразае візура, перад якой размяшчаецца карнізік, утвораны шляхам загінання верхняга края паўмаскі (мал. 1: 6). Бліжэйшыя аналагі мсціслаўскай салады датуюцца 70-мі гг. XV ст. (Müller, Kunter, 1984. S. 258).

У Парыжскім музеі ўзбраення знаходзіцца салада, якая належыла да гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага, выробленага каля 1555 г. Кунцам Лохнерам (Fuiński, 1988. S. 131; Maryanowski, 1939. S. 95--96). Выкананы з аднаго кавалка метала звон шлема з доўгім напатылічнікам, грэбнем і высунутай наперад паўмаскай, забяспечанай стрыжнем для прыкручвання падбародніка, дапаўняецца спічаста прафіляраванай заслонай, якая ахоўвае лобную частку нагалоўя і выконвае функцыі ўзмацняльнай пласціны фактычна глухога шлема (мал. 1: 4). Салада належыла да турнірных і прызначалася для спецыяльнага саксонскага паядынка праз плот. У збраёўні Нясвіжскага замка захоўвалася яшчэ адна падобная салада, малюнак якой, зроблены ў сярэдзіне XIX ст. Ю.Т. Палкоўскім, апублікаваны М. Берсанам (Bersohn, 1904. S. 21--23). Гапоўную адметнасць гэтага шлема складала паўмаска, не выкаваная разам са звонам, а прыкляпаная да яго пры дапамозе васьмі нітаў (мал. 1: 5).

Што да выўленчых крыніц, якія сведчаць аб ужыванні саладаў у Вялікім княстве Літоўскім, то самыя раннія з іх датуюцца 80-мі гг. XV ст. Дзве салады — адкрытая і з заслонай паказаны на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу (мал. 4: 16--17). Дапоўненая падбароднікам салада з заслонай ахоўвае галаву вершніка "Пагоні" з т. зв. "літоўскай" пячаткі Аляксандра Ягелона, што ўжывалася гэтым вялікім князем з 1492 г. (Gumowski, 1930. S. 688; AGAD, DP, n. 4457, 7383, 7389) (мал. 2: 11). У часы кіравання Аляксандра падобныя шлемы з'яўляюцца таксама на манетах Вялікага Княства (Tyszkiewicz, 1875. S. 6, tabl. 8, 9).

Шырока прадстаўлены салады з заслонай на карціне "Бітва пад Оршай". Цікава, што салады, адлюстраваныя на карціне, маюць не толькі характэрныя для гэтага тыпу нагалоўяў сплошчаныя заслоны, ален і заслоны, тыповыя для прылбіц малодшага тыпу (мал. 7).

На сённяшні дзень асобнага тэрміна для акрэслення салады ў пісьмовых крыніцах Вялікага княства Літоўскага не выяўлена. Не выключана, што дзякуючы набліжанасці розных мадыфікацый саладаў па канструкцыйна-функцыянальных асаблівасцях да іншых відаў баявых нагалоўяў, яны фіксаваліся пад адпаведнымі тэрмінамі (прылбіца (Polska technika..., 1994. S. 231), капалін, часам можа нават шалом). Зыходзячы з гэтага, сам тэрмін "салада" прымяняльна да мясцовых рэалій выглядае даволі штучным, аднак яго выкарастанне, а таксама аб'яднанне канструкцыйна розных шлемаў у адзін тып, мэтазгодна з пункту гледжання традыцый еўрапейкага зброязнаўства. Разам з тым, адсутнасць спецыяльнага тэрміна абцяжарвае высвятленне шэрагу момантаў, звязаных з ужываннем саладаў у Вялікім Княстве, у прыватнасці — храналагічных рамак іх бытавання.

ШТУРМГАБЫ (ШТУРМАКІ)

У сучаснай еўрапейскай зброязнаўчай навуцы лічыцца, што ў аснове штурмгаба (ням. Sturmhaube) ляжала салада (Kwaśniewicz, 1989. S. 247--249; Żygulski, 1982a. S. 149--150; Müller, Kunter, 1984. S. 46--48). Аднак не выключана, што на кшталтаванне такіх шлемаў аказала таксама ўплыў прылбіца малодшага тыпа. Аснову штурмгаба складаў глыбокі звон з рухомым альбо нерухомым брыльком, найчасцей з грэбнем і з рухомымі шчокамі ці падбароднікам на шарнірах. Ахова патыліцы і шыі ажыццяўлялася як пры дапамозе выцягнутай тыльнай часткі звона, так і праз даданне фальговага напатылічніка. Як правіла, штурмгабы выступалі ў якасці адкрытага шлема, аднак ужываліся таксама экземпляры з аховай твару ў выглядзе маскападобнай заслоны альбо разбудаванага падбародніка-"барта" з візураю. У другой палове XVI ст. бытавалі таксама штурмгабы з рухомым наноснікам-"стрэлкай", прапушчанай праз адтуліну ў брыльку.

На землях Вялікага княства Літоўскага штурмгабы ўжываліся з сярэдзіны XVI ст., хаця спарадычна яны маглі выкарыстоўвацца і раней. На думку З. Фуіньскага, штурмгаб уваходзіў у склад даспешнага гарнітура работы аўсбургскага платнера Кольмана Гешміда з радзівілаўскай збраёўні ў Нясвіжы, які датуецца, прыблізна, 1530

г. (Fuiński, 1988. S. 125). Пару дзесяцігоддзяў пазней падобныя нагалоўі робяцца ўжо даволі масавымі, аб чым сведчыць, між іншым, запіс аб высылцы ў 1557 г. па замове надворнага платнера Жыгімонта Аўгуста Фларыяна Сібенбургера з Кракава ў Вільню "Armzeug und Sturmhauben geleych 150" (Swarczewski, 1987. S. 125). У 1566 г. у "цекгавзе" Берасцейскага замку знаходзілася 99 штурмгабаў, прычым іншых шлемаў замкавы інвентар не фіксуе (Документы..., 1897. С. 443).

Вялікая колькасць штурмгабаў мелася ў распараджэнні асобных магнатаў і заможнай шляхты. Так, на попіс 1567 г. каралеўскі сакратар пан Вацлаў Агрыпа "ставил коней пять збройне — зброи блях., штурмгабы, а влочни..."(РИБ, 1915. К. 460). З 15 вершнікаў, выстаўленых у тым жа годзе старастам Пінскім Юрыем Іванавічам, штурмгабы мелі 13 чалавек (РИБ, 1915. К. 506). Падобныя ж шлемы складалі большасць нагалоўяў, высланых ў 1569 г. з Нясвіжа да Чарнаўчыц (AGAD, AR, n.2, k. 15). Сярод іх налічвалася: "штрумгабаў для пешага люду шмальцаваных 36", "штурмгабаў з насамі для езднага люду шмальцаваных 13", "штурмгабаў месцамі пазалацістых 2", "штурмгабаў паліраваных да пешага люду 9", "штурмгаб заварты шмальцаваны 1", а таксама "зброя шмальцаваная гецаваная месцамі на белым штурмгабам з бартам і пляцаўніц пара 1". Штурмгабы "з насамі" — эта, напэўна, нагалоўі з наносінікам-"стрэлкай", у той час як "штурмгаб з бартам" мусіць азначаць нагалоўе са шчокамі і накладным падбароднікам, а "штурмгаб заварты" — шлем з маскай-заслонай. Такія штурмгабы ўваходзілі, дарэчы, паводле рэканструкцый О. Гамбера і З. Фуіньскага, у склад гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага работы Кунца Лохнера і яшчэ аднаго нясвіжскага гарнітура другой паловы XVI ст., асобныя часткі якога знаходзяцца зараз у нью-йоркскім Метрапалітэнскім музеі Мастацтва (Fuiński, 1988. Il. 109--110). Абодва нагалоўі мелі глыбокі звон, да якога на скроневых шарнірах мацаваліся брылёк і падбароднік з каўняром. Па баках падбародніка меліся яшчэ дзве пары шарніраў для мацавання двучасткавай заслоны, якая адхілілася шляхам апускання ўніз (мал. 6: 1, 2).

Гарнітур Радзівіла Чорнага ўключаў таксама і адкрыты штурмгаб, які на сённяшні дзень знаходзіцца ў зборах Венскага музея Узбраення. Шлем характаразуецца глыбокім звонам з аформленай у выглядзе напатылічніка тыльнай часткай, дзе размяшчаецца ўтулка пад султан, высокім грэбнем, статычным "ламаным" брыльком і шырокімі шчокамі (Żygulski, 1982a. S. 202, il. w alb. 94). Падобны па сваёй канструкцыі штурмгаб належыў і брату Мікалая Радзівіла Чорнага — Мікалаю Радзівілу Рудому. Скласці ўражанне аб ягоным выглядзе дазваляе партрэт уладальніка, змешчаны ў выдадзенай у 1601 г. у Інсбруку "Кнізе пра знакамітых воінаў", дзе гэты шлем паказаны ў камплекце з італьянскім паўдаспехам, выробленым у 1545--51 гг. (Ткачэнка, 1994. С.54--61, мал. 27; Żygulski, 1982a. S. 202).

Зрэдку фіксуецца ўжыванне штурмгабаў і феадаламі са сціплейшымі фінансавымі магчымасцямі. У попісе 1567 г. узгадваецца ашмянскі шляхціц Юры Забалоцкі, які "ставил конь и збройно, зброя бляхова, штурмгаб, рогат." (РИБ, 1915. К. 590). Разам з тым, ужыванне штурмгабаў павятовай шляхтай насіла хутчэй спарадычны, выпадковы характар, на што паўплывала, як падаецца, распаўсюджанне іншых нагалоўяў з блізкімі баявымі якасцямі, а менавіта шышакоў.

ШЫШАКІ

Распаўсюджанне падобных шлемаў у вялікім княстве Літоўскім адбывалася адначасова з распаўсюджаннем штурмгабаў. Яны ўяўлялі сабой адкрытыя нагалоўі, што складаліся са звона з прышнітаваным нерухомым брыльком, праз які прапушчаўся прыкручаны да лобнай часткі шлема наноснік, шчок і фальговага напатылічніка. Канструкцыйна шышакі набліжаліся да адкрытых штурмгабаў, аднак усходняе (праўдападобна турэцкае) іх паходжанне абумовіла тыпова арыентальныя абрысы. Звон шышакоў, сфераканічны ці сферычны (часам упрыгожаны султанам-"шкофіяй"), меў гарызантальна зрэзаны край і па прычыне адноснай плыткасці патрабаваў абавязковага дапаўнення фальговым напатылічнікам; шчокі, забяспечаныя слыхавымі адтулінамі, мелі спецыфічную міндалепадобную форму з таксама міндалепадобнай пукатасцю ў цэнтры (Kwaśniewicz, 1989. S. 253--254; Żygulski, 1982a. S. 150).

Негледзячы на арыентальнае паходжанне, шышакі ў XVI ст. прадукаваліся і ў цэнтральнаеўрапейскіх краінах. Наўднёванямецкім, праўдапабодна нюрнбергскім майстарам быў выраблены каля 1550 г. пакрыты залатым арнаментам і аздобляены каштоўнымі камянямі шышак з калекцыі Тышкевічаў у Лагойску, які захоўваецца зараз у кракаўскім Вавелі. Звон яго амаль сферычны, з вертыкальнымі фаскамі і гузам наверсе, шчокі — з міндалепадобнымі апраВамі слыхавых адтудін. Напатылічнік складаецца з пяці фольгаў, з тылу звона маецца ўтулка пад султан, брылёк шлема завостраны (наноснік страчаны) (Żygulski, 1982b. S.101, N 96).

Майстэрні нямецкага платнера належыць таксама шышак “венгерскага” тыпу са сфераканічным звонам, упрыгожаным у сярэдняй частцы дробнымі канелюрамі, завостраным брыльком, наноснікам і кароткім двухфальговым напатылічнікам. На абводзе звона пазначана дата вырабу — 1561. Шлем цалкам пазалочаны і пакрыты траўлёным раслінным узорам. Лічыцца, што першапачаткова ён належыў Мікалаю Радзівілу Чорнаму (зараз захоўваецца ў Вавелі) (Żygulski, 1982b. S. 99, N 93).

Падобныя багата аздобленыя шышакі з’яўляліся надзвычай каштоўным элементам узбраення. Сярод маёмасці, зрабаванай у 1577 г. у двары Верхавецкім, што належыў Апалоніі Капцовай, фігуруюць 3 “шышакі пазаліцыстыя, серабром апраўленыя са шкофіяй”, якія каштавалі 100, 70 і 60 коп літоўскіх грошаў, што раўнялася кошту 30--50 кныроў ці 15--25 добрых валоў (АВАК, 1870. С. 282, 288)! Натуральна, што такія каласальныя сумы выплочваліся толькі за асобныя нагалоўі параднага прызначэння. Звычайныя баявыя шышакі былі значна таннейшымі: некаторыя з іх каштавалі 1--1,5 коп (АВАК, 1870. С. 285, 290; АВАК, 1895. С. 237). Гэта была даволі даступная цана, паколькі, як сведчаць, напрыклад, дадзеныя поспісу 1567 г., шышакі ўжываліся не толькі магнатамі, але і павятовай шляхтай.

Як бачна, працэнт шышакоў у агульнай масе шлемаў, што знаходзіліся на ўзбраенні павятовай шляхты, быў у 60-х гг. яшчэ невысокім, аднак ужо ў гэты час яны займаюць па папулярнасці другое месца пасля прылбіц, прычым пазначылася выразная тэндэнцыя па выцясненню апошніх шышакамі. Толькі шышакі фігуруюць сярод рэчаў, зрабаваных у 1564 г. у двары Вечын каля Луцка, у 1566 г. у маёнтку Серабрышчы, у 1577 г. у Верхавіцкім двары Берасцейскага павету (Малиновский, 1902.С. 448; АВАК, 1870. С.282--285; АВАК, 1895. С,. 237). Выключна такія нагалоўі засталіся пасля смерці шляхціца Берасцейскага ваяводства Міхайлы Казярадскага ў 1580 г.

| Павет | Колькасць апалчэнцаў у попісе | Колькасць апалчэнцаў са шлемамі | Колькасць меўшых шышак | У % да ўсіх уладальнікаў шлемаў |
|---|---|---|---|---|
| Слонімскі | 355 | 93 | 10 | 9,3 |
| Ковенскі | 728 | 114 | — | — |
| Менскі | 266 | 168 | 4 | 2,4 |
| Віленскі | 588 | 268 | 12 | 4,5 |
| Браслаўскі | 95 | 59 | 3 | 5,1 |
| Мазырскі | 30 | 22 | — | — |
| Рэчыцкі | 49 | 37 | — | — |
| Пінскі | 257 | 102 | 3 | 3 |
| Бельскі | 4027 | 317 | 7 | 2,2 |

(АВАК, 1867. С. 213). Толькі шышакі пакінуў у 1582 г. пасля сябе ў маёнтку Карсаковічы Менскага павета Марцін Вольскі (АВАК, 1912. С. 58).

Шпарчэйшымі тэмпамі адбывалася пашырэнне шышакоў сярод заможных феадалаў. Так, у наёмнай роце Філона Кміты ў 1567 г. на 98 прылбіц прыпадала 53 шышакоў, але найбольшы працэнт падобных нагалоўяў назіраўся сярод даводцаў початаў--таварышаў, 24 з якіх мелі шышакі і толькі 2 — прылбіцы (Археографический сборник..., 1867. С. 214--222). У 1567 г. цэлыя атрады, узброеныя шышакамі, выслалі на попіс Васіль Чапліч, арандар маёнтка Маяляцічы Слонімскага павета, пан Андрэй Аўлачынкі, уладальнік маёнткаў у Слонімскім, Менскім і Уладзімірскім паветах, падкаморы Уладзімірскі пан Аляксандр Сямашка ( РИБ, 1915. К. 511, 515, 518) і інш.

Важным крокам, спрыяўшым пашырэнню шышакоў, служылі вайсковыя рэформы Стэфана Баторага другой паловы 70-х гг. XVI ст., якія вызначылі шышак у якасці прыярытэтнага нагалоўя найбольш “аўтарытэтнага” на той час рода войск — гусарыі (Żygulski, 1982a. S. 183). У III Статуце Вялікага княства Літоўскага шышак узгадваецца ўжо як адзін з асноўных відаў шлемаў, рэкамендуемых для ўжывання (Статут..., 1989. С. 103).

ЛІТАРАТУРА:

1. АВАК. Вильна, 1867. Т. II
2. АВАК. Вильна, 1870. Т. III.

3. АВАК. Вильна, 1887. Т. XIV.
4. АВАК. Вильна, 1890. Т. XVII.
5. АВАК. Вильна, 1894. Т. XXI.
6. АВАК. Вильна, 1895. Т. XXII.
7. АВАК. Вильна, 1912. Т. XXXVI.
8. АЗР. СПб., 1848. Т. 2.
9. Акты литовско-русского государства. М., 1899. Вып. 1. С предисловием М.В. Довнар-Запольского.
10. АСД. 1867. Т. III.
11. Арциховский А.В. Древнерусские миниатюры как исторический источник. М., 1944.
12. Бохан Ю. Мсціслаўская салада і верагоднасць ужывання падобных шлемаў у Вялікім княстве Літоўскім // ГАЗ. 1996. Вып. 8.
13. Винклер П. Оружие. Руководство к истории, описанию и изображению ручного оружия с древнейших времен до начала XIX века. М., 1992.
14. Волкайте-Куликаускене Р. К вопросу о древнейших шлемах в Литве ( резюме) // MADA. 1965, n. 2 (19).
15. Габрюнайте К. Локальные подражания раннесредневековых шлемов русского стиля в Литве // Acta Baltico-Slavica. Diałystok, 1965. Т. 2.
16. Горелик М.В. Монголо-татарское оборонительное вооружение второй половины XIV — начала XV в. // Куликовская битва в истории и культуре нашей Родины. М., 1983.
17. Горелик М.В. Ранний монгольский доспех (IX — первая половина XV в.) // Археология, этнография и антропология Монголии. Новосибирск, 1987.
18. Денисова М.М., Портнов М.Э., Денисов Е.Н. Русское оружие. Краткий определитель русского боевого оружия XI — XIX веков. М., 1953.
19. Документы Московского архива министерства юстиции. М., 1897. Т. 1.
20. Кирпичников А. Военное дело на Руси в XIII — XV вв. Л., 1976.
21. Кирпичников А. Древнерусское оружие. Л., 1971. Вып. 3: Доспех, комплекс боевых средств IX — XIII вв.
22. Любавский М. Литовско-русский сейм. Опыт по истории учреждений в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900.
23. Малиновский И. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского // Известия императорского Томского университета. Томск, 1902. Кн. 21.
24. НАРБ, кмф-5, воп. 1, N 2483.
25. НАРБ, кмф-18, воп. 1, N 223.
26. Осе И.А. О происхождении и распространении одной серии печных изразцов XVI в. в Ливонии // ГАЗ. 1995. N 6.
27. Памецька Н.К. Назвы зброі ў помніках беларускай пісьменнасці XV — XVII стст. // Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук. 1982, N 5.
28. Радзивиловская или Кенигсберская летопись. Спб., 1902. Т. 1. Фотомеханическое воспроизведение рукописи.
29. РИБ. Пгр., 1915. Т. 33.
30. Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989.
31. Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
32. Ткачэнка М.І. Амбразкая калекцыя даспехаў і гравіраваныя партрэты Радзівілаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994.
33. Чернецов А. Радзивиловская летопись // Свитязь: альманах библиофилов Белоруссии. Мн., 1989.
34. Финно-угры и балты в эпоху средневековья. М., 1987 (Археология СССР).
35. Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюры XVI — XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.
36. AGAD, AR, dz. XXVI, n. 2.
37. AGAD, AR, dz. XXVI, n. 5.

38. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 17.
39. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 19.
40. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 22.
41. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 28.
42. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 39.
43. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 42.
44. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 52.
45. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 57.
46. AGAD, KDAW, dz. 85, n. 59.
47. AGAD, DP, n. 815.
48. AGAD, DP, n. 4435.
49. AGAD, DP, n. 4439.
50. AGAD, DP, n. 4440.
51. AGAD, DP, n. 4446.
52. AGAD, DP, n. 4448.
53. AGAD, DP, n. 4449.
54. AGAD, DP, n. 4457.
55. AGAD, DP, n. 7253.
56. AGAD, DP, n. 7313.
57. AGAD, DP, n. 7383.
58. AGAD, DP, n. 7389.
59. Barlett C., Embleton G. The Medieval Footsoldier 1460--85. Edged Weapons and Helmets //Military (без нумара)
60. Bashford D. Handbook of arms and armor eurpean and oriental including the William H. Riggs Collection. New York, MCMXXII.
61. Bershon M. Dawna zbrojownia książąt Radziwiłłów w Nieświeżu. Warszawa, 1904.
62. Biskup M. Grunwaldska bitwa. Geneza-przebieg-znazenie-tradycje. Warszawa, 1991.
63. Borawski P. Urbrojenie, barwa i chorągwie tatarów Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI — XVI w. // Muzealnictwo wojskowe. Warszawa, 1992. T. 5.
64. Bruno T. Gesammelte schriften zur historischen waffenkunde. Graz, 1977. T. 2.
65. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae // Monumenta medii aevi Historica. Cracoviae, 1882. T. VI.
66. Csapodi-Gardonyi K. Ilustrowane kodeksy europejskie. Wrocław, 1984.
67. Fuiński Z. Garnitur zbroi // Studia do dziejów dawnego uzbrojenia i ubioru wojskowego. Kraków, 1988. Cz. IX--X.
68. Głosek M., Nowakowski A. Średniowieczna przyłbica z Muzeum Okręgowe w Noruniu. Przyczynek do znajomości bałtyjskiego uzbrojenia ochronnego // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. Warszawa, 1980. R. XXVIII, n. 1.
69. Gumowski M. Pieczęcie książąt litewskich // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1930. R. VII, zeszyt 3-4.
70. Kwaśniewicz Wł. 1000 słów o broni bialej i uzbrojeniu ochronym. Warszawa, 1989.
71. Müller H., Kunter F. Europäische heilme aus der Sammlung des Museum für Deutsche Geschichte. Berlin, 1984.
72. Maryanowski A. Polskie zabytki w Paryżu. Museé de l'Armeé // Broń i barwa. 1939. R. VI, n. 7.
73. Nowakowski A. Uzbrojenie wojsk krzyżackich w Prusach w XIV i na początku XV w. // Acta archeologica Lodziensia. Łódz, 1980. Nr 29.
74. Plewczyński M. Ludzie Wschodu w wojsku ostatnich Jagiellonów. Warszawa, 1995.
75. Polonia typograficzna saeculi sedecimi. Zbiór podobizn zasobu drukarskiego tłoczni polskich XVI stulecia. Wrocław etc., MCMLXII. Zeszyt IV (2).
76. Polska technika wojskowa do 1500 roku // Z dziejów nauki i techniki. Warszawa, 1994. T. 1.
77. Rachunki dworu króla Jagełły i królowej Jadwigi z lat 1388 do 1420, ed. F. Piekosiński // Monumenta medii aevii historica res gestas Poloniae illustranta. Kraków, 1896. T. 15.
78. Semkowicz Wł. Sfrafistyka Witolda // Wiadomości numismatyczo-archeologiczne. Kraków, 1930. T. XIII — R. 1930.
79. Sochaniewicz K. Pieczęc Kiejstuta w zbiorze sfraristycznym miasta Torunia //

Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne. Kraków, 1930. T. XII — R. 1928 i 1929.

80. Swaryczewski A. Płatnierze krakowscy. Kraków, 1987.

81. Tyszkiewicz J. Skorowidź monet litewskich. Warszawa, 1875.

82. Urbrojenie w Polsce średniowiecznej 1350-1450. Łódz, 1990.

83. Vossberg F.A. Siegel des Mittelalters von Polen, Lithauen, Schlesien, Pommern und Preussen. Berlin, 1854.

84. Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Tudzeż rozprawy sejmove o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563. Poznań, 1841.

85. Żebrawski T. O pieczęciach dawniej Polski i Łitwy. Kraków, 1865.

86. Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wscodu. Warszawa, 1982 [a].

87. Żygulski Z. Stara broń w polskich zbiorach. Warszawa, 1982 [b].




Мал. 1. Шлемы другой паловы XIV — XVI стст.: 1 — цыліндычна-канічны шалом з Мельна, 2 — сфераканічны шалом з Выструця над Прэгалай, 3 — сферычны шалом з Ковенскага дзяржаўнага гістарычнага музея, 4 — турнірная салада Мікалая Радзівіла Чорнага, 5 — турнірная салада з Нявіжскай збраёўні, 6 — баявая салада з Мсціслава.




Мал. 2. Выявы вершнікаў з пячатак літоўскіх князёў другой паловы XIV — XV стст.




Мал. 3. Пячаткі літоўскіх князёў другой паловы XIV — першай паловы XV ст.




Мал. 4. Тыпы баявых нагалоўяў з мініяцюр Радзівілаўскага летапісу.



Мал. 5. Гравюра "Бітва пад Оршай" з брашуры Андрэя Крыцкага.




1




2

Мал. 6. Рэканструкцыі даспешных гарнітураў XVI ст. князёў Радзівілаў.



Мал. 7. Тыпы баявых нагалоўяў з карціны ананімнага мастака "Бітва пад Оршай".

ГАНЕЦКАЯ І., ЗДАНОВІЧ Н. (Мінск)

# РАСКОПКІ СТАРАЖЫТНАГА СЛОНІМА

Археалагічнае вывучэнне Слоніма мае ўжо больш як шасцідзесяцігадовую гісторыю. Яна цесна звязана з лёсам самога горада, з аднаго боку, а з другога, — з'яўляецца тыповым адлюстраваннем развіцця накірункаў у археалагічнай навуцы. Прааналізуем гісторыю археалагічнага вывучэння горада, каб вызначыць яе этапы, некаторыя вынікі і перспектывы.

У 20 — 30-я гады археалагічныя доследы на тэрыторыі Савецкай Беларусі вяліся пад кіраўніцтвам Інбелкульта, а пасля ўтворанай на яго базе Акадэміі навук. Сфераю інтарэсаў былі помнікі найстаражытнай гісторыі, архітэктурныя збудаванні XI — XII ст. і раннія гарады. Менавіта тады пачаліся раскопкі ў Заслаўі, Мінску, Полацку. Ставілася задача пошуку першапачатковага ядра гэтых паселішчаў.

Тая ж тэндэнцыя мела месца і ў Заходняй Беларусі, хоць і не было адзінага арганізацыйнага цэнтра даследаванняў. Раскопкі ў Гродне, Ваўкавыску праводзіліся мясцовымі музеямі. Да гэтага ж часу адносіцца спроба знайсці старажытны цэнтр Слоніма ў месцы ўпадзення р.Ісы ў Шчару, прадпрынятая заснавальнікам музея горада І.І.Стаброўскім.

Наступны этап у гісторыі археалагічных даследаванняў пачынаецца адразу пасля вайны і працягваецца ў 50 — 60-я гады. Тое, што забудова часткі гарадоў, у тым ліку і іх гістарычных цэнтраў, была разбурана, дало магчымасць вывучыць дзядзінцы, а ў некаторых выпадках пачаць поўнамаштабныя раскопкі (Мінск).

У Слоніме ў 1946 г. Г.І.Пехам у раёне горада, што называўся "Замчышча" знойдзены фрагменты рэчаў XII ст. (шкляны бранзалет, кавалкі керамічнага посуду). У 1953 г. даследчык заклаў разведачны шурф памерам 2 х 4,2 м. Выявіўся магутны культурны слой з матэрыяламі XII — XVII ст. У выніку у 1959 г. Г.І.Пех разбіў на тым самым месцы раскоп плошчай 64 кв. м. Высветлілася, што напластаванні на Замчышчы дасягаюць 5 м, культурны слой выдатна захоўвае арганічныя рэчывы. Апошняе дало магчымасць вывучыць рэшткі жылых дамоў з печамі, абрэзкі скуры, фрагменты і цэлыя экзэмпляры скуранога абутку, драўляны посуд, дэталі ткацкага станка, зафіксаваць шматлікія сляды касцярэзнага рамяства і металаапрацоўкі (Пех, 1966). Самыя раннія рэчы даследчык датаваў XI ст. (Зверуго, 1972). У выніку раскопак не толькі сабраны багаты археалагічны матэрыял, вывучаны рэшткі гарадской забудовы XII — XIII ст., але высветлены пытанні планіроўкі дзядзінца раннесярэднявечнага Слоніма (Зверуго, 1972, 1989). Аднак, ізноў жа, у публікацыях па выніках даследаванняў галоўная ўвага надавалася матэрыялам да XIV ст., а больш познія знаходкі толькі ўзгадваліся.

З канца 70-х гадоў кола інтарэсаў археолагаў, што займаліся вывучэннем феадальных гарадоў Беларусі (не без прыкладу польскіх археолагаў), значна пашыраецца. Разам з культурнымі напластаваннямі XI — XIII ст. актыўна даследуюцца слаі з матэрыяламі XIV — XVIII ст. Асабліва інтэнсіўна вывучаюцца сярэднявечныя замкі, гарады Мсціслаў, Магілёў, Гродна, Віцебск. У 1980-х гадах з той самай мэтай былі праведзеныя і разведкавыя раскопкі ў Слоніме (кіраўнікі экспедыцый Н.Здановіч, А.Краўцэвіч — 1983 г., І.Ганецкая, Н.Здановіч — 1988 г.). Задачай раскопак было прасачыць наяўнасць культурнага слою ў розных месцах старога горада, вызначыць яго магутнасць, храналогію, насычанасць знаходкамі, даследаваць воблік матэрыяльнай культуры. Усяго за 80-я гады было ўскрыта 154 кв. м: 10 шурфамі і траншэяю даследаваўся гістарычны цэнтр, 5 шурфамі і 2 траншэямі — тэрыторыя ля касцёла Святога Андрэя (мал. 1,2).

Шурфы пацвердзілі наяўнасць пасаду XII — XIII ст. уздоўж левага берагу Шчары на адлегласці прыкладна ў 200 і 500 м уверх па плыні ракі (Краўцэвіч, 1991. С. 47). Пераважная большасць матэрыялаў адносіцца да XVII — XVIII ст. Самыя магутныя культурныя напластаванні гэтага часу зафіксаваны паміж вуліцай Васі Крайняга і плошчай Леніна і дасягаюць 1,5 — 2,8 м. Тры шурфы і дзве траншэі каля касцёла Святога Андрэя паказалі прысутнасць тут матэрыялаў не раней XVI ст. пры магутнасці слоя ад 0,5 да 1,4 м. Стратыграфічна найбольш выразная праслойка XVI — XVII ст. прасочана менавіта тут, у траншэі (мал. 15). Адкладанні XVII ст. і больш позняга часу з рэшткамі пабудоў зафіксаваны ў раёне сінагогі, паабапал плошчы Леніна, каля былога бернардынскага кляштара. Найбольш багатыя матэрыялы і магутны культурны слой выяўлены недалёка ад музея.

Апошнія раскопкі паказалі, што культурны слой позняга сярэднявечча ў розных частках горада знаходзіцца ў даволі добрым стане. Выдатная ўласцівасць слонімскай глебы захоўваць арганічныя рэчывы абяцае будучым даследчыкам багатыя знаходкі. Але і сённяшні ўзровень вывучанасці матэрыяльнай культуры Слоніма XIV — XVIII ст. дае падставы казаць пра

своеасаблівую і разнастайную культуру еўрапейскага горада.

КЕРАМІКА

Як паказваюць статыстычныя дадзеныя, у археалагічным матэрыяле заўсёды моцна пераважае бытавая кераміка. Так, з 1347 знаходак з траншэі ля касцёла Святога Андрэя 1292 складаюць калекцыю бытавога посуду (табл. 1). Большую частку керамічных комплексаў беларускіх гарадоў і замкаў прадстаўляе непаліваны кухонны і сталовы посуд. Маючы на ўвазе, тое, што непаліваныя гаршкі маюць шырокі храналагічны дыяпазон (ад XII да XIX ст.), што менавіта яны з'яўляюцца асноўнай катэгорыяй знаходак пры распрацоўцы адноснай храналогіі слоя, мы і пачнём з гэтай групы бытавой керамікі. Асартымент яе складаецца з гаршкоў, макотраў, патэльняў, латкаў, місак, талерак, гладышоў, накрывак (мал. 3,5 — 9).

Гаршкі па афармленні венчыкаў падзяляюцца на некалькі тыпаў (мал. 3).

Тып I. Сасуды з рэзка адагнутым, вертыкальна завершаным венчыкам і выразным карнізікам для накрыўкі. Плечукі плаўна пераходзяць у канічнае тулава. На донцы бачныя сляды пясчанай падсыпкі. На некаторых выяўлены фрагменты выпуклых клеймаў (мал. 10: 3). Амаль заўсёды па плечуку нанесены трох- або шматрадны лінейны арнамент (мал. 9). У зломе бачныя дамешкі жарствы і пяску. Абпал раўнамерны, праведзены ў акісляльным асяроддзі. Экзэпляры тыпу I траплялiся ў верхніх пластах шурфа на вул. В.Крайняга, 10 (вынік перакопаў), вул. Энгельса і Берагавой. Сценкі с суцэльным рыфленнем і донцы з клеймамі сустракаліся і глыбей. Такія гаршкі характэрныя для тэрыторыі Беларусі XII — XIII ст. (Зверуго, 1975. С. 63, мал. 22).

Тып II прадстаўлены адным экзэмплярам. Высокі, плаўна адагнуты венчык з невялікай бароздкай па краі непрыкметна пераходзіць у пакатыя плечукі, што ўпрыгожаны шматрадным лінейным арнаментам. Для Ваўкавыска такія сасуды характэрны для XIII ст., сустракаюцца і ў XIV ст.

Тып III. Знойдзены адзін венчык такога тыпу. Невысокі, амаль вертыкальна пастаўлены, ён плаўна перацякае ў слабапрафіляванае тулава. Па краі венца ідзе бароздка. Сасуды такой формы вядомыя ў Полацку, дзе датуюцца XIII — XIV ст. (Штыхов, 1975. С. 81, мал. 40).

Тып IV. Для гаршкоў дадзенага тыпу характэрны трохкутны ў разрэзе венчык і невысокая шыйка. Першыя ўзоры сутракаюцца ўжо ў XIV ст. Такія раннія сасуды адрозніваюцца выразнай выемкай па ўнутраным краі венчыка, высокай шыйкай, шматрадным лінейным або хвалістым (мал. 8: 1) арнаментам (тып IV A). Шырокае распаўсюджанне атрымалі ў XV — XVI ст.

Тып V. Фрагменты венчыкаў з коса зрэзаным краем, выраблены з чырвонай гліны з дамешкамі пяску. У вялікай колькасці яны сустракаюцца ў Лідскім, Мірскім замках, Мінску, Маладзечне і датуюцца XVI ст.

Тып VI. Гаршкі тыпу VI адрозніваюцца высокай шыйкай, амаль гарызантальным плечыкам, што рэзка пераходзіць у тулава. Па краі венчыка часта ідзе бароздка. Па аналагах датуюцца XVI ст. Такія ж пасудзіны знойдзены ў Мірскім замку, дзе сустракаюцца таксама ў XVII ст. (Здановіч, Краўцэвіч, Трусаў, 1995).

Тып VII. Даволі вялікая група сасудаў. Гаршкі са скругленным венчыкам, што адразу пераходзіць у крутое плечыка. Па аналагах з Мірскага замку і Копысі (Левко, 1992) найбольш раннія экзэмпляры (варыянт А) датуюцца XV ст., але значна распаўсюджаныя ў XVI і XVII ст.

Тып VIII. Самы распаўсюджаны ў XVII ст. тып непаліваных гаршкоў. Гэта сасуды без шыйкі, з выразным плечыкам, што рэзка пераходзіць у канічнае тулава. Існавала некалькі варыянтаў афармлення венчыка: злёгку скруглены край, коса ці гарызантальна зрэзаны, з бароздкай. Сустракаюцца па ўсім горадзе. У вялікай колькасці знойдзены сярод матэрыялаў XVII ст. з Мірскага, Крэўскага замкаў, Маладзечна.

Тып IX блізкі да толькі што апісанага. Адрозненне ў тым, што прафіляваны венчык практычна не выходзіць з плоскасці плечыка (мал. 8: 2). Варыянт Б характэрны больш для XV — XVI ст., варыянт А — для XVII ст. Аналагічны посуд пераважае сярод матэрыялаў XVII ст.у Любчы і Гальшанах.

Тып X прадстаўлены адным фрагментам. Характарызуецца амаль вертыкальна пастаўленым крыху звужаным венчыкам, адсутнасцю шыйкі, выразным крутым плечуком.

Тып XI. Асаблівасцю гаршкоў азначанага тыпу з'яўляецца тое, што яны дакладна паўтараюць прафіліроўку паліваных гаршкоў XVII ст.

Тып XII. Аналагічная паліванаму посуду і форма венчыкаў гаршкоў XII тыпу. У параўнанні з папярэднімі маюць шырокую бароздку на ўнутраным краі венчыка.

Цікава прасачыць змены ў месцы лакалізацыі ручкі на гаршках на працягу XVI — XIX ст.: спачатку яна мацуецца да края венца і найбольшага дыяметра тулава (мал. 4, тып I), а з

XVIII ст. пераносіцца на найбольш выпуклую частку тулава (мал. 8: 6).

Макотры выраблены як і гаршкі, з фармовачнай масы з дадаткамі жарствы і пяску. Гэта сасуды цыліндрычнай формы з тоўстымі, даволі высокімі сценкамі і прафіляваным патоўшчаным венчыкам. Звонку па сценках і венчыку можа быць нанесены арнамент. Па афармленні венчыка вылучаецца некалькі тыпаў слонімскіх макотраў (мал. 6).

Тып I. Цыліндрычная аснова формы сасуда змягчаецца трошкі скругленнымі сценкамі. Моцна адагнуты венчык утварае амаль гарызантальны, крыху прыўзняты борцік, край якога скруглены. Ніжэй краю ідзе наляпны валік. Пад ім па борціку бягуць трохрадныя хвалі. Макотры дадзенага тыпу датуюцца XVI ст. Бліжэйшыя аналагі ім знаходзім сярод матэрыялаў канца XV — пачатку XVI ст. з Лідскага замку.

Тып II. Сасуды маюць тулава амаль цыліндрычнай формы і амаль гарызантальна адагнуты вузкі борцік, край якога зрэзаны вертыкальна (варыянт А) ці мае пасярэдзіне раўчук (варыянт Б). Таксама, як і начынне папярэдняга тыпу, датуецца XVI ст. і мае блізкія аналогіі гэтага часу ў матэрыялах Мірскага замку (Здановіч, Краўцэвіч, Трусаў, 1995. Мал. 39). Тулава макотраў упрыгожвалася шматрадным рыфленнем.

Тып III. Макотры гэтага тыпу мелі венца ў выглядзе знешнеасіметрычнага патаўшчэння рознай формы, часам з равочкам пасярэдзіне (варыянт А), ці без яго (варыянт Б). Тулава ў большасці выпадкаў аздоблена наляпным жгутом з пальцавымі ўціскамі. Шырока распаўсюджаныя ў XVI — першай палове XVII ст. ў Мірскім замку (Здановіч і інш., 1995. Мал. 39).

Сярод матэрыялаў XVII — XVIII ст. пераважаюць макотры з тонкімі неарнаментаванымі сценкамі са знешнеасіметрычна ці сіметрычна патоўшчаным гарызантальна абрэзаным венцам (тып IV).

Цікава адзначыць знаходку фрагментаў макотраў, на ўнутранай паверхні якіх ад сярэдзіны да донца даволі глыбока пракрэслены па сырому чарапку згрупіраваныя па тры лініі. З такую самай з'явай сустракаліся ў Маладзечне (Ганецкая, 1996. С. 74).

Накрыўкі да кухоннага посуду ці невысокія з простым абрэзам края, ці маюць усечанаканічную форму з ледзь заўважным борцікам. Дыяметр найбольшых з іх дасягае 30--33 см (мал. 7: 5 — 7).

Прыкметную частку керамічнай калекцыі сярэднявечнага Слоніма складаюць патэльні. З-за невялікай іх вышыні шмат гэтых начынняў захавалася даволі добра і маюць поўныя профілі. Формы іх стандартныя і фактычна не змяняліся. Адрозненні выяўляюцца толькі ў прысутнасці невялікай бароздкі на краі венчыка.

Яшчэ адным відам кухоннага посуду былі латкі (мал. 8: 3). Самыя раннія начынні мелі піялападобнае тулава і афармленнем венца нагадвалі гаршкі тыпу VIII (мал. 3). Латкі, як і частка гаршкоў і макотраў, часта маюць сляды абварвання.

Адзінкавыя знаходкі сталовага посуду: талеркі з карбоўкай па борціку і неарнаментаваны фрагмент з равочкам па краі (мал. 7: 3,4), а таксама місак піялападобнай формы глыбінёй каля 6 см з равочкам па краі неаддзеленага венца (мал. 7: 1,2). Тарная кераміка прадстаўлена гладышамі XVIII — XIX ст. з патоўшчаным краем венца (мал. 7: 8).

Апроч посуду у калекцыі ёсць цэлая чырвонагліняная люлька з кляймом накшталт SS (мал. 11: 2). Паверхня старанна загладжана і ўпрыгожана камбінаваным геаметрычным арнаментам (хвалі, лініі, кропкі).

Выключнай асаблівасцю Слоніма з'яўляецца тое, што сярод вырабаў без палівы XVII — XVIII ст. незвычайна вялікае месца займае дымлёная кераміка (гл. табл. 1). Намі вылучана сем тыпаў дымлёных гаршкоў XVI — XX ст. (мал. 4).

Тып I уяўляе сабой танкасценныя начынні з невысокай шыйкай і злёгку адагнутым ці закругленным краем венца. Частка гаршкоў мела ручку, што ўверсе мацавалася да края венца (мал. 11: 1). Найчасцей адносяцца да XVI ст.

Тып II. Гаршкі мелі шырокі раўчук знутры па венцы манжэтападобнай ці складанапрафіляванай формы. Досыць шматлікі тып, датуецца XVI — пачаткам XVII ст.

Тып III. Амаль вертыкальна пастаўленае венца мае складаную прафілёўку знешняга боку. Найбольш распаўсюджаны тып венцаў у слаях першай паловы XVII ст. у Слоніме (варыянт А), а таксама на тэрыторыі паўночна-заходняга рэгіёну (варыянт Б), але, адзначым, сярод паліванага посуду.

Тып IV. Гаршкі гэтага тыпу не мелі шыйкі і венца, з канаўкай пасярэдзіне ці проста валікападобнае заканчэнне пасаджана проста на тулава.

Тып V. Гаршкі з цыліндрычнай шыйкай і канаўкай пад краем венца са знешняга боку складаюць самую шматлікую групу паліваных гаршкоў сярэдзіны XVII ст. у Мірскім замку (тып III). У Слоніме большасць іх — дымленыя, хаця сустракаліся і паліваныя начынні.

Тып VI. Гаршкі ўяўляюць сабой начынні S-падобнай формы, найчасцей пазбаўленыя арнаменту. Характэрны для верхніх пластоў у

траншэях каля касцёла Святога Андрэя і датуюцца канцом XVII — XVIII ст.

Тып VII. Тыповая рыса гаршкоў гэтага тыпу — наяўнасць каленападобнага выступа знутры пры пераходзе венца ў тулава. З'яўляецца ён яшчэ ў гаршкоў XVII ст., але характэрны для больш позніх сасудаў, аж да пачатку XX ст., прычым як для дымленых, так і для паліваных і нават непаліваных начынняў.

Па колькасці знаходак пасля гаршкоў другое месца належыць макотрам (мал.7:9-14). Асаблівасцю слонімскіх макотраў з'яўляецца тое, што амаль усе яны (і дымленыя, і непаліваныя) маюць на патоўшчаным венцы нанесены пальцам арнамент розных відаў: звычайны адбітак пальца або хваля, зробленая пальцам (мал. 10:1). Як і непаліваныя, дымленыя макотры мелі гарызантальны ці скошаны ўнутр край венца. Дыяметр па венцы ад 23 да 30 см. Часам вонкавая паверхня суцэльна выглянцаваная. Па характару фармовачнай масы яны аналагічныя гаршкам з манжэтападобным венцам, з якімі, відаць, і суіснуюць. Глыбокія латкі па афармленні края венца набліжаюцца да макотраў (мал. 7: 15 — 17). Сценкі іх упрыгожаны наляпным валікам (мал.8:4), тулава піялападобнай формы.

Шматлікімі фрагментамі горлаў цыліндрычнай формы і дымлёнымі або глянцаванымі сценкамі прадстаўлены гладышы і збаны (мал.8: 28 — 30). Збаны мелі круглую або шырокую стужкападобную рабрыстую ручку. Мяркуючы па верхняй частцы, такую ж ручку маглі мець глякі (мал. 8: 5).

Адзінкавымі фрагментамі прадстаўлены талеркі: з валікападобным венцам з глянцаваным петлепадобным арнаментам і дымлёная з касым абрэзам венца, а таксама з нешырокім борцікам, край якога скруглены (мал. 8: 21 — 24); кубачкі; рынкі; міскі цыліндрычнай формы з петлепадобнай ручкай (мал. 8: 25). Унутраная паверхня місак з вертыкальным борцікам (XVIII — XIX ст.) упрыгожвалася глянцаваным арнаментам (мал. 10: 2).

Венцы накрывак прадстаўлены шасцю экзэмплярамі. Край іх прывостраны ці закруглены (мал. 8: 18--20).

Нягледзячы на адносную нешматлікасць фрагментаў паліванай керамікі, яна вылучаецца разнастайнасцю відаў і тыпаў. Паліваныя гаршкі паводле формы верхняй часткі падзяляюцца на шэсць тыпаў (мал. 5).

Тып I. Да яго адносяцца тонкасценныя гаршкі з канаўкамі на вонкавым баку венца (пасярэдзіне ці бліжэй да яго краю). Сустракаюцца, мяркуючы па аналогіях, у XVI ст.

Тып II. Самы шматлікі у калекцыі паліванага посуду. Гэта гаршкі з амаль цыліндрычнай шыйкай і ледзь заўважным рабром звонку ў месцы пераходу шыйкі ў плячук. Шырока распаўсюджаны ў першай палове -- сярэдзіне XVII ст. у Мірскім замку.

Тып III. Па форме аналагічны адпаведным дымлёным начынням. Гаршкі адрозніваюцца патоўшчаным складанапрафіляваным венцам, што мае шырокі раўчук не толькі знутры, але і звонку венца. Сустракаюцца начынні адначасова з гаршкамі папярэдняга тыпу.

Тып IV. Да яго адносяцца неарнаментаваныя гаршкі са скругленым краем з шырокім раўчуком на ўнутраным баку венца. Пераважае сярод матэрыялаў другой паловы XVII ст. у Мірскім замку.

Тып V. Сасуды знойдзеныя толькі фрагментарна ў пластах канца XVII — XVIII ст., маюць ледзь прыкметны каленападобны выступ, як дымлёныя гаршкі тыпу VII.

Тып VI. Як і ў іншых гарадах Беларусі дамінуюць у верхніх пластах (XVIII — пачатак XIX ст.), адрозніваюцца S-падобным профілем і часам маюць ручку.

Для пакрыцця ўжывалася паліва зялёнага і карычневага колераў. Паверхня пад паліву ў XVI — першай палове XVII ст. адздаблялася рыфленнем ці карбоўкаю. Распісны (ангобамі і свінцовымі палівамі) посуд прадстаўлены некалькімі фрагментамі сталовага посуду — кубкі, куфлі, талеркі.

Пераважная частка паліванага посуду зроблена з чырвонай гліны, але значнае месца займаюць і белагліняныя сасуды.

Да кухоннага посуду належаць рынкі. Яны ў калекцыі прадстаўлены фрагментамі ножак, сценак, венчыкаў. Усе вырабы пакрыты зялёнай палівай (адзін ад дымлёнай рынкі). Гэтыя сасуды не вылучаюцца разнастайнасцю формаў. Прамы, амаль вертыкальна пастаўлены венчык з глыбокім раўчуком каля вонкавага краю. Сярод знаходак ёсць горла гляка з жаўтаватай фармовачнай масы з бясколернай палівай.

Формы паліваных талерак некалькіх відаў: са складанапрафіляваным венцам з шырокім равочкам знутры пал венцам і коса зрэзаным унутр краем венца; з шырокімі прыўзнятымі борцікамі і патоўшчаным прафіляваным венцам. Паверхня гладкая, неарнаментаваная. Дыяметры венцаў талерак 24 — 30 см, донцаў 10 — 12 см.

Начынне для пітва прадстаўлена адным зялёнапаліваным кубачкам з ручкай і штампаваным сеткавым арнаментам, трыма фрагментамі куфляў. Пакрываліся палівай яны з

двух бакоў (2 фрагменты з жоўтакарычневай, 1 — з зялёнай палівай). Арнамент размяшчаўся адразу пад венцам і ў прыдоннцай частцы (паралельныя стужкі ці хвалі наносіліся шматрадным грабенчыкам). Па аналогіях з Мірскага замка іх дата — XVII ст.

Прывазныя керамічныя вырабы прадстаўлены некалькімі фрагментамі рэйнскага тарнага посуду XVIII ст.

У выніку раскопкаў 80-х гадоў сабрана вялікая калекцыя маёлікавых вырабаў канца XVI — XIX ст. Усе знаходкі лакалізуюцца ў гістарычным цэнтры горада, найбольш — па вул. В.Крайняга. Увесь матэрыял распадаецца на дзве тэхналагічныя групы: з роспісам густымі каляровымі эмалямі па грубым ганчарным чырвоным чарапку (канец XVI — першая палова XVII ст.).; манахромныя або распісаныя вадкімі керамічнымі фарбамі па белай эмалі, фармаваныя з поўфаянсавай масы светлага тону (другая палова XVII — XIX ст.).

Асартымент першай групы складаецца з дэкаратыўных талерак на невысокай кальцавой ножцы, цыліндрычных куфляў з прамавугольнай чатырохграннай ручкай (Ганецкая, 1995. Мал. 8:6, 9:2, 11:2). Аналогіі знаходзім практычна па ўсёй тэрыторыі Беларусі, а для куфляў асабліва ў Полацку, Віцебску, Крэве. Для аздаблення выкарыстаны раслінны і геаметрычны арнамент, які раўнамерна, даволі шчыльна запаўняе паверхню вырабаў. Колеры эмаляў белы, бірузовы, фіялетавы, жоўты.

Асартымент другой групы маёлікавых вырабаў багацейшы: талеркі, міскі, збаны, кубачкі, падсвечнік. Арнамент расліннага характару ў спалучэнні з геаметрычнымі элементамі вольна размешчаны на парадней паверхні сасудаў. Найбольш складаным роспісам вылучаюцца дэкаратыўныя талеркі, якія падвешваліся на сценах. Формы ўсіх начынняў цалкам адпавядаюць традыцыйным формам паліваных вырабаў. Цікавая знаходка манахромнага падсвечніка з эмаллю бірузовага колеру.

Неабходна адзначыць, што па якасці, асартыменце, формам слонімскі маёлікавы посуд XVIII ст. такі ж, як і гродзенскі. Гэтак жа сама сустракаецца ў велізарнай колькасці. Звернем таксама ўвагу на тое, што ў нашай калекцыі ёсць шмат фрагментаў сасудаў, у асноўным місак, аналагічных па фармовачнай масе і формах маёлікавым, але не пакрытыя эмаллю. Дробнапорысты, шчыльны чарапок светлага тону не характэрны для іншых відаў керамікі таго часу. Гэта дае падставы разглядаць маёлікавыя вырабы XVIII ст. як прадукт мясцовай вытворчасці.

Калекцыя кафлі невялікая (142 фрагменты, 46 з іх ад румпаў), але прадстаўлена вырабамі розных тыпаў. Гаршковая (міскавая - ?) ёсць толькі ў невялікіх фрагментах. Некалькі венчыкаў даюць падставы меркаваць, што вусце мела круглую і квадратную форму. Выраблены гаршковыя кафлі з чырвонай гліны з дамешкамі пяску. Датаваць матэрыял па наяўных кавалках немагчыма.

Храналагаічны дыяпазон каробкавай кафлі вельмі шырокі: ад канца XVI ст. да першай паловы нашага стагоддзя. Максімальная вышыня румпы, на якую яна захавалася, 8 см. Завяршаецца румпа валікападобным патаўшчэннем ці аформлена манжэтам. Па тэхналогіі вытворчасці кафля падзяляецца на тэракотавую, паліваную, дымлёную, эмалевую. Паверхню некаторых кафлін пакрывалі ангобам пад празрыстую паліву.

Канцом XVI — XVII ст. датуюцца фрагменты пласцін рамкавай і безрамкавай рэльефнай кафлі. Большая частка матэрыялу прадстаўляе рамачную кафлю. Вышыня рамкі ад 3,5 — 4 мм да 1,5 — 2 мм, што дае падставы датаваць вырабы XVII ст. Абломкі, як правіла, невялікія, таму цяжка даць іх падрабязную характарыстыку. Большасць вырабаў пакрыта зялёнай палівай, сустракаюцца тэракотавыя, нават дымлёныя экзэмпляры (у траншэях каля касцёла Св. Андрэя пераважаюць менавіта яны). Кафля найчасцей аздоблена расліннымі арнаментальнымі матывамі (стылізаваныя лісты і кветкі) у спалучэнні з геаметрычнымі элементамі (кола з насечкамі і інш.). Два фрагменты (адін тэракотавы і адзін дымлёны) пры аднолькавым арнаменце маюць аднолькавыя дэфекты фармоўкі, г.зн. зроблены ў адной матрыцы. Мяркуючы па гэтых фрагментах, кафля мела арнамент з чатырохчастнай сіметрыяй: па перыметры адразу пад рамкай — рад трохкутнікаў на адлегласці 3 — 5 мм адзін ад аднаго, па кутах размешчаныя галінкі, у цэнтры — нейкая выява. На некаторых пласцінах бачныя галоўкі анёлаў. На адным з фрагментаў выразна чытаецца літара Z, змешчаная, верагодна, у правым верхнім куце кафлі. Адбіткі на другім можна прачытаць як літары I J ... (пачатак нейкага слова). Да канца XVII ст. належаць рэшткі кафлі з раслінным арнаментам без рамкі, пакрытай бірузовай эмаллю.

Вялікую частку калекцыі складаюць глядкія зялёныя вырабы, радзей тэракотавыя і карычневыя. Датуюцца яны XVIII ст.

Сярод слонімскіх знаходак у значнай колькасці сустракаецца цэгла розных часоў. Шмат фрагментаў цэглы-пальчаткі, а таксама вялікапамернай цэглы (16 х 27 х 6 см) без барознаў (такая ж выкарыстана пры будаўніцтве касцёла

Святога Андрэя). У шурфе на вул. В.Крайняга, 10 знойдзена некалькі пячных цаглін невялікага фармату (даўжыня 12 см, таўшчыня 4 см) з чатырма барознамі. Адзін фрагмент цэглы таўшчынёй ад 3,5 да 4 см, моцна перапалены, можа быць пліткай падлогі.

Выяўленая дахоўка двух відаў: хвалістая XVIII ст. з мацавальным шыпам (на адным з шыпом — кляймо ў выглядзе сняжынкі); плоская часоў рамонту касцёла Св.Андрэя ў 1925 годзе. На адной з апошніх ёсць надпіс ALBERTIN. Маюцца некалькі фрагментаў паўцыркульнай формы. Верагодна яны належалі канькавым дахоўкам.

У выніку вывучэння слонімскага керамічнага матэрыялу XIV — XVIII ст. можна канстатаваць, што непаліваны посуд блізкі па сваіх формах да посуду з іншых гарадоў Панямоння (Любча, Гальшаны, Гродна, а таксама Мір, Крэва, Маладзечна). Сярод ганчарнай прадукцыі XVII ст. значнае месца займае дымлёная кераміка, ідэнтычная па формах сінхроннай звычайнай непаліванай ці паліванай. Найбольш заможныя гаражане ў XVII ст., а магчыма і ў канцы XVI ст., карысталія мёлікавым посудам, мелі ў дамах печы не толькі з зялёнапаліваных, але і з паліхромных кафлін. Надзвычай багаты слой Слоніма на распісны маёлікавы посуд XVIII ст. (Здановіч, 1986; Ганецкая, Здановіч, Трусаў, 1988; Ганецкая, 1995).

ВЫРАБЫ СА ШКЛА *

Калекцыя шкляных вырабаў, сабраных у 80-я гады, налічвае каля 350 фрагментаў посуду і 972 ваконнага шкла. Храналагічны дыяпазон іх вызначаецца XVII — XIX ст. Тыпалагічны аналіз сведчыць аб панаванні традыцыйных беларускіх тыпаў і формаў шкла: канічных і цыліндрычных чарак і шклянак, шкляніц, куфляў, чатырохгранных кварт, шарападобных бутэлек і бутлікаў і інш. (мал. 12).

Тарны посуд. Кварты, бутэлькі прадстаўлены галоўным чынам сасудамі XVIII ст. Марфалагічна яны тыповыя для гэтага часу і для рэгіёну Панёмання. Кварты сустракаюцца, як правіла, з прамымі плечыкамі, кароткім, аплеценым тоўстым жгутом, горлам, прамавугольнай формай. Абрысы рэзка выдзяляюцца за кошт увагнутых паверхняў сценак і патоўшчаных рэбраў. Выдзімаліся кварты двайным наборам на баначку. Памеры 5,5 х 4 см, 10 х 10 см.

Бутэлькі прадстаўлены шарападобнымі і цыліндрычнымі формамі. Цікава, што першыя былі распаўсюджаны ў Слоніме і ў другой палове XVIII — пачатку XIX ст. Бутэлькі дыяметрам 6; 6,5; 8,5 см мелі ўвагнутыя донцы са следам понціі. На адным донцы след ад понціі старанна загладжаны. Вышыня горла адной з бутэлек 6,5 см, яго дыяметр 2,5 см. З празрыстага шкла зроблены бутлік (флакончык), што меў цыліндрычнае горла вышынёй 1,5 см і венца асіметрычнай формы з вялікім раструбам. Невялікай бутэлечцы належаў фрагмент горлышка дыяметрам 2 см.

Вельмі прыгожы колер слонімскага тарнага посуду: насычаны глыбокі зялёны, вельмі чысты, без жаўцізны. Невялікая частка матэрыялу выраблена з бясколернага і светла-блакітнага шкла.

Найбольшай разнастайнасцю адрозніваюцца чарачкі і шклянкі. Тут пераважае канічная форма з увагнутым донцам. Вельмі характэрныя вальцаваныя сценкі з вертыкальным, як правіла рыфленнем: дзве вузкія глыбокія бараздкі чаргаваліся з нешырокімі плоскасцямі рэбраў. Часам сутракаюцца формы і з больш шырокімі і рэзкімі бараздкамі.

Пры раскопках знойдзены некалькі венчыкаў чарак і шклянак, аздобленных гравіраваным і шліфаваным арнаментам. Матывам для гравіроўкі служыў шахматны або раслінны арнамент з геаметрычнымі элементамі — выявы палявых кветак, галінак і лісця, паасобку ці завітых у прыгожую гірлянду. Па венчыку сасудаў праходзіць зігзагападобны або хвалісты паясок. Сярод фрагментаў посуду сустракаюцца шліфаваныя кампазіцыі: зорачкі, "оўсікі". З празрыстага шкла выраблена шкляніца амаль цыліндрычнай формы з прамым венцам. Дно злёгку ўвагнутае, са следам ад понціі. Сустракаюцца шкляніцы танкасценныя са злёгку адагнутым венцам і то ўстасценныя. Некалькі фрагментаў венчыкаў належалі куфлям ці збанам. Яны мелі канічную форму, аздабляліся зашчыпленымі наляпнымі палоскамі.

Для шкляного посуду XVII — XVIII ст. характэрны жаўтавата-зялёны колер.

XIX ст. прадстаўлена прэсаваным посудам бесколернага шкла: слоічкі для парфумы, чаю, флаконы.

Выяўлена вялікая колькасць ваконнага шкла ад прамавугольных аканіц жаўтавата-зялёнага колеру таўшчынёй 2 — 3 мм. У Слоніме сустракаемся з даволі цікавым спосабам аздаблення шкла паралельнымі і перасечанымі прадрапанымі лініямі. Магчыма гэта проста дэкор, а магчыма разметка для наступнага нанясення эмалевага роспісу — нарыхтоўка для вітража. Адзначым, што прысутнічаюць у калекцыі два

* Дапамогу ў апрацоўцы матэрыялу аказала А.Б.Сташкевіч.




Рис. 1. Расписная тарелка 17 в.




Рис. 3. Поливной горшок конца 16 — первой половины 17 в.




Рис. 4. Поливные сосуды для питья 17в.




Рис. 5. Посуда 17 в. 1-8 — Варианты росписи збанов 17в.; 9, 10 — поливная посуда 17 в.

ПАЗДНЯКОЎ В. С. (Мінск)

## ХРЫСЦІЯНСКІЯ СВЯТЫНІ КЛЕЦКА XV — XIX стст.

Даўні беларускі горад не можна ўявіць сабе без яго святыняў. Касцёл, царква, сінагога, мячэць — вось яго візітоўка, сімвал веры, культуры, гісторыі. Страчваецца святыня — і знікае сама гісторыя горада. Так зніклі некалькі старонак і старажытнага Клецка.

Горад упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127 г. як цэнтр асобнага княства, уладар якога Вячаслаў Уладзіміравіч паводле загада вялікага князя кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча ўдзельнічаў у паходзе на Полацкае княства (ПСРЛ, 1962, Т. 1. Стб. 297; Т. 2 . Стб. 292). Не можа быць сумненняў, што на той час у Клецку існавала царква. Пад час археалагічных раскопак відавочных яе слядоў не была выяўлена, адно толькі ускосныя — бронзавая лампадка першай паловы XIII ст. і гліняныя палавыя пліткі канца XII — першай паловы XIII ст. (знойдзены два абломкі). Падобня пліткі — звычайны элемент убранства мураваных старажытнарускіх цэркваў, радзей — драўляных храмаў, або багатых грамадскіх пабудоў, палацаў (Раппопорт, 1994. С. 47).

Першыя дакладныя звесткі аб клецкіх цэрквах атрымліваем толькі з сярэдзіны XVI ст., калі вялікая княгіня Бона пачала праводзіць у Клецкім княстве валочную памеру. У самім горадзе памера прайшла ў 1552 г. Помнікам гэтай падзеі застаўся "Рэестр памеры зямель на валокі" — першы інвентар горада (Писцовая книга ..., 1884). У ім упамінаюцца 4 клецкія царквы і манастыр. Гэта, папершае, замкавая саборная ("прыбітная", ад "прэсвітэр") царква Раства Прачыстай Багародзіцы. У яе быў самы вялікі прытч: свяшчэннікі Васіль Андрэевіч, Ігнат Іванавіч, Павел Хвёдаравіч, Аўраам Якаўлевіч, Аўраам Юдзітавіч, Васіль Крупіч, пратапоп Сямён Іванавіч, панамар Цішка Хаткевіч.

Васкрасенская царква мела як найменей свяшчэннікаў Юдзіта Якававіча і Якава ("папа").

Свяшчэннікам царквы св. Спаса быў Іван Вакуліч.

Пры царкве св. Мікулы (Мікалая) свяшчэннікам быў Трахім Васільевіч. Гэта адзіная праваслаўная царква, месцазнаходжанне якой можна ўстанавіць паводле данных інвентара 1552 г. Яна стаяла на пасадзе, непадалёк адзінага ўвахода на ўмацаваны вакольны горад (Дольны замак), на рагу будучай вул. Гродскай і вул. Віленскай (Поздняков, 1991).

Назвы клецкіх цэркваў звычайныя для беларускіх храмаў XVI ст. і больш ранняга часу. Такія назвы нясуць і пэўную грамадскую нагрузку. Вядома, што нябесным заступнікам князёў (княскай улады) у старажытнай Русі лічыўся Спас, а духавенства (царкоўнай улады) — Багародзіца. У гэтым сэнсе прысвячэнне галоўнага храма Клецка Багародзіцы паказвае на больш значную ролю ў жыцці горада духоўнай улады, чым княскай, — можа, адбітак таго, што ў Клецку так і не ўсталявалася ўласная княская дынастыя? Відавочна, што гэтая саборная царква Раства Прачыстай Багародзіцы знаходзілася ва ўмацаваных частках горада — на дзяздінцы ці вакольным горадзе, як і Васкрасенская і Спаская. Інакш іх месцазнаходжанне на гарадскіх вуліцах было бы адзначана інвентаром 1552 г. Толькі адзін клецкі храм — св. Мікулы стаяў па-за ўмацаваннямі. Яго месцазнаходжанне па-свойму заканамернае. Св. Мікола замяніў у славян язычніцкага Валоса (Велеса) і застаўся заступнікам гандляроў і ўвогуле паспалітага люду (Успенский, 1982. С. 64). Звычайнае месца Мікольскага храма — на пасадзе, на гарадской гандлёвай плошчы, дзе раней стаялі ідалы Валоса. А звычайнае масца гандлёвай плошчы — каля ўязной брамы. Клецкая царква св. Мікулы адпавядае гэтай схеме. Яна стаяла ля брамы вакольнага горада, з якой ішоў шлях у паўднёвым накірунку (будучая вуліца Гродская).

Замкавая Прачысценская царква была, бадай, самая багатая, яе прытчу ў 1552 — 1555 гг. належала 11 валок 20 маргоў 26,5 прутоў зямлі каля Клецка. Спаская царква мела 2 валокі 2 маргі 29,5 прутоў , Васкрасенская — 1 валоку 2 маргі 9,5 прутоў, Мікульская — 10 валок 26 маргоў 17 прутоў, але тут трэба мець на ўвазе, што адразу 10 валок перадаў ёй земянін Война Грычыновіч (т. зв. Мікульскі востраў на р. Туча). Адзначым, што

прыведзеныя намі лічбы не зусім супадаюць з падлікамі камісараў вялікай княгіні Боны, якія праводзілі валочную памеру, але такога роду памылкі часта сустракаюцца ў тагачасных дакументах. Такім чынам, самымі значнымі землямі валодаў замкавы, саборны храм, а самымі малымі, калі не лічыць апошняга шчодрага дару — Мікульская царква ўвогуле па-за ўмацаваннямі. Гэта можна лічыць па-свойму заканамерным.

Усе храмы былі, відаць, драўлянымі. Іх знешні выгляд збольшага застаўся нам невядомым. Адзінае выключэнне — Мікульская царква. На гравюры Т. Макоўскага, якая падае панараму горада прыкладна пачатку XVII ст., над адным з будынкаў знаходзіцца лацінскі надпіс "Templum Russum", г. зн. "Рускі храм". Яго месца на плане горада прыкладна адпавядае менавіта Мікульскай царкве. На гравюры бачны толькі яе вялікі стромкі дах і маленькая вежка з цыбулінай. Гэта тыпавое вырашэнне драўлянага храма ў Беларусі.

Інвентар горада 1552 г. падае унікальныя звесткі аб адзіным вядомым праваслаўным клецкім манастыры. Ён насіў імя св. Пятніцы (г. зн. св. Параскевы). Манастыр быў прыгарадным, дарэчы, як усе дамангольскія старажытнарускія абіцелі, і знаходзіўся на правым беразе р. Лань насупраць Клецка. Ігуменам на той час быў Раман Барысавіч . Яго зямельныя ўладанні ў час валочнай памеры не былі вымераны. Пазней яны перайшлі да горада. Інвентар Клецка 1575 г. адзначыў, што зямля на тым месцы разбіта на агароды, якія раздадзены гаражанам. На той год "агародаў каля манастыра" было 18, кожны памерам у адзін морг (НГАРБ, ф. КМФ — 5, воп. 1, спр. 1687. Л. 9 адв.). Інвентар Клецка 1626 г. манастыра ўжо не адзначае, а называе проста "агароды Манастырскія" (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3135. Л. 20 адв.).

Цяжка сказаць, ці закранула валочная памера Боны царкоўныя будынкі, але ўвогуле праваслаўная царква ў Клецку адчула перамены. Да сярэдзіны XVI ст. прытч цэркваў абзавёўся пэўнымі зямельнымі ўладаннямі, часам у выглядзе дробных шматкоў, раскіданых па ўсяму Клецкаму княству. Бона забрала іх сабе і дала ўзамен зямлю ў асноўным на паўночны захад ад Клецка, на правым беразе Лані недалёк ад двара Шчэпічы. Такім чынам зямля праваслаўных святароў з большага была зведзена ў адзін масіў. Вялікакняская адміністрацыя атрымала відавочную палёгку для кантролю прытчу. Інвентар 1575 г. на гэтым месцы адзначае сяло Паповічы — нашчадкаў тых святароў (НГАРБ, ф. КМФ — 5, воп. 1, спр. 1687. Л. 23, 122, 142 адв.).

На гэтым канчаюцца нашыя веды пра старажытнія праваслаўныя святыні Клецка. Адно толькі Пракоп Левановіч, які ў 1552 г. быў дзякам саборнага клецкага храма, дамогся ў 1566 г. месца свяшчэнніка віленскай царквы св. Міколы і выдаў віленскім бурмістрам ліст з абавязкам трымаць царкву ў парадку (АСД, 1869. Т. 6. С. 33). Царква была знакамітая, фундаваная яшчэ другой жонкай Альгерда вялікай княгіняй Уллянай Цвярской і нанава збудавана гетманам Канстанцінам Астрожскім у гонар славутай перамогі пад Оршай у 1514 г.

Прыняццё ў 1596 г. праваслаўнымі уніі з каталікамі не магло абысці Клецк, тым больш, што ўладальнік горада Ян Альбрыхт Радзівіл быў шчырым католікам. Як адбывалася унія ў Клецку, невядома. Ёсць толькі адзіны штрых да гэтай падзеі. Мялеці Сматрыцкі ў кнізе "Elenchus pism uszczypliwych" (Вільня, 1622), назву якой можна перакласці як "Выкрыццё з'едлівых твораў", так апісаў беды сваіх на той час адзінаверцаў: "А што творыцца па гарадах і мястэчках княскіх і панскіх, у Быхаве, Шклове, Беліцы, Дуброўне, Клецку, Давыд-Гарадку, Яраславе, Роўне, Алыцы, Алесцы, Бярдзічаве і многіх іншых! У іх з-за вашай уніі, паводле вашага патрабавання, бедныя людзі зняволеныя і катаваныя, абцяжараныя грашовымі штрафамі, церпяць уціск і ганенні" (Жукович, 1908. С. 19). Напісана палымяна, але вельмі не канкрэтна.

Недзе ў гэты час у Клецку з'явіліся дзве драўляныя уніяцкія царквы, канешне, не без дапамогі радзівілаўскай адміністрацыі. Яны ўпершыню адзначаны інвентаром горада 1626 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3135. Л. 8).

Васкрасенскую царкву паставілі амаль у цэнтры горада, ва ўсходнем куту Рыначнай плошчы. Больш-меньш дакладна яе месцазнаходжанне паказана на рукапісным плане-замалёўцы пачатку XIX ст. (НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1089. Л. 452 адв.). Выгляд першапачатковай царквы невядомы. Інвентар 1784 г. падае апісанне, відаць, новага

будынка: "Брусаваная, раскошна будаваная, гонтамі крытая, з двума вежачкамі спераду пры фацыяце і на іх жалезнымі крыжамі. Над вільчыкам малы купалок з жалезным крыжам на ім, як і на тых двух большых купалах, пакрытых бляхай. Да той царквы бабінец... Падлога і столь у царкве з дошак. Вакон у дрэва зробленых у царкве восем, а два — ў бабіцы. Хоры з точанымі балясамі. Краткі перад царскімі варотамі маляваныя. Царскія вароты сталярскай работы, на жалезных завесах, маляваныя, над каторымі складзены іканастас з дванаццаці апосталаў, пракораў і іншых абразоў, у тым іканастасе змешчаных. Вялікі алтар сталярскай работы. У ім абраз Уваскрасення Божага, пры каторым сярэбраная карона, якая важыць 8 лотаў, і адна пара фіранак з кітайкі... Два бакавыя алтары абок царскіх варотаў. У іх з аднаго, з правага боку, абраз св. Троіцы..." (НГАРБ, ф. 3245, воп. 7, спр. 3. Л. 87 — 90 адв.). Магчыма дапусціць, што гэта "раскошна будаваны" храм быў узведзены пасля 1774 г., калі Васкрасенская царква атрымала ад Юзафа Радзівіла новы фундуш. Відавочна, храм меў рысы барока, як і мураваны побач на сто гадоў раней касцёл дамініканцаў, таксама з двума вежамі на франтоне. У 1784 г. побач з царквой адзначаны агароджаныя могілкі з брамай. Там стаяла званіца: два слупы з перакладзінай над дахам, віселі адзін вялікі звон і два сярэднія. Гэты храм дастаяў да сярэдзіны XIX ст. У 1845 г. у ім, ужо праваслаўным, была спынена служба з-за небяспекі разбурэння (Руберовский, 1876. С. 141).

Плябань Васкрасенскай царквы стаяла недалёк. Яе адзначыў інвентар горада 1683 г. як "плябань рускую" на вольным ад платы пляцы (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3905. Л. 4). Царкоўны інвентар 1784 г. даў яе кароткі вопіс: "Ізба белая з каморай, праз сені пякарня. Занядбаная з-за недагляду ксяндза параха. Гонтамі крытая." Яна была пабудаваная коштам Ю. Радзівіла. Мелася яшчэ адно жытла параха — "фальварачак" на царкоўнай зямлі па-за межамі Клецка. Там быў жылы дом, пякарня з сеньмі і бакоўкай, гумно на шасці сохах. Усё збудаваў сам парах.

На Рыначнай плошчы знаходзілася і уніяцкая школа. У 1641 г. яе пляц належаў мешчаніну Грышку Макаўчуку, і права царквы на гэтую дзялянку выклікалі сумнеў у складальнікаў інвентара Клецка 1683 г. Пра школу было запісана наступнае: "Па Макаву да паказу права — школа руская". На гэтым жа месцы яе адзначалі наступныя гарадскя інвентары: 1713, 1740 і 1747 гг. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3138. Л. 2, 16, 400). У 1760 і 1767 гг. школа адзначана на крыху іншым месцы — на суседнім баку Рынка (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3138. Л. 317, 381).

Як і мае быць, пры Васкрасенскай царкве для хворых і ўбогіх быў заведзены шпіталь. Паводле падлікаў В. П. Грыцкевіча, на Беларусі ў часы ВКЛ іх налічвалася больш за 350 (Грицкевич, 1987. С. 56 — 58). Клецкія шпіталі ў гэтую лічбу не ўвайшлі. Дом на "рускі шпітал", відаць, нядаўна збудаваны, упершыню адзначыў інвентар Клецка 1626 г., амаль за горадам, у канцы Нясвіжскай вуліцы (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3135. Л. 9, 17 адв.). Там жа ён стаяў у 1641 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 1913. Л. 100), а ў 1683 г. шпіталь адзначаны на Рыначнай плошчы, побач з "рускай" школай (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3905. Л. 4). Апошні раз ён упамінаецца ў царкоўным інвентары 1784 г.: "але цяпер будынкі гэтага шпіталя з-за таго, што вельмі старыя, спарахнелі" (НГАРБ, ф. 3245, воп. 7, спр. 3. Л. 88 адв.).

Другая уніяцкая царква таксама ўпершыню адзначаецца інвентаром Клецка 1626 г.: "Перад горадам на арыне другая царква, закладзена Вазнясенню Гасподняму" (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3135. Л. 8). Яна сапраўды была на пэўнай адлегласці ад горада. Храм стаяў пры ўездзе ў Клецк з боку Нясвіжа, леваруч ад гасцінца, на ўзвышшы, якое ў XVI ст. звалася гара Гарынь. Мінуючы Вазнясенскую царкву Нясвіжскі гасцінец спускаўся да р. Сільная (левы прыток Лані), праз гаць вёў у Клецк і даходзіў да Рыначнай плошчы горада. Адсюль да царквы было каля 1 км. Вазнясенская царква сапраўды стаяла "на арыне", сярод ворыва, адсюль яе другая назва — Арынская царква (пазней гэтая назва пачала асэнсоўвацца як Ірынская царква). Цяпер немагчыма растлумачыць, чаму яна была збудавана не ў самім Клецку, а на водшыбе. Але гэтая акалічнасць садзейнічала яе больш доўгаму жыццю, у адрозненні ад Васкрасенскай царквы.

У 1774 г. Юзаф Радзівіл правеў рэформу ў дзейнасці уніяцкай царквы ў Клецкім княстве.

Вазнясенскі і Васкрасенскі храмы атрымалі новыя фундушы. Пра адзін з гэтых дакументаў раней упамінаў А. П. Грыцкевіч (Грицкевич, 1979. С. 114 — 115), але яму трапіўся ў рукі пазнейшы фальсіфікаваны спіс, дзе былі зменены асобныя месцы і чыталася дата 1779 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3139. Л. 164 — 167 адв.). Дакладныя тэксты абодвух фундушаў змешчаны ў актавай кнізе Навагародскага суда (НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 12. Л. 735 — 738 адв.). Абедзве царквы атрымалі зямельныя угоддзі, грошы, пэўныя прывілеі. Былі вызначаны іх прыходы: кожнай па палове горада Клецка, а таксама Вазнясенскай царкве — 12 вёсак, Васкрасенскай — 6 вёсак. Да першай быў прыпісаны, як і раней, шавецкі рамесны цэх, да другой — кравецкі цэх.

Паводле звестак царкоўнага гісторыка XIX ст. Н. Руберoccкага, Вазнясенская царква была пяціглавая, вышынёй у 12 сажэняў і мела форму правільнага крыжа памерамі 38 х 38 аршынаў. Магла ўмяшчаць да 1500 чалавек (Руберовский, 1876. С. 140). У той час царкву называлі яшчэ Пакроўская, а таксама Кладбішчанская, бо могілкі вакол яе сталі галоўнымі ў Клецку. Царква славілася мясцова-шанаваным абразом Багародзіцы, да якога збіралася шмат паломнікаў, асабліва на святы Вазнясення, Успення, Раства Багародзіцы і Пакрова. Гэты абраз, "весьма древней греческой живописи", паводле слоў Н. Рубероўскага, быў перанесены ў Вазнясенскую царкву з Нясвіжскага Міхайлаўскага касцёла ў дзень вялікамучаніцы Ірыны, 5 мая невядомага года (Руберовский, 1876. С. 141). Мяркуем, што гэта магло адбыцца ў канцы XVIII ст., калі ў сувязі са скасаваннем ордэна езуітаў (1773 г.) быў закінуты Міхайлаўскі касцёл (Габрусь, 1993б. С. 70; 80).

Пасля скасавання ў 1839 г. у Расійскай імперыі уніяцкай царквы Вазнясенскі храм як ужо праваслаўны быў пакінуты Радзівіламі без нагляду. У 1845 г. мінскі епіскап Антоні (Зубко) прасіў губернскія ўлады, каб яны прымусілі ўладальніка горада Лявона Радзівіла адрамантаваць царкву. У 1852 г. было зроблена нават імператарскае распараджэнне на гэты конт, але храм да гэтага часу так здрахлеў, што правіць яго ўжо не было магчыма. Л. Радзівілу прадпісалі скласці каштарыс на будаўніцтва новай царквы. 5 лістапада 1853 г. губернская будаўнічая і дарожная камісія яго зацвердзіла. 21 мая 1854 г. радзівілаўская адміністрацыя выдала распіску, што пабудуе царкву за 2 гады, аднак ужо ў кастрычніку пачала хадайнічаць перад епіскапам Міхаілам (Галубовічам), каб з'яднаць прыход гэтай царквы з прыходам новай Васкрасенскай царквы, зробленай з дамініканскага касцёла на Рыначнай плошчы Клецка. Усе ж адміністрацыя абяцала збудаваць і новую Пакроўскую кладбішчанскую царкву, відаць, як часовую. Пасля гэтага справа спынілася. У 1857 г., нарэшце, з Сіноду быў атрыманы дазвол на злучэнне прыходаў, а радзівілаўскую адміністрацыю зноў пачалі прымушаць узнавіць Пакроўскую царкву. Тая склала праект храма на 150 чалавек. Мінская кансісторыя палічыла, што гэта замала. Быў складзены праект храма на 350 чалавек, потым яшчэ адзін, на 250 чалавек. 2 сакавіка 1859 г. радзівілаўская адміністрацыя дала падпіску, што яна не марудзячы пачне будаўніцтва паводле апошняга плану, каб скончыць царкву ў тым жа годзе. Потым справа зноў спынілася. Нарэшце ў 1865 г. мясцовыя вернікі самі згадзіліся фінансаваць будоўлю новай царквы, але пры дапамозе ўраду. Падпалкоўніку Генеральнага штабу Зяленскаму загадалі скласці новы праект. Ен быў разлічаны таксама на 250 чалавек, каштарыс складаў 4185 руб., якія грошы ў канцы 1868 г. паводле загада віленскага генерал-губернатара былі асігнаваны са збораў з маёнткаў Л. Радзівіла ў 1866 г. Але ў 1869 г. было атрымана распараджэнне генерал-ад'ютанта Патапава аб немарудзячым зломе старой Пакроўскай царквы, пабудове на яе месцы часоўні і аб узвядзенні наўкол агароджы — ўсё на сродкі ўладальніка Клецка. Л. Радзівіл падчас асабістай сустрэчы з генерал-губернатарам быў вымушаны даць на гэта згоду, аднак прасіў аб прысылцы праекта. Адначасова быў зроблены запыт епіскапу Аляксандру (Дабрыніну). У тым жа годзе ён адказаў, што ў Клецку ўсё ж шмат прыхаджанаў (4568 чалавек), а значыць, у горадзе павінны быць дзве царквы. Адначасова ў Мінск у царкоўна-будаўнічае прысутствіе пастýпіла просьба клецкіх вернікаў збудаваць на могілках не драўляную, а мураваную царкву на 300

чалавек, дзеля чаго яны у дадатак да маючыхся 4185 руб. абяцалі сваім коштам дастаўляць валуны на падмурак храма, даць падводы на падвоз цэглы, вапны, дрэва і г. д., а таксама тры чалавекі з кожнага двара на чорную работу пры будаўніцтве. У адказ царкоўна-будаўнічае прысутствіе склала праект царквы менавіта на 300 чалавек (зацверджаны 29 мая 1871 г.). Выкананне работ было даручана гаспадарчым спосабам мясцоваму прыходскаму папячыцельству пад наглядам губернскага архітэктара Іванова. Аднак праз 4 гады папячыцельства звярнулася да прысутствія з просьбай змяніць праект, бо дасланы, паводле прыкідак, запатрабаваў усі 15000 руб. У лістападзе 1875 г. папячыцельству быў высланы новы праект. Пабудаваць царкву падрадзіўся нясвіжскі мешчанін Вольф Андрусіер, які да таго паставіў у Мінскай губерні больш за 60 праваслаўных храмаў (Руберовский, 1876. С. 143 — 146). На гэтым скончваюцца звесткі, сабраныя да 1876 г. Н. Рубяроўскім. Відаць, хутка пасля таго царкву збудавалі. Яна стаіць на клецкіх могілках і па сённяшні дзень (Збор ..., 1987. С. 212).

Царква мае ў плане форму крыжа памерамі 17 х 14 м, з заходняга боку да яе далучаецца прытвор — званіца памерамі 4,5 х 10 м, да яго — уваходны драўляны тамбур. Агульная даўжыня храма каля 23 м, найбольшая шырыня каля 14 м (колішняя уніяцкая Вазнясенская царква была значна большая). Цэнтральны аб'ём сучаснага храма накрыты пакатым чатырохсхілавым дахам, над якім завяршэнне: чацверык, над ім васьмёрык, зверху — шацёр з цыбулінай-галоўкай. Трохярусная званіца мае падобную пабудову: яе другі ярус — чацвёрык, трэці ярус — васьмёрык, зверху шацёр з цыбулінай. Экстэр'ер і інтэр'ер даволі сціплыя, асаблівага дэкору не маюць. Унутры знаходзіцца іканастас, маюцца значныя па памерах абразы на дрэве і халсце. Увогуле гэтая царква тыповы ўзор "мураўёўкі", ратраспектыўна-рускага стылю (Лурэцкі, 1993. С. 82).

Шмат легенд ахутвае ўзнікненне галоўнай каталіцкай святыні Клецка — фарнага Троіцкага касцёла. Е. Ахманьскі апавядае, што касцёл заснаваны князем Швідрыгайлам у 1437 годзе (Ochmański, 1972. S. 64). Крыніца гэтай даты не ўказваецца. Яна сумніцельна з-за таго, што Швідрыгайла ў той час быў заняты барацьбой за вялікакняскі пасад і пры гэтым абапіраўся на праваслаўных. Больш верагодна, што клецкі каталіцкі прыход заснаваў вялікі князь Казімір (1440 — 1492). Прынамсі ў 1450 г. касцёл ўжо існаваў. У навуковай і касцёльнай літаратуры часам сцвярджаецца, што ў гэтым годзе яго фундаваў і збудаваў Андрэй Масцівіловіч. Гэта была рэальная гістарычная асоба. У 1445 г. пан "Ондрюшка Мостиловичь" разам з панамі Судзівоем, Радзівілам Осцікавічам, Мікалаем Неміровічем і інш. узначальваў 7-тысячнае войска ВКЛ у пераможнай бітве з маскоўцамі на р. Сухадроў (ПСРЛ, 1859. Т. 8. С. 111; Зимин, 1991. С. 102 — 103). Магчыма, менавіта за гэта вялікі князь Казімір падараваў "Ондрюшку Мостивиловича" сяло пад Клецкам, якое раней належала Менедзіковічу (РИБ, 1910. Т. 27. Стб. 61). Цяпер гэтая вёска завецца Масцілавічы. 17 ліпеня 1450 г. датаваны ліст Андрэя Масцівіловіча, якім ён надаў клецкаму касцёлу св. Троіцы і Дзевы Марыі дзесяціну са свайго маентка Рудзіковічы (Kodeks..., 1932 — 1948. S. 223 — 224; фундуш на лацінскай мове апублікаваны тут па двух копіях). Значыць, касцёл на той час ужо быў. Андрэй Масцівіловіч сапраўды быў адным з яго фундатараў, але ніяк не будаўніком. Дарэчы, у 1602 г. у навагародскім судзе разглядалася прэтэнзія плябана клецкага касцёла Выврыцы Толсціка да земяніна Паўла Віроўскага. Віроўскі яшчэ ў 1591 г. набыў маёнтак Менедзікоўскі (Маствіловічы), і плябан жадаў атрымліваць з яго дзесяціну, вызначаную ў свой час Андрэем Масцівіловічам. Суду быў прад'яўлены ліст Андрэя Масцівіловіча, але без пячаткі і подпісу, таму прэтэнзіі плябана былі адхілены (Копысский, 1978. С. 71). Відавочна, у судзе быў пакладзены не арыгінал фундуша, а копія. Кідаецца ў вочы і розначытанне назвы маёнтка: Рудзіковічы — Менедзікоўскі, на самой справе, відаць, трэба чытаць "Менедзіковічы", як у некаторых дакументах XVI ст.

Клецкі прыходскі (фарны) касцёл паставілі не ў замку, а па-за гарадскімі ўмацаваннямі, непадалёк ад царквы св. Мікулы. Гэта відавочнае сведчанне таго, што каталіцызм яшчэ не меў трывалай падтрымкі ў

горадзе. Рыса, уласцівая шмат якім тагачасным беларускім гарадам.

На становішчы касцёла не мог не адбіцца пераход Клецкага княства да кальвініста Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1558 г. Аднак яшчэ ў 1559 г. касцёл існаваў і валодаў 57 сялянскімі дымамі, гэта значыць, быў у ліку заможных (Ochmański, 1972. S. 102). Хутка ўсе пайшло прахам. Да 1562 г. касцёл быў перароблены пад кальвінскі збор. Каля 1560 г. у Клецк міністрам збора прыехаў Сымон Будны, прадмову да свайго "Катэхізісу" ён падпісаў у Клецку 10 чэрвеня 1562 г. (Саверчанка, 1993. С. 20 — 22).

Фарны касцёл адрадзіўся толькі пасля смерці ў 1565 г. М. Радзівіла Чорнага і пераходу яго дзяцей на каталіцызм. Ю. Лукашэвіч падае, што збор на касцёл перарабіў Альбрыхт Радзівіл, першы клецкі ардынат 1586 — 1592 гг. (Łukaszewicz, 1843. S. 30), хаця яшчэ раней гэта мог зрабіць яго старэйшы брат і апякун Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Прынамсі апошні пісаў віленскаму біскупу 16 чэрвеня 1574 г., што дзеля барацьбы з ерэтыкамі разаслаў сваіх капланаў, у тым ліку ў Клецк (Scriptores ..., 1885. S. 7). З другога бокку, Г. Люлевіч сцвярджае, што збор быў перададзены каталікам толькі ў 1577 г. (Lulewicz, 1987. S. 139).

Цяпер спынімся на пытанні, калі быў пабудаваны той мураваны касцёл, што збярогся да XX ст.? На гравюры Тамаша Макоўскага, якая дае панараму Клецка прыкладна пачатку XVII ст., паказаны менавіта мураваны касцёл (Jakubowski, 1916. S. 74). Пытанне маглі праясніць натурныя даследаванні муроў помніка. Яны былі праведзены А.М.Кушнярэвічам, які зрабіў і шурфоўку каля падмуркаў (Кушнеревич, 1989; 1993. С. 101--103). Было вызначана, што сцены храма ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы памерамі 26 — 27 x 12,5 — 13 x 6,5 — 7 см на вапнава-пясчанай рошчыне. Па фармату яна супадае з цэглай Ішкалдскага касцёла 1472 г., вельмі близкая да цэглы Троіцкага касцёла ў Чарнаўчыцах і кальвінскага збора ў Кухцічах другой паловы XVI ст. Падмуркі клецкага касцёла магутнасцю 1,5 — 2 м выкананы з валуноў. Муроўка вежы-званіцы не звязана з муроўкай асноўнага аб'ёма. Адсюль была зроблена выснова, што званіца была прыбудавана пазней (і спачатку прызначалася для абароны). Будаўніцтва мураванага касцёла даследчык спярша адносіў да сярэдзіны XV ст. і звязваў з Андрэем Масцівіловічам, а потым — да сярэдзіны XVI ст. і называў заказчыцай яго будаўніцтва вялікую княгіню Бону. Гэтаму пункту погляду запярэчыла Т.Габрусь. Яна адзначыла, што зніатаваная готыка-рэнесансавая стылістыка храма больш адпавядае другой палове XVI ст. (Габрусь, 1993б. С. 72). Найбольш блізкімі аналагамі паводле архітэктурнага рашэння яна лічыць кальвінскія зборы таго часу ў Дзераўной і Койданаве. План клецкага касцёла змешчаны ў архітэктурным альбоме канца XVI ст., які звязваецца са славутым італьянскім архітэктарам Я.М.Бернардоні, які ў гэты час ажыццяўляў шырокія будаўнічыя работы ў Нясвіжы (Габрусь, Галенчанка, 1990. С. 74). Пытанне аб аўтарстве чарцяжоў пакінем ў баку. Звяртае на сябе ўвагу тое, што план клецкага касцёла ў альбоме вельмі блізкі да плана сярэдняга нефа нясвіжскага фарнага касцёла ад уваходных дзвярэй да цэнтральнага купала. Прапорцыі абодвух збудаванняў аднолькавыя. Гэта дазваляе паставіць пытанне, а ці не Я.М.Бернардоні выпрацаваў план клецкага касцёла?

Паводле інвентарных вопісаў XVIII--XIX стст. вядома, што агульная даўжыня касцёла складала 59 аршынаў, шырыня 25 аршынаў. Храм быў бесслупавым. Асноўны аб'ем меў форму прамавугольніка, да яго далучаўся прамавугольны жа прэсбітэрый. Адзіная апсіда была трохграннай. У паўночнай сцяне прэсбітэрыя былі дзверы, праз якія можна было трапіць у сенцы сакрысціі. Яна была двухпавярховай. Сцены храма і алтар звонку былі ўмацаваныя контрфорсамі, у плане блізкімі да квадрата — гатычная рыса касцёла. Галоўны фасад меў барочны трохвугольны франтон з дзвюма круглымі акенцамі па баках. Вокны ў сценах асноўнага аб'ёма былі зроблены арачнымі і даволі высокімі. Магутная вежа спераду, дзе знаходзіўся галоўны ўваход, знізу была прамавугольная, астатнія чатыры ярусы, розныя па вышыні — васьмёрыкі. На плане з альбома канца XVI ст. бачна, што ўваходны тамбур-чацвёрык меў тры вялізныя праходы, чаго ўжо не было ў XX ст. Цікава тое, што вежа на плане намалявана з

дапамогай больш шчыльнай штрыхоўкі і, верагодна, пазней, чым абрысы асноўнага аб'ёма. Адсюль Т.Габрусь робіць выснову, што чарцеж быў выкананы ў час прыбудовы да касцёла вежы — гэта рабілася дзеля таго, каб пасля асадкі асноўнага аб'ёма дакладна размеркаваць нагрузку канструкцыйна розных частак (Габрусь, 1993в. С. 72). А так як подпіс пад чарцяжом называе ўладальніка Клецка маршалкам, то быў ён выкананы недзе ў 1585--1592 гг., калі горадам валодаў Альбрыхт Радзівіл, надворны літоўскі маршалак. З меркаваннем Т.Габрусь трэба пагадзіцца. Адсюль вынікае і найбольш верагодная дата ўзвядзення клецкага касцёла св. Троіцы — паміж 1585 і 1592 гг. Г.Люлевіч падае, што храм быў асвечаны ў 1590 г. (Lulewicz, 1987. S. 139).

Першыя апісанні касцёла да нас дайшлі толькі праз пэўны і даволі працяглы час пасля яго ўзвядзення. У свой час у Віленскай публічнай бібліятэцы захоўваліся візітацыі (інвентары) Віленскай дыяцэзіі, у т.л. клецкага касцёла за 1633 і 1653 гг. (Описание..., 1895. С. 3--4). Пошукі іх у сучасных вільнюскіх архіўных зборах плёну не далі.

2 лютага 1652 г. Міхал Караль Радзівіл выдаў клецкаму фарнаму касцёлу фундуш, якім вызначыў юрыдычнае (і гаспадарчае) становішча храма ў сваіх уладаннях. Месцазнаходжанне арыгінала гэтага дакумента нам не вядома, аднак маецца некалькі яго копій XVIII ст. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л.18--28; НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1410. Л. 4--11 адв.; НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 22. Л. 729--739). Касцёлу былі дараваны фальварак Альхоўка з вёскай Гусакі і некаторыя сяляне ў веёцы Лукавец. Быў вызначаны грашовы збор з гараджан на карысць касцёла і збор натурай — зернем (т. зв. пакорцаўшчына) з клецкай шляхты. Сярод іншых ласк з боку Радзівілаў было вызначана, што яны будуць сваім коштам крыць гонтам палову касцёльнага даха. У прывілеі ўпершыню сустракаем упамінанні пра касцёльныя шпіталь і школу. Прывілеем была вызначана касцёльная юрыдыка — гарадскі квартал, жыхары якога пачалі несці павіннасці на карысць свайго новага ўладальніка. У 1652 г. гэта былі 10 агароднікаў са сваімі сем'ямі, у 1714 г. на юрыдыке жылі ўжо 27 сем'яў (НАГРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 10), у 1774 г. — 13 сем'яў (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3152. Л. 249--249 адв.), у 1775--1776 гг. — 14 сем'яў (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3152. Л. 69 адв.). У інвентары касцёла за 1796 г. чытаем пра юрыдыку: "Пляцу фундушовага пры касцёле знаходзіцца 5 маргоў, на адной частцы якога плябанскія агароды, а на другой частцы жывуць юрыдычаны, 15 дамоў. Іх імёны, прозвішчы і г.д. тут не падаюцца з той прычыны, што з'яўляюцца людам вольным, які можа сваё месца жыхарства пакінуць і куды-небудзь перанесціся. Тым часам, пакуль на плябанскіх пляцах жывуць, выконваюць наступную павіннасць..." (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 11). Аднак у інвентарах касцёла 1800 і 1802 гг. знаходзім падрабязны пералік 16 юрыдычан (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 8 адв.). Касцёльныя землі ў горадзе адлюстраваны на плане сярэдзіны XIX ст. (НГАРБ, ф. 1477, воп. 1, спр. 2833. Л. 1).

Самая ранняя знойдзеная візітацыя касцёла паходзіць з 1712 г. Дакладней, гэта рэестр касцёльнай маемасці (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 1--6). Ён цікавы тым, што адзначыў сляды панавання ў горадзе шведаў у 1706 г. Між іншым яны абдзёрлі труну маршалка ВКЛ Станіслава Казіміра Радзівіла, клецкага ардыната ў 1656--1690 гг. На той час пры касцёле меліся наступныя званы: вялікі, вагой у 32 камяні 10 фунтаў (каля 500 кг) — у бабінцы; малых званоў тры пад (?) вялікім алтаром; на званіцы звон адзін вялікі, другі меншы, трэці — "сігнанс"; пры сакрысціі “сігнанс”; да алтароў чатыры званкі (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 1 адв.).

Візітацыя 1714 г. цікавая тым, што мае інвентар касцёльнай юрыдыкі, в. Гусакі і в. Лукавец (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 7--11 адв.). Маецца апісанне і самога касцёла: "Касцёл мураваны, рапарацыі патрабуе. Паркан вакол касцёла стары, рапарацыі патрабуе. Брамы дзве старыя, дзверы абое маляваныя: з аднаго боку святы Петр, а з другога боку святы Павел. Званіца вялікая, у якой званоў тры: адзін вялікі, а два малыя. Сакрысція, да якой дзверы з касцёла, у поўным парадку. Над ей другая, да якой дзверы з могілак, сходы да яе патрабуюць рапарацыі, як і сам верх. Уваходзячы ў касцёл — у бабінцы дзверы маляваныя з унутраным замком, другія дзверы да самога касцёла сніцарскай работы, маляваныя і пасярэбраныя,

з вісячым замком. Алтар вялікі пад назвай Свяцейшая Троіца, сніцарскай работы, увесь пазалочаны, цыборыум да яго таксама пазалочаны. Алтар бакавы Найсвяцейшай Панны, сніцарскай работы, пазалочаны, толькі рамы вялікія не пазалочаны і некаторыя штукі; уверсе абраз св. Казіміра, пры якім балясы маляваныя. Алтар св. Крыжа такога жа абрысу, як і Найсвяцейшай Панны, таксама некаторыя штукі непазалочаныя, з бляшкамі ўверсе; у тым жа алтар Найсвяцейшай Панны смуткуючай. Алтар малы святой Ганны, не ўвесь дазалочаны, пры алтары вялікім. Алтарык з другога боку вялікага алтара, таго ж абрысу, святога Мікалая, яшчэ не дазалочаны. Алтарык насупраць амвона, святога Казіміра, недазалочаны. Фантан насупраць сакрысціі, маляваны і пасярэбраны. Амвон сніцарскай работы, яшчэ не пазалочаны. Канфесіяналаў чатыры маляваных" (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 8). Як бачым, работы па ўпрыгожванню касцёла ідуць поўнай хадой. Пералічаны касцёльныя абразы: 12 апосталаў "паміж вокнамі", 4 евангелісты, па баках вялікага алтара — Пан Езус і Найсвяцейшая Панна, над хорамі вялікі абраз Узнясення Найсвяцейшай Панны, 12 іншых абразоў у касцёле і 3 у сакрысціі. Хоры былі сніцарскай работы, на 6 слупах. На іх была намалявана "цэлая пасія" (пакутніцтва), некаторыя дэталі былі пасярэбраныя. Там стаяў пазітыў (невялікі арган) "старасвецкай работы ад шасцю галасоў з бубнамі” і шафа сталярскай работы на кветкі. Адзначаны "фундатарскі склеп" — мусіць, М.К.Радзівіла.

У 1728 г. плябан Міхал Габрыэль Залескі склаў спіс таго, што ён зрабіў дзеля касцёла. Вялікі звон быў адвезены ў Каралевец для акоўкі. У 1715 г. з Нарвілішак Ашмянскага пав. быў запрошаны арганны майстар Дамінік Паркевіч каб зрабіў новы пазітыў з 9 галасамі і бубнамі. Гэта каштавала плябану 800 злотых, але ён разлічыў, што новы інструмент у Каралеўцы ён не купіў бы і за тысячу. Майстар рабіў пазітыў больш за год. У 1716 г. з дазволу віленскага біскупа К.Бжастоўскага мазырскі плябан Пуцята разам з клецкім сакрысціянам Федарам Масловічам ездзіў у Белую і прывез у Клецк знакаміты абраз Дзевы Марыі, які 13 гадоў назад быў дадзены туды тадышнім клецкім плябанам. У 1720 г. была адрамантавана вежа. Работамі кіраваў нейкі Ежы Барылоўскі, цесля родам з Альшан. Апроч іншага быў зроблены новы купал з жалеза і пазалочаны крыж, усе каштавала 2000 злотых. У 1721 г. палова даха была пакрыта новым гонтам. У 1723 г. да касцёла была прыбудавана новая сакрысція і пастаўлены новы шпіталь (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 12--12 адв.).

Наступныя візітацыі касцёла датуюцца 1742 (НГРАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 213. Л. 27--34а адв.) і 1766 г. (РАБВУ, спр. 4 — 377334 (A--4505). Л. 1--5 адв.). Святыня захоўвалася прыкладна ў ранейшым стане. Паводле інвентара 1796 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 1--29), зноў былі дробныя праблемы з дахам будынка (так, купал вежы быў абабіты дошкамі, але большасць з іх была адарвана). Адзначаны некаторыя дэталі, якія раней не ўпаміналіся: "У канцы даха або над вялікім алтаром ёсць маленькі купалок, абабіты жалезнай бляхай, чырвоным колерам маляванай, з жалезным крыжам... Вакон у ім, акрамя сакрысціі, усіх адзінаццаць, усе ў драўляных рамах, блакітна маляваных, у волава апраўленых, добрыя... Унутры касцёл тынкаваны і пабелены. Скляпенне мае не гладкае, старасвецкае. Падлога ў ім з квадратнай цэглы, пад якой мураваныя чатыры труны памёршых, а пад вялікім алтаром труна, якая завецца фундатарскай, з мураванымі прыступкамі і аднім вакном. Дзверы да яе на падлозе ляжаць, простай работы, не гладкія, старыя. Другі склеп пад алтаром Пана Езуса, без акна, з мураванымі прыступкамі, з старымі лежачымі дзвярыма. Трэці склеп пад алтаром Найсвяцейшай Панны, з мураванымі прыступкамі, з акном і старымі разваліўшыміся дзвярыма. Чацвёртая труна — фаміліі Яленскіх, нядаўна вымураваная. Акно ў ёй адно, шкляное, з жалезнымі і драцянымі кратамі. Дзверы, якія ляжаць на падлозе, абабітыя жалезнымі цвікамі, з чатырма засоўкамі да замыкання" (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 2).

У 1766 г. у касцёле былі ўжо не 5, а 7 алтароў. Больш падрабязна яны апісаныя ў інвентары 1796 г. Апісанню адпавядаюць фотаздымкі пачатку XX ст. (Габрусь, 1993в; трэба адзначыць, што ў гэтай публікацыі на с. 71 на правым ніжнім месцы змешчаны здымак, зроблены не ў клецкім касцёле — гэта

выява інтэр'ера вялікага храма з унутранымі слупамі). Галоўны алтар, прысвечаны св. Троіцы, меў два ярусы. На першым знаходзіўся абраз св. Троіцы пад папяровай шатай, па баках былі змешчаны па дзве вялікія і па адной малой калоне (можа, мелася на ўвазе, што малыя калоны знаходзіліся на другім ярусе?). На другім ярусе месціўся абраз св. Міхала. Зверху стаялі тры малыя статуі анёлаў з шыльдачкамі ў руках з надпісамі "Sanctus", "Sanctus", "Sanctus", а па баках знаходзіліся дзве статуі біскупаў, св. Мікалая і св. Аўгусціна. Перад галоўным абразом на памосце з трымя прыступкамі стаяў стол.

Алтар побач з левага боку меў тры ярусы, дзе знаходзіліся абразы св. Мікалая (на палатне, паміж дзвюх калон), Пана Езуса і св. Яна Хрысціцеля, св. Міхала. Зверху былі тры фігуркі анёлаў. Да алтара вяла адна прыступка.

З правага боку знаходзіўся аналагічны алтар з абразамі св. Ганны (на палатне), св. Дамініка, св. Духа.

Гэтыя тры алтары знаходзіліся ў апсідзе і прэсбітэрыуме. Уздоўж сцен касцёла былі яшчэ чатыры двухярусныя алтары "сніцарскай работы", з калонамі паміж абразамі. У алтары з левага боку на першым ярусе месціўся цудатворны абраз Звеставання Найсвяцейшай Панны. Відаць, гэта той абраз, што быў прывезены ў 1716 г. з Белай. Яго цуды былі запісаны па загаду віленскага біскупа Стафана Паца адмысловай камісіяй 2 ліпеня 1677 г. Абраз быў на палатне і засоўваўся спецыяльнай дошкай, на якой таксама было намалявана Звеставанне. На другім ярусе гэтага алтара знаходзіўся абраз св. Казіміра (на палатне), на баках стаялі статуі св. Казіміра і Марыі Магдалены, зверху — маленькія фігуркі Найсвяцейшай Панны, св. Ежы, св. Катажыны.

Алтар насупраць вышэйапісанага быў аналагічным і меў абразы распятага Пана Езуса (на палатне) і Найсвяцейшай Панны Смуткуючай. Па баках стаялі статуі неназваных святых, уверсе — св. Яна, Найсвяцейшай Панны і Пана Езуса.

Яшчэ адзін алтар з левага боку быў часткова маляваны ў чорны колер. На першым ярусе гэтага алтара месціўся абраз св. Тадэуша (новы, на палатне), на другім — св. Яна Непамуцэна, на трэцім — св. Духа.

Алтар супраць быў аналагічным. Яго абразы мелі выявы св. Казіміра, св. Ганны, св. Юзафа (усе на палатне).

У 1796 г. храм меў адрамантаваны пазітыў, гэтым разам аб адзінаццаці галасах, упрыгожаны "штукамі" сніцарскімі. На касцёльных могілках з'явілася фігура распятага Пана Езуса пад невялікім маляваным у чырвоны колер гонтавым дашком, які абапіраўся на 4 чырвоныя слупы. Паміж імі былі зроблены драўляныя чырвоныя краты. На вежы-званіцы вісеў вялілі звон з адабітым краем і 2 малыя званы (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 9 адв.). Галоўны касцёльны фэст прыпадаў на дзень св. троіцы, "са значным конкурсам", як адзначана ў інвентары. На іншыя святы і нядзельныя службы людзей збіралася не больш як сто і часта меней (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л.2 адв.).

Захаваліся інвентары фарнага касцёла за 1800 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 1--10 адв.) і 1802 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 10а--40). Да 1800 г. стан званіцы яшчэ больш пагоршыўся, яна ўжо "без даха і крыжа, цалкам рапарацыі патрабуе" (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 1). У гэты час касцёльныя муры ўнуты часткова былі "маляваныя" (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 10а адв.). У сцены былі ўмураваны пяць шліфаваных каменных надмагілляў, недалёка ўваходных дзвярэй на падлозе ляжалі 8 дужых мармуровых надмагілляў.

У 1810 г. ў касцёле здарыўся пажар, але ў хуткім часе адбыўся рамонт на сродкі Мікалая Юзафа Радзівіла (Кушнярэвіч, 1993. С. 101). Далей храм паспяхова прастаяў XIX і пачатак XX ст. У 1923 г. касцёл фатаграфаваўся па ініцыятыве Таварыства аматараў навук у Вільні фатографамі А. Віслоцкім і Я. Булгакам. Здымкі захоўваюцца ў Гістарычным архіве Літвы (фонд 1135, вопіс 3, справа 501), некаторыя апублікаваны (Габрусь, 1993в; Якімовіч, 1989). Цяжкія гадзіны напаткалі касцёл у ІІ Сусветную вайну. Яго дах цалкам згарэў, але муры ў 1944 г. яшчэ трывала стаялі. Пасля вайны іх пачалі разбіраць на цэглу для гаспадарчых патрэб. Праца гэта ішла марудна, па словах відавочцаў, муроўка з цяжкасцю паддавалася інструменту. Да нашых дзён захавалася адно частка заходняга мура.

Непадалёк ад касцёла на працягу некалькіх стагоддзяў стаяла рэзідэнцыя парахаў — плябань. Яе выгляд на пачатку XVII ст. увекавечыў Т. Макоўскі на гравюры. Гэта быў шырока распаўсюджаны ў XVI--XVIII стст. дом маёнткавага тыпу: з некалькіх комнат, цэнтральным уваходам, кафлянымі печкамі і двума комінамі на даху. Над ім на гравюры змешчаны адпаведны надпіс: "Domus parochi" ("Дом параха"). Плябань стаяла на беразе Лані прыкладна за 300 крокаў ад касцёла. Яе апісанне ўпершыню знаходзім у касцёльным інвентары 1714 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488. Л. 8 адв.--9). Дом у той час меў цэнтральныя сені з дзвюма вялікімі ізбамі па баках, 4 алькеры (спальні), 2 каморы, спіжарню. У 1796 г. пляюань была цалкам атынкована і ababіта ўнутры маляванымі палатнянымі шпалерамі (трэба разумець, наклеенымі на палатно папяровымі), складалася з 3 пакояў, 2 ізб, 4 алькераў (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 10--10 адв.). У 1810 г. у плябані адзначана зала, 6 пакояў, 2 алькеры, 2 гардэробы (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 18 адв.--19 адв.). Відаць, гэта быў той жа будынак, які стаяў і ў 1796 г., але яго планіроўка істотна змянілася.

Пры фарным касцёле дзейнічала школка, як гэта і мела быць. Першую звестку пра яе знаходзім у інвентары Клецка 1641 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2. спр. 3139. Л. 105). Яна стаяла на вул. Закасцёльнай, побач з домам арганіста і непадалёк ад самога касцёла. Фундуш М.К. Радзівіла фарнаму касцёлу 1652 г. патрабаваў ад плябана: "А ксёндз плябан цяперашні і наступнікі павінен будзе і будуць трымаць вікарыя, сакрысціяна, арганісту, кантара, бакалаўра, які б дзетак чытаць, пісаць і спяваць вучыў" (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 24--24 адв.). У інвентары Клецка гэтая школа названа "польскай", што зразумела — каталіцкая царква карысталася перадусім пальшчызнаю і навучала па-польску ( НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3905. Л. 11 адв.). Больш дэталёвае апісанне гэтай школы знаходзім у касцёльным інвентары 1796 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 16). Была яна пабудавана з брусоў, крыта гонтам. Самае вялікае памяшканне (ізба) прызначалася для заняткаў з вучнямі. Тут стаяла печка з зялёных паліваных кафляў, пасярэдзіне пакоя знаходзіўся доўгі стол з 2 лавамі. Вакон было чатыры. У сенях школы было адгароджана спіжаранка. У іншы бок з сеняў можна было трапіць у другую ізбу з каморай. Тут таксама стаяла печ з зялёных паліваных кафляў і мелася 4 акенцы. З сеняў праз заднія дзверы можна было выйсці на падворак. Спецыяльна адзначана: "У гэтай парафіяльнай школе зімой утрымліваюцца з парафіі дзеці ўбогіх бацькоў роду шляхецкага, мяшчанскага і сялянскага. У рабочы час бываюць забранымі ад бацькоў дзеля непазбежнай патрэбы ў гаспадарцы. Дырэктар, якога трымае ягамосць ксёндз пробашч, — Мікалай Гаеўскі. Дзеці вучацца катэхізісу, чытанню, пісьму і пачаткам арыфметыкі". Аналагічнае апісанне выгляду школы знаходзіцца ў касцёльных інвентарах 1800 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 8) і 1802 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 18--18 адв.). У апошніх адзначана, што ў другой ізбе школы жыў арганіст. Пра колькасць вучняў паведамляюць Я. Курчэўскі і Т. Вержбоўскі. У 1777 г. са шляхты, а таксама мяшчан і сялян было адпаведна 6 і 7 вучняў, у 1781 г. — 3, 9 і 2, у 1782 г. — 2, 16 і 3 (Kurczewski,1912. S. 59; Wierzbowski, 1921. S. 210). Бурлівыя падзеі канца XVIII — пачатку XIX ст. не лепшым чынам адбіліся на лёсе школы. Прынамсі ў 1819 г. Юзаф Твардоўскі адзначыў пад час візітацыі школ Мінскай губерніі: "Якой-небудзь перафіяльнай школы ў ім (Клецку — В.П.) не знайшоў, акрамя дырэктара, які вучыць мяшчанскіх дзяцей пачаткам чытання і пісьма за ўмоўленую плату" (Twardowski,1904. S. 387).

Шпіталь пры фарны касцёле збіраўся фундаваць яшчэ Альбрыхт Радзівіл, але па нейкіх прычынах не паспеў. Гэта адзначыў ягоны сын Ян Альбрыхт, які 28 кастрычніка 1609 г. выдаў фундуш. Згодна дакументу, штогод шпіталю было павінна выдавацца 30 злотых, колькі бочак жыта, ячменю, грэчкі-татаркі, мяса, дровы. Двух "старшых шпітальных" князь прызначаў сам (НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1410. Л. 17--17 адв.). У старым вопісе Радзівілаўскага архіва адзначаны яшчэ нейкі "запіс шпітальны" А.Я. Радзівіла за 1619 г. і ардынацыя клецкаму шпіталю 1648 г., але бліжэй гэтыя дакументы не вядомы ( НГАРБ, ф. 694, воп. 7, спр. 768. Л. 13 адв.). Дакладна вядома, што шпіталь атрымаў вольную ад павіннасцяў валоку сярод

гарадской зямлі. Паводле інвентароў Клецка 1626 і 1641 гг. шпітальны дом знаходзіўся на Гродскай вуліцы (НГАРБ, ф. 694, воп.2, спр. 3135. Л. 1; спр. 1913. Л. 104 адв.). Не абмінуў шпіталь увагай і М.К. Радзівіл, калі ў 1651 г. даваў касцёлу фундуш. З-за таго, што шпіталь быў на пэўнай адлегласці ад касцёла, ён адвёў яму новы пляц і пацвердзіў старыя фундушы (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 27 адв.). Гэтак шпіталь перанеслі на вул. Ромнішча. Больш-менш дэталёвы яго вопіс паходзіць толькі з 1796 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 9 адв.). Касцёльны інвентар паведамляе: "За некалькі крокаў ад каталіцкіх могілак пры гасцінцы, у горад ідучым, ёсць дом з круглага дрэва будаваны, з доўгім ганкам ад вуліцы, пакрыты гонтам. У ім у правы бок ёсць ізба з каморай, з печчу зялёных кафляў з комінам над дах выведзеным. Таксама ў левы бок ёсць ізба з каморай, з печчу такой жа і комінам. У сенцах знаходзіцца спіжаранка альбо камора... Жывуць у ім тры дзяды і пяць баб..." Шпіталь стаяў на гэтам жа месцы ў 1802 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271. Л. 6 адв.) і 1809 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3138. Л. 360 адв.--361). Яго далейшы лёс не прасочваецца.

Другой каталіцкай святыняй у Клецку быў Дабравешчанскі касцёл дамініканскага кляштара. Заснавальнікам кляштара выступіў 24 мая 1683 г. Станіслаў Казімір Радзівіл. Месцазнаходжанне арыгінала фундуша нам не вядома, у архівах маюцца некалькі копій ( ГГАРЛ, ф. ДА, спр. 86. Л. 572--573; НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1082. Л. 38--39). Змест дакумента быў выкладзены ў публікацыі 1859 г. (Zbiór..., 1859. S. 229). Як паведамляе С.К. Радзівіл, яшчэ яго дзед Станіслаў Альбрыхт у тастаменце выказаў волю, каб дамініканцы заклалі кляштар і капліцу пры клецкім фарным касцёле, і дараваў ім фальварак Міхнаўшчызну (Шчэпаўшчыну), але "з-за шматлікіх важных прычын тая фундацыя ўзяць не магла эфекту". С.К. Радзівіл месца для дамініканскага кляштара і касцёла вызначыў у цэнтры горада, на паўночна-усходнім баку Рыначнай плошчы. Такім чынам, пасля уніяцкай Васкрасенкай царквы гэта была другая святыня на Рынку. Яны стаялі побач.

Акрамя пляца новазаснаваны кляштар атрымаў 1000 злотых штогод з княскага скарбу і інш. Кляштар меў і іншых фундатараў. Ежы Булгак дараваў фальварак Чаркаўшчызну. 4 ліпеня 1683 г. прызначаная С.К. Радзівілам камісія вызначыла пляц пад кляштар і касцёл, аб чым склала адпаведны акт (ГАРЛ, ф. ДА, спр. 86. Л. 566--567). Пляц выбралі такі, каб фасад касцёла выходзіў на Рынак, пры гэтым 13 гараджан былі пераселены на новыя месцы. Памеры касцёльнага пляца склалі 108 х 850 літоўскіх локцёў. Касцёл стаў паміж уніяцкай плябанняй і шпіталем.

Магчыма, хутка пачалося ўзвядзенне муру касцёла, але дакладныя даты не вядомыя. Галоўны аб'ём касцёла мае ў плане выцягнуты прамавугольнік. Неф разам з апсідай з паўцыркульным завяршэннем пакрыты выскоім агульным дахам. З поўначы месціца невялікая сакрысція. Галоўны фасад касцёла даволі сціпплы, меў дзве чацвёрыкавыя вежы з пакатымі дахамі. Паміж імі быў зроблены просты трохвугольны франтон, па вышыні амаль роўны вежам. Галоўны фасад крыху ажыўляўся карнізнымі паяскамі, нішамі і франтончыкамі, бакавыя фасады — шырокімі пілястрамі і прамавугольнымі вокнамі на двух узроўнях. За касцёлам быў пабудаваны двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак кляштара са скляпеннямі (Габрусь, 1993а. С. 242--243). Яшчэ далей на кляштарным пляцы аж да р. Сільнай знаходзіліся агарод і сад. Захаваўся план кляштарнай зямлі сярэдзіны XIX ст. (НГАРБ, ф. 1477, воп. 1., спр. 2833. Л. 1).

Адзіная вядомая нам візітацыя дамініканскага кляштара і касцёла паходзіць з 1796 г. (НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252. Л. 30--31). На той час акрамя прыора Беатуса Міляноўскага ў кляштары былі тры ксяндзы і адзін просты манах. Касцёл апісаны ў дакуменце так: "Касцёл мураваны пад тытулам Звеставаня Панны Марыі, толькі асвячоны. Мае дзве вежы, якія з-за агня засталіся пашкоджанымі. Гэты касцёл унутры не мае ніякай аздобы, акрамя аднаго вялікага мураванага алтара. А іншыя чатыры алтарыкі складаюцца толькі з абразоў, якія павешаны на голым муры". Далей адзначаны жылы будынак: "Кляштар, мураваны ў квадрат, няскончаны з усім звонку памяшканеннем, але цяпер у драўлянай вельмі старой афіцыне". Відаць, што дастаяўшы да нашага часу

будынак кляштара быў збудаваны ў самым канцы XVIII ст., сто гадоў пасля пабудовы касцёла. Існавала і школа. У 1796 г. аздзначался, што яна "утрымліваецца коштам Адукацыі і выгоды кляштарнай. Студэнтаў знаходзіцца 10, кандыцыі шляхецкай. Вучацца чытаць, пісаць, граматыкі і розных патрэбных навук. Прафесарам з'яўляецца сам ксёндз прыор". Адзначана, што шпіталя на той час пры кляштары не было, хаця ў 1795 г. Адахоўскі запісаў на яго 1000 злотых, а Траццяк падараваў 50 злотых. Яшчэ раней, у 1769 г., на дамініканскі шпіталь ахвяраваў 10 злотых Якуб Міладоўскі ( НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 5. Л. 855 адв.), а існаванне шпіталя пацвярджаецца дакументам 1774 г. (НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 12. Л. 737 адв.).

Клецкія дамініканцы мелі сваю юрыдыку, хоць і невялікую. Упершыню яна ўпамінаецца ў дакуменце 1711 г. (НГАРБ, ф. 694, воп. 14, спр. 267. Л. 119). У 1774--1776 гг. на юрыдыке жыла 1 сям'я (НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3152. Л. 249 адв.; спр. 1739. Л. 69 адв.).

Апісанне выгляду дамініканскага касцёла перад паўстаннем 1830 г. пакінуў Ян Ходзька (Wołyniak, 1923. S. 99). У нішы пасярод фасада касцёла тады яшчэ сталяла драўляная статуя св. Дамініка. Алтар касцёла быў мураваны, упрыгожаны драўлянай разьбой з пазалотай, з абразом Маці Божай пад сярэбранай шатай. Чатыры бакавыя алтары таксама былі мураваныя. Кляштар, паводле тых жа звестак, меў памеры 48 х 18 локцяў. Побач стаялі гаспадарчыя пабудовы.

Трагічным для клецкіх дамініканцаў аказаўся 1832 г., калі іх кляштар быў скасаваны, а касцёл зачынены — як помста царскіх уладаў за паўстанне 1830 — 1831 гг. Гэта была звычайная палітыка Масквы на Беларусі. Будынкі клецкага кляштара передалі дэпартаменту ваенных пасяленняў, якое іх закінула, хаця з цягам часу і збіралася размясціць там паўэксадрон уланскага палка (Руберовский, 1876. С. 141--142). У 1850 г. жонка Лявона Радзівіла Соф'я з роду князёў Урусавых, каб не будаваць паводле патрабаванняў расійскіх уладаў праваслаўную прыхадскую царкву, прапанавала перарабіць пад яе былы дамініканскі касцёл. Ваеннае міністэрства ў 1851 г. падрыхтавала даклад, дзе было адзначана, што ў будынках касцёла і кляштара скляпенні, дахі, кроквы, бэлькі, ваконныя рамы, дзверы і падлогі былі ў зусім лядашным стане; што толькі кляштарны корпус мог быць прыстасаваны для размяшчэння эскадроннага камандзіра, двух афіцэраў, канцылярыі і цейхгаўза. На рамонт і будаўніцтва стаен патрабавалася 12 000 рублей серабром. Узважыўшы апошнюю акалічнасць, міністэрства без асаблівых ваганняў зраклося ад гэтай бескарыснай для яго маёмасці на карысць праваслаўнай царквы. 28 сакавіка 1851 г. імператар Мікалай I наклаў рэзалюцыю на гэтым дакладзе: "Згодзен, каля княгіня Радзівіл дасць абавязательства ўладкаваць праваслаўную царкву, пісьмова і ў двухгадовы тэрмін". Следам надышоў указ Сінода ад 14 чэрвеня 1851 г. епіскапу Міхаілу, дзе аб'яўлялася, што былыя дамініканскія будынкі перадаюцца княгіне Радзівіл для ўладкавання там царквы ў чатырохгадовы тэрмін. Якім чынам два гады пературарыліся ў чатыры — загадка расійскай бюракратычнай машыны.

Радзівілаўская адміністрацыя ў тым жа 1851 г. адрамантавала будынак былога касцёла. Каштавала гэта, паводле яе ж слоў, 5 000 руб. Каб неяк наблізіць выгляд каталіцкай святыні да праваслаўнага храма, на касцёльныя вежы паставілі высокія шатровыя дахі з маленькімі цыбулінкамі. Вынік атрымаўся супрацьлеглым: высокія бакавыя вежы яшчэ больш падкрэслівалі каталіцкае аблічча будынка. Паўстанне 1863 г. таксама адгукнулася на абліччы святыні. Расійскі ўрад асігнаваў на храм 3 195 руб. (з іх 2 100 руб. пайшлі на новыя падлогі, іканастас і агароджу), але да сур'ёзных пераробак рукі не дайшлі.

У пачатку XX ст., за "польскім часам", храм гарэў, а пасля вайны быў зусім закінуты. Да нядаўняга часу ў былым касцёле быў размешчаны цэх механічнага завода, а кляштарны корпус прыстасавалі пад жыллё. Цяпер святыня перададзена праваслаўным і зноў перарабляецца пад царкву.

ЛІТАРАТУРА

1. АСД. 1869. Т. 6.

2. ГАРЛ. ф. ДА. спр. 86.

3. Габрусь Т. Клецкі Благавешчанкі касцёл і кляштар ламініканцаў // Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993[а].

4. Габрусь Т. На гары Анёльскай // Мастацтва. 1993[б]. N 1.

5. Габрусь Т. Касьцёл места Клецкага // Мастацтва. 1993[в]. N 2.

6. Габрусь Т., Галенчанка Г. Праверaная алгебрай гармонія // Мастацтва Беларусі. 1990. N5.

7. Грицкевич А.П. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI--XVIII вв.). Мн., 1979.

8. Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа. Из истории белорусской медицины. Мн., 1987.

9. Жукович П. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (с 1609 г.) СПб., 1908.

10. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1987. Кн. 1. Мінская вобласць.

11. Зимин А.А. Витязь на распутье. М., 1991.

12. Копысский З.Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978.

13. Кушнеревич А. Троицкий костел в Клецке // Строительство и архитектура Белоруссии. Мн., 1989. N 1.

14. Кушнярэвич А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII — XVI стст. Мн., 1993.

15. Лаўрэцкі Г.А. Рэтраспектыўна-рускі стыль у архітэктуры Беларусі// Весці АНБ. Сер. гуман. навук. 1993. N 1.

16. НГАРБ, ф. КМФ--5, воп. 1, спр. 1687.

17. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 1739.

18. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 1913.

19. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3135.

20. НГАРБ, ф.694, воп. 2, спр. 3138.

21. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3139.

22. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3152.

23. НГАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3905.

24. НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1089.

25. НГАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1410.

26. НГАРБ, ф. 694, воп. 7, спр. 768.

27. НГАРБ, ф. 694, воп. 7, спр. 1082.

28. НГАРБ, ф. 694, воп. 14, спр. 267.

29. НГАРБ, ф. 1477, воп. 1, спр. 2833.

30. НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 12.

31. НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 22.

32. НГАРБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 5.

33. НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 213.

34. НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 252.

35. НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 271.

36. НГАРБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 488.

37. НГАРБ, ф. 3245, воп. 7, спр. 3.

38. Описание Рукописного Отделения Виленской Публичной Библиотеки. Вильна, 1895. Вып. 1.

39. Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, сооставленная Пинским Старостою Станиславом Хвальчевским в 1552--1555 г. Вильна, 1884.

40. Поздняков В.С. Клецк X — XVIII вв. (История материальной культуры белорусского феодального города): Автореф. дис. ... канд. истор. наук. Мн., 1991.

41. ПСРЛ. 1859. Т. 8.

42. ПСРЛ. 1962. Т. 1.

43. ПСРЛ. 1962. Т.2.

44. Раппопорт П.А. Строительное производство Древней Руси (X — XIII вв.). СПб., 1994.

46. РИБ. 1910. Т. 27.

47. Руберовский Н. Материалы для истории православных церквей в Минской епархии. Местечко Клецк // Минские епархиальные ведомости. 1876. N 5.

48. РАВБУ. 4--377334 (А--4505).

49. Саверчанка І.В. Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993.

50. Успенкий Б.А. Филологические разыскания в области славянских древностей. М., 1982.

51. Якімовіч Ю. З віленскай калекцыі //Мастацтва Беларусі. 1989. N 11.

52. Jakubowski J. Z dziejów Księcia Sierotki. Geograf polski Tomasz Makowski. Moskwa, 1916.

53. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1932--1948. T. 1.

54. Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie. Wilno, 1912.

55. Lulewicz H. Radziwiłł Albrycht // Polski Słownik Biograficzny. Wrocław etc., 1987. T. XXX/1. Z. 124.

56. Łukaszewicz J. Dzieje kościołow wyznania helweckiego w Litwie. Poznań, 1843. T. 2.

57. Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972.

58. Paszenda J. Góra Anielska pod Nieświeżem // W kręgu badań nad sztuką polską. Lublin, 1983.

59. Scriptores rerum polonicarum. Kraków, 1885. T. 8. Archiwum domu Radziwiłłów.

60. Twardowski J. Wizyta jeneralna szkoł i zakładów edukacyinych w gubernii Mińskiej odbyta w roku 1819 // Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. Kraków, 1904. T. X.

61. Wierzbowski T. Szkoły parafjalnie w Polsce i na Litwie za czasów Komisji Edukacji Narodowej 1773--1794. Kraków, 1921.

62. Wołyniak (Giżycki J.M.). Wykaz klasztorów dominikańskich prowincyi ruskiej. Kraków, 1923. Cz. II.

63. Zbiór pamiętników do dziejów polskich /Wyd. W.S. de Broel-Plater. Warszawa, 1859. T. 4.

ШАБЛЮК В. (Мінск)

# ДА ПЫТАННЯ ФАРМІРАВАННЯ МЯСТЭЧАК БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ

Узнікненне мястэчак на землях Беларусі з'явілася заканамерным вынікам развіцця феадальнай гаспадаркі краіны. На працягу 13 — 14 стст., у час фарміравання Вялікага княства Літоўскага асноўнымі тыпамі населеных пунктаў на Беларусі былі гарады і сёлы. Пры агульнай невялікай колькасці паселішчаў гэтага перыяду яны, у асноўным, забяспечвалі адзін другога прадуктамі сельскай гаспадаркі і рамяства. Аднак ужо ў гэты час у адпаведных месцах узнікалі невялікія торгі, на якіх жыхары гарадоў і вёсак абменьваліся прадуктамі сваёй дзейнасці. Месцы гэтых торгаў з'яўляліся як бы праобразам будучых паселішчаў. У 15 ст. на землях Беларусі адбываецца актыўны каланізацыйны працэс, узнікаюць новыя вёскі і двары, павялічваецца колькасць насельніцтва ў гарадах. Патрэбы ўнутранага рынку стала павялічваюцца. Беларускія землі паступова ўцягваюцца ў кола агульнаеўрапейскіх рынкавых адносін. Эканамічнае развіццё ў 15 ст. суправаджалася паляпшэннем знешне- і ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі. У такіх абставінах ствараліся аб'ектыўныя перадумовы для ўзнікнення новага тыпу паселішчаў. Яны былі павінны запоўніць той тэрытарыяльна-эканамічны вакуум, які ўтварыўся паміж горадам і вёскай у выніку сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускіх зямель феадальнай эпохі.

Як адзначаў М. Доўнар-Запольскі, "правільная" ўрадавая дзейнасць па закладанню мястэчак стала праводзіцца Жігімонтам І, хаця і да яго было заснавана нямала мястэчак (Довнар-Запольский, 1901. С. 277). Новыя паселішчы з'яўляліся сельскагаспадарчымі па сваім заняткам, але прывілеі на іх заснаванне спрыялі развіццю ў іх гарадскіх рысаў (існаванне корчмаў, торгаў, кірмашоў).

Першыя пісьмовыя звесткі пра мястэчкі ("месты") Беларускага Панямоння адносяцца да 15 ст. У крыніцах гэтага часу ёсць паведамленні пра 22 месцы ці мястэчкі на дадзенай тэрыторыі* . Сярод іх — чатыры старажытныя гарады (Гародня, Навагрудак, Слонім, Ваўкавыск), два "новыя" месцы, якія гарадамі ў поўным сэнсе гэтага слова становяцца толькі ў 16 ст. (Ашмяна, Ліда) і 16 уласна мястэчак (Дубічы, Магільнае, Радунь, Васілішкі, Беліца, Краснае Сяло, Крэва, Маркаў, Моўчадзь, Масты, Жалудок, Астрына, Ляхавічы, Адэльск, Мсцібаў, Кабыльнік). Трэба адзначыць, што звесткі, сабраныя С. Аляксандровічам адносна першага ўзгадвання мястэчак у пісьмовых крыніцах, будуць вядома ж удакладняцца ў бок больш ранніх датаў. Некаторыя з такіх удакладненняў можна зрабіць ужо сёння. Так мястэчка Зэльва (Ваўкавыскі павет) упершыню пад такім статусам называецца не ў 1565 г., а ў 1524 (пацверджанне князю Івану Міхайлавічу Вішнеўскаму на "взиманье мыта в именье его местечке Зельве на вечность") (ОДМАМЮ, 1915. С. 290). У выніку пошукаў у пісьмовых крыніцах некалькі павялічыўся "узрост" такіх мястэчак як Ішчолна (Лідскі павет) — 1541 (ОДМАМЮ, 1915. С. 410) і Раманаў (Слуцкае княства) — 1638 (НАРБ, ф. 160, воп. 1, спр. 15).

Абсалютная колькасць мястэчак у рэгіёне ўзнікае на працягу 16 ст. Пры гэтым, адносіны паміж лічбай мястэчак закладзеных у першай і другой паловах гэтага стагоддзя былі прыблізна аднолькавымі (глядзі табліцу 1).

Табл.1. Мястэчкі Панямоння ў 15--17 стст.

| Перыяд | Колькасць існуючых мястэчак (паводле пісьмовых крыніц) | З іх заснавана |
|---|---|---|
| 15 ст. | 16 | |
| 1-я палова 16 ст. | 60 | 23 |
| 2-я палова 16 ст. | 60 | 14 |
| Карта Т.Макоўскага (канец 16 ст.) | 38 | |
| 17 ст. | 21 | 8 |
| РАЗАМ | 195 | |

* Пры падліку колькасці мястэчак на тэрыторыі Беларускага Панямоння былі выкарыстаны дадаткі 1 і 2 з працы С. Аляксандровіча (Гл. Geneza i rozwoj sieci miasteczek Białorusi i Łitwy do połowy 17 w.// Acta Baltico-Slavica, 7, 1970. S. 67 — 89).

Акрамя пісьмовых крыніц, інфармацыю пра мястэчкі Беларускага Панямоння па стану на канец 16 ст. утрымлівае і карта Тамаша Макоўскага. З яе мы ўпершыню даведваемся пра існаванне 38 мястэчак рэгіёна (Біюцішкі, Блотна, Бераставіца, Дараў, Дзяляцічы, Даўгінава, Галавачы і інш.). Як мы пабачым ніжэй, далёка не ўсе ўзгаданыя на гэтай карце мястэчкі былі імі ў сапраўднасці. Але з другога боку, частка існуючых у гэты час мястэчак не знайшла на ёй свайго адлюстравання. Таму прыведзеная лічба (38) зразумела не можа лічыцца дакладнай.

У дакументах 17 ст. ёсць звесткі ўсяго пра 21 мястэчка (з іх восем — новастворанных) на тэрыторыі Беларускага Панямоння.

Трэба ўлічваць, што ў першых пісьмовых паведамленнях пра мястэчкі ўтрымліваецца інфармацыя, як правіла, пра ўжо дастаткова развітыя паселішчы, якія налічваюць не адзін год існавання. Напрыклад, Здзяцел (Слонімскі павет) згадваецца ўпершыню ў пісьмовых крыніцах як мястэчка ў 1556 г. (АВАК. Т. 22. 1895. С. 19). Але з тэкста дакумента вынікае, што паселішча ўжо мела даволі развітую сацыяльна-эканамічную структуру. У ім дзейнічалі касцёл, карчма, праводзіўся торг. Сярод жыхароў Здзяцела называецца рамеснік-чабатар.

Доўгі час шляхта магла засноўваць на сваіх землях мястэчкі толькі са згоды вялікага князя (гаспадара). Таму не выпадкова падчашы ВКЛ Ян Мікалаевіч Радзівіл у просьбе да гаспадара дазволіць мець корчмы і торг у сваім двары Гадуцішкі падкрэсліваў, што “... тым торгом его шкоды торгом нашим никоторой нет”. Жыгімонт І задаволіў просьбу падчашага, “...коли то есть без школы торгов наших господарских” (АЮЗР. Т. 1. 1863. С. 70 — 71). Такі парадак быў замацаваны ў адным з артыкулаў Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г.: “Тэж приказуем, абы жадин чоловек в панстве нашом Великом князьстве Литовском не смел новых мыт вымышляти ани вставляти ни на дорогах, ани на местех, ани на мостех, и на греблех, и на водах, ани на торгох в именях своих, кроме которые были з стародавна вставленые, а мели бы на то листы продков наших великих князей, або нашии” (Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. 1960. С. 39). У артыкуле 14 “Уставы на валокі” (1557) падкрэслівалася: “торги ничые новые подле мест наших ближей трох миль ку перекaзе местом и торгом нашым абы не были, окром торгов старых, — тые по давному быти мають” (РИБ. Т. 30. 1914. С. 550 — 551). Безумоўна, што згаданыя абмежаванні па стварэнню мястэчак былі абумоўлены нежаданнем гаспадара дзяліць свае даходы са шляхтай. Новыя мястэчкі адцягвалі пэўную частку сельскага насельніцтва разам з яго прадукцыяй і грашыма на свае ўласныя рынкі. З другога боку, гаспадары былі зацікаўлены ў пашырэнні сферы таварна-рынкавых адносін, у асваенні новых зямель, ва ўключэнні ў сістэму падаткаабкладання новых груп насельніцтва, што мела б вынікам, у рэшце рэшт, павялічэнне прыбыткаў дзяржавы. Таму яны імкнуліся прыцягнуць у свае ўладанні вольных (“пахожых”) людзей з прыватнаўласніцкіх маёнткаў. Такія людзі былі асабліва патрэбны пры закладанні мястэчак у неасвоеных, лясных абшарах (“на сырым” ці “суровым корані”). Ва ўказе Жыгімонта І старостам, якімі валодала каралева Бона, чытаем: “ И которые бы кольвек люди вольные похожыи у поветех ваших хотели з местечок и торгов и имений князьских и панских за её милость ити и на той воли садити, тых бы есте людей не велели никому ничим гамовати” (Довнар-Запольский, 1901. С. 285). Канкурэнцыя, якая ўзнікала паміж феадаламі і гаспадаром, з’яўлялася сведчаннем далейшага развіцця таварна-рынкавых адносін на землях Беларусі. У такіх умовах указы аб абмежаванні торгаў і мястэчак супярэчылі патрэбам гаспадарчага развіцця краіны. Разумеючы гэта, гаспадары часам выдавалі прывілеі для ўжо заснаваных землеўласнікамі мястэчак. І нарэшце ў Статуце 1588 г. за шляхтай было замацавана права на стварэнне ў сваіх маёнтках мястэчак: “А хто бы з обывателей того паньства якого кольвек стану и народу шляхецкого для примноженья собе пожитку хотел на грунте своем местечко новое садити, то ему вольно будеть учинити, и торговое в нем водлуг давного звыклого обычаю, яко се то в местечкох иных князских и панских заховуеть, установить” (Статут Вялікага Княства Літоўскага, 1989. С. 98 — 99).

Існавалі розныя варыянты гаспадарскіх і шляхецкіх прывілеяў на заснаванне мястэчак.

Для тэрыторыі Беларускага Панямоння найбольш распаўсюджанымі былі прывілеі на закладанне мястэчка, торга і корчмаў. У якасці прыклада прывядзём прывілей Жыгімонта ІІ Аўгуста князю Юрыю Слуцкаму (Алелькавічу) ад 12 лютага 1568 г. на заснаванне мястэчка Пясочнае: “Мает князь Слуцкий на том грунте имения своего Копыльского на врочищу Песочной, над рекою Немном лежачом, местечко людьми своими и прихожими вольными засадити и в нем торг мети каждое недели в тот день, в который его милость похочет. В том местечку вольно будет ему корчмы вольныя, со вшеляким шинком и речми строевным и допустити подданым своим держати также купецтв, гандлев с товары их уживати, которым вольности и вшеляких пожитков князь Слуцкий его милость, малжонка, дети потомки и по них будучие щадки их с оного местечка своего за сим листом Нашим вживати мают вечно...”(НАРБ, ф. 299, воп. 2, спр. 7643).

Радзей выдаваліся прывілеі на закладанне мястэчка, на торг і корчмы, на торг і корчмы пры двары. Акрамя таго, сустракаліся прывілеі на торг, на торг і кірмаш, на закладанне мястэчка і кірмаш і інш.

Першапачаткова мястэчкі засяляліся падданымі таго ўладальніка, на землях каторага яны засноўваліся. Аднак паколькі такіх людзей часта было недастаткова, заснавальнікі мястэчак прымалі ў іх і жыхароў з іншых уладанняў, у тым ліку, і беглых сялян. Апошніх прыцягвала ў мястэчкі магчымасць атрымаць “волю”, гэта значыць на пэўны час вызваліцца ад уплаты падаткаў. Акрамя таго, павіннасці ў мястэчках былі менш цяжкімі, чым у вёсках. Негледзячы на ўказы, якія забаранялі ўладальнікам мястэчак прымаць да сябе беглых сялян, такая практыка існавала, бо новыя людзі спрыялі развіццю паселішча (Alexandrowicz, 1966. S. 40 — 45). Вядомы і факты вярбоўкі гаспадарскіх людзей у прыватнаўладальніцкія мястэчкі. Накрыклад, у першай чвэрці 17 ст. людзі Крыштафа Радзівіла праводзілі агітацыю сярод жыхароў Менска і Наваградка з мэтай іх перасялення ў Любчу (Alexandrowicz, 1966. S. 46).

Сведчаннем той важнай эканамічнай ролі, якую сталі адыгрываць мястэчкі ўжо ў першыя гады свайго існавання, з’яўляюцца наступныя факты. У 1602 г. Ян Караль Хадкевіч купляе ў Януша Радзівіла за 60 тысяч клр грошай літоўскіх чатыры моргі грунту ў мястэчку Пясочная на “...прыстань віцін і на пабудаванне там дому якога для стражы спіхлераў наших там будучих” (НАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1731, арк. 2 — 2ад). У 1632 г. узнік канфлікт паміж ваяводай менскім Аляксандрам Служкай і каштэлянам віленскім Альбрэхтам Радзівілам, уладанні якіх знаходзіліся па-суседству, уздоўж ракі Нёман. У гэтым годзе людзі А. Радзівіла зрабілі гвалтоўны наезд на мястэчка Стоўпцы, якое незадоўга перад гэтым было заснавана А. Служкай. Яны перакапалі гасцінец, які ішоў праз Стоўпцы ў напрамках на Менск і Пінск, пасеклі паром і слупы на прыстані, узялі ў палон перавозчыкаў, нанеслі нямала шкодаў у самім мястэчку (НАРБ, ф. 694, воп. 1, спр. 1661, арк. 77 — 77ад). Прычынай гэтых падзей было закладанне А. Служкай мястэчка на правым беразе Нёмана. Да гэтага часу адзіная ў наваколлі прыстань з мястэчкам знаходзілася на левым беразе ракі ў Свержні, які належаў Радзівілам. З’яўленне побач са Свержнем новага мястэчка стварала яму сур’ёзную канкурэнцыю і змяншала даходы яго ўладальнікаў. Цяпер купцам з правабярэжжа Нёмана было намнога зручней прывозіць свае тавары для продажу і адпраўкі ўніз па рацэ ў Стоўпцы. Тым самым Радзівілы гублялі манапольнае права валодання пристанню і мястэчкам у тым месцы, дзе Нёман станавіўся суднаходным.

Інвентары (рэестры) феадальных уладанняў даюць магчымасць разгледзець тую сітуацыю, якая назіралася ў закладзеных мястэчках у першыя гады іх існавання. Карціна нядаўна заснаванага на вольным месцы паселішча-мястэчка паўстае перад намі з “Рэестра спісання маёнтка Свержань” за 1568 г. (НАРБ, ф. 694, воп. 2, спр. 7710, арк. 37 — 38). Усяго ў гэты час тут налічвалася каля дзесяці заселеных двароў (“дымаў”). Некаторыя пляцы адведзеныя пад двары яшчэ пуставалі. Акрамя сядзібных пляцаў, у большасці з гаспадароў былі агароды, ворыўная зямля, сенажаці. Памеры ворыўных зямель і сенажацей у асобных местачкоўцаў істотна адрозніваліся. Так ворыўныя плошчы вагаліся ад 2 да 60 бочак збожжа, а сенажаці — ад 6 да 60 вазоў сена. Пры гэтым найбольшыя

ворыўныя ўчасткі і сенажаці належалі мясцоваму папу. У толькі што ўтвораным мястэчку ўжо з'явіліся ўсе галоўныя кампаненты забудовы такога роду паселішчаў — царква, піўныя і гарэлачныя шынкі, якія мясціліся ў дварах местачкоўцаў, млын. У мястэчку дзейнічалі прадстаўнікі мясцовай улады — войт і цівун. У адным з двароў жыў раменнік-шавец, а яшчэ адзін пляц быў адведзены для вознічага.

Згодна інвентару 1570 г. і мястэчка Быцень (Слонімскі павет) толькі пачынала сваё існаванне (АСД. Т. 3. 1867. С. 282). У ім з 25 адведзеных пад забудову пляцаў у гэтым годзе было заселена толькі дзесяць. Для жыхароў мястэчка ўжо быў устаноўлены памер капшчызны (падатак на гандаль мёдам, віном, гарэлкай, півам), хаця, як адзначалася ў дакуменце, тут "...уставичных корчом на сесь час нет" (АСД. Т. 3. 1867. С. 282).

У 70-я гг. 16 ст. пачынала фарміравацца мястэчка Рось (Ваўкавыскі павет), якое пад такім статусам было ўпершыню ўказана на карце Т. Макоўскага. У інвентары маёнтка Рось за 1571 г. мястэчка яшчэ не згадваецца, але галоўныя элементы яго забудовы (царква і карчма) ўжо былі пабудаваны (АСД. Т. 1, 1867. С. 146 — 147).

Паводле інвентара 1579 г., у працэссе першапачатковай забудовы знаходзілася і мястэчка Ішкалдзь (Навагародскі павет) ( НАРБ, кмф-5, воп. 1, спр. 1379, арк. 3-6). У гэты час у ім існавалі толькі 82 заселеныя пляцы "ідучы з двара да места".

Адпаведна з умовамі ўзнікнення, мястэчкі Беларускага Панямоння можна падзяліць на наступныя групы:

1) Мястэчкі, якія ўзніклі як торгі і паселішчы раменнікаў і земляробаў вакол двароў феадалаў.

2) Мястэчкі, якія былі закладзены побач з феадальнымі замкамі.

3) Мястэчкі, узнікненне якіх было звязана з існаваннем культавых асяродкаў.

4) Мястэчкі, якія сфарміраваліся на месцы існуючых раней вёсак.

5) Мястэчкі закладзеныя на месцы рачных прыстаняў на Нёмане.

6) Мястэчкі, якія ўтвараліся ўздоўж важных сухапутных шляхоў.

7) Мястэчкі, з'яўленне якіх было абумоўлена наяўнасцю двух ці некалькіх вышэй згаданых умоў.

Для тэрыторыі Беларускага Панямоння найбольш характэрным было размяшчэнне мястэчак паблізу феадальных двароў. Пры гэтым мястэчкі ўзнікалі як непасрэдна побач з дваром (Валожын, Узда, Шчучын, Цэрын, Варняны), так, і гэта часцей, на пэўнай адлегласці ад яго (Стоўпцы, Ражанка, Зэльва, Поразава, Дзеляцічы, Рубяжэвічы, Краснае Сяло, Здзяцел і інш.). Пра шляхі ўзнікнення такога роду мястэчак дае ўяўленне інвентар двара Геранёны (Ашмянскі павет), складзены пасля 1520 г. (АСД, 1870, С. 15 — 16). Паселішча ў дакуменце яшчэ не называецца мястэчкам, але ў ім ужо відавочна прасочваюцца характэрныя для такіх населеных пунктаў рысы. Будучае мястэчка фарміравалася каля панскага двара. У ім жылі дваровыя слугі, панскі салянік, які "...солі на двор што потреба будеть, достаток даеть", каваль. У пасёлку дзейнічала восем корчмаў, два млына, а пры дарозе стаяла кузня. Такім чынам, у інвентары яскрава відаць адрозненне сфарміраванага паселішча ад звычайнай вёскі. Да гэтай жа групы мястэчак адносіцца Ражанка (Лідскі павет). Першыя звесткі пра яго датуюцца 1599 г., калі яно толькі пачынала забудоўвацца ( АВАК. Т. 14. 1887. С. 638). Аднак тут ужо жылі прадстаўнікі местачковай адміністрацыі (войт, падвойскі), дзейнічала карчма. З 11 заселеных двароў, у шасці жылі раменнікі (каваль, пекар, рыбак, кравец, слесар, кухар).

Да ліку мястэчак, з'яўленне якіх было звязана з існаваннем побач феадальных замкаў, адносяцца Мір (Навагародскі павет), Радашковічы (Менскі павет), Мсцібогаў (Ваўкавыскі павет), Свір, Жодзішкі, Гальшаны, Лоск (Ашмянскі павет). Стварэнне ў такіх месцах мястэчак тлумачылася як эканамічнымі, так і ваенна-стратэгічнымі мэтамі. Замкі патрабавалі размяшчэння ў іх гарнізону, забяспячэння рамонту, няўстаннай пастаўкі прадуктаў і падтрымкі жыхароў у выпадку ваеннай небяспекі (Грушевский, 1918. С. 20 — 21).

Часам тым асяродкам, вакол якога адбывалася фарміраванне мястэчак, з'яўляліся культавыя ўстановы (цэрквы, касцёлы, манастыры, кляштары). Вядома, што каля іх, у

адпаведныя святочныя дні праводзіліся торгі ці кірмашы, на якія сцякаліся навакольныя земляробы і рамеснікі. Напрыклад, звесткі пра кірмаш у Жыровічах (у дзень нараджэння Панны Марыі) утрымліваюцца ў пісьмовых крыніцах за 1565 г. (АВАК. Т. 22. 1895. С. 178). Паступова, з дазволу царкоўных уладаў, адведзенае для торгаў месца пачынала забудоўвацца і ператваралася ў мястэчка. Такім чынам, сфарміраваліся мястэчкі ў Жыровіцах (Слонімскі павет), Гавязне (Навагародскі павет), Ваверцы (Лідскі павет), Будславе, Парфіянаве (Ашмянскі павет).

Нязначная частка мястэчак узнікла на месцы існуючых раней вёсак. Фарміраванне новага тыпу паселішчаў адбывалася тут на працягу другой паловы 16 ст. і было звязана, верагодна, з правядзеннем “валочнай памеры”. Так, паводле інвентара 1588 г. адна з вуліц мястэчка Станькава (Менскі павет) размяшчалася на частцы сяла Станькава, а другая — на тэрыторыі суседняга сяла Каменка (НАРБ, кмф -5, воп. 1, спр. 1696, арк. 104 — 104ад). У канцы 16 — пачатку 17 ст. на месцы сяла Мікалаева (Навагародскі павет) сфарміравалася мястэчка, за якім замацавалася назва Мікалаеўшчына. У 1596 г. сяло Мікалаева складалася з 17 двароў. Пры сяле, над ракой Нёман стаяла карчма з броварам (НАРБ, кмф-5, воп. 1, спр. 2399, арк. 1-3). А згодна інвентара 1628-29 гг., гэта значыць праз нейкіх 30 гадоў, паселішча ўяўляла сабой “места Мікалаеўшчына”, у якім налічвалася 114 двароў і пяць вуліц, дзейнічалі касцёл, ратуша, млын (НАРБ, кмф-5, воп. 1, спр. 2666, арк. 285 — 290). Такі хуткі рост паселішча тлумачыўся перш-наперш яго зручным геаграфічным размяшчэннем на важнейшай гандлёвай артэрыі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі.

Асобна трэбы вылучыць мястэчкі, закладзеныя на “суровым” корані, на неабжытых дагэтуль лясных прасторах (Беніца Ашмянскі павет, Саколка Гародзенскі павет). Пры заснаванні мястэчка на “суровым” корані старасты, якія дзейнічалі па загаду гаспадара, даручалі “годнаму” чалавеку знайсці зручнае месца для паселішча. Потым гэта месца падзялялі на валокі, а годны чалавек прызначаўся местачковым войтам (Довнар-Запольский, 1901. С. 280).

Некаторыя мястэчкі ўзніклі побач з рачнымі пристанямі на беразе Нёмана. Большасць з іх ўтварылася ў верхнім цячэнні ракі. Так мястэчка Пясочнае сфарміравался паблізу ад таго месца, адкуль пачынаўся сплаў па рацэ. Мястэчка Свержань размясцілася каля таго месца, дзе Нёман рабіўся суднаходным. У месцах зручных перапраў цераз раку знаходзяцца таксама Магільнае, Стоўпцы, Ярэмічы, Слабада Сіняўская, Мікалаеўшчына, Мікалаева.

З развіццём сухапутных гандлёвых шляхоў звязана ўзнікненне мястэчак Сталавічы (Навагародскі павет), Ражана (Слонімскі павет), Шчучын (Лідскі павет), Новы Двор (Ваўкавыскі павет). Жыхары названых паселішчаў, акрамя селькагаспадарчых і рамесных заняткаў, былі павінны забяспечваць камунікацыйныя паслугі.

Вядомы цэлы шэраг мястэчак, якія спалучалі розныя шляхі свайго ўзнікнення. Напрыклад, мястэчка Мір сфарміравалася паблізу замка, на важным гандлёвым шляху з Навагародка і Слоніма на Менск. Масты (Гародзенскі павет) былі абавязаны свайму заснаванню існуючаму тут двару і месцу пераправы праз Нёман. Койданава ўзнікла непадалёку ад феадальнага двара, на перасячэнні некалькіх сухапутных шляхоў. Каштоўным дапаўненнем да звестак пісьмовых крыніц адносна ўмоў узнікнення мястэчак з'яўляюцца археалагічныя матэрыялы. Дзякуючы ім можна, у прыватнасці, высветліць як адбывалася фарміраванне таго ці іншага мястэчка: на месцы ўжо існуючага раней паселішча альбо на неасвоенай яшчэ тэрыторыі. Пры гэтым археалагічныя датыроўкі могуць даволі істотна адрозніваццa ад пісьмовых. Напрыклад, Ракаў (Менскі павет) , паводле С. Аляксандровіча, упершыню ўзгадваецца як мястэчка ў 1579 годзе. Але археалагічныя даследаванні ў цэнтры мястэчка (тэрыторыя, прылягаючая да пляца Волі) паказалі, што паселішча тут існавала яшчэ ў 15 ст. Адкрытым пакуль што застаецца пытанне пра статус гэтага паселішча: ці з'яўлялася яно ўжо мястэчкам, ці было сельскім паселішчам.

Трэба абавязкова адзначыць, што далёка не ўсе паселішчы, якія ў пісьмовых крыніцах называюцца “местамі” альбо “мястэчкамі”, на самой справе з”яўляліся імі. У адзінкавых

выпадках падобныя факты могуць тлумачыцца памылкамі складальнікаў дакументаў. Але ў большасці выпадкаў, паселішчы, якія называюцца ў крыніцах мястэчкамі, сапраўды атрымлівалі такі статус, аднак у сілу розных прычын не пацвердзілі яго. Напрыклад, у дакументах 1566 г. ёсць паведамленне пра кірмаш у дзень святога Міколы ў маёнтку Яцынічаў на р. Шчара (Слонімскі павет). Па гэтай прыкмеце С. Александровіч і ўключыў Шчару у пералік мястэчак Беларусі і Літвы. Але відавочна, што далёка не ва ўсіх месцах торгі і кірмашы з'яўляліся передумовай стварэння мястэчак. Прынамсі ў Шчары мястэчка ў далейшым так і не сфарміравалася. Паводле інвентара 1599 г. тут было невялікае сяло, карчма пры перавозе і фальварак (АВК. Т. 14. 1887. С. 625 — 626). Аддаленасць ад ажыўленых гандлёвых шляхоў, напэўна стала прычынай, якая перашкодзіла ўзнікненню мястэчка ў адзначанай мясцовасці.

У дакуменце за 1590 г. ёсць звесткі пра "мещан местечка Кухтичи", што знаходзілася ў Менскім павеце і належала ў той час Кавячынскім (АВАК. Т. 36. 1912. С. 364). Аднак у дакументах больш позняга часу мы не знаходзім звестак пры гэта мястэчка. Тлумачэннем такой акалічнасці можа служыць той факт, што ў 3 км ад Кухцічаў ужо існавала мястэчка (Узда) і новае паселішча, не здолеўшы стварыць яму канкурэнцыю, засталося проста феадальным дваром.

Мястэчка Лоск (Ашмянскі павет) знаходзілася ў баку ад больш-менш важных сухапутных і рачных шляхоў. Пасля таго, як у 17 ст. згубіў сваё стратэгічнае значэнне мясцовы замак, пачаўся занапад і мястэчка, якое ўсё больш ператваралася ў звычайнае сяло.

На карце Т. Макоўскага як мястэчка пазначана Забрэжжа (Ашмянскі павет). З інвентара 1626 г. вынікае, што тут, непадалёку ад двара, пры гасцінцы дзейнічалі царква, касцёл і карчма (НАРБ, ф. 1767, воп. 1, спр. 19, арк. 596 ад.). Відавочна, што гэтае месца і планавалася як ядро будучага мястэчка. Аднак у наступным яно ўлілося ў суседняе вялікае сяло Забрэжжа і толькі ў другой палове 19 ст. гэта частка паселішча стала называцца мястэчкам у адрозненні ад побач размешчанай вёскі.

На карце Т. Макоўскага, побач з Забрэжжам, адзначана і мястэчка Славенск (Ашмянскі павет). Гэта было старажытнае, вядомае яшчэ з 14 ст. паселішча, якое належала ў свой час вялікаму князю літоўскаму Вітаўту, потым князям Альгердавічам, Канстанціну Астрожскаму і іншым уладальнікам. Магчыма, каля двара ў 16 ст. існаваў нейкі торг, альбо было паселішча рамеснікаў, што і дало падставу картографу нанесці Славенск на сваю карту як мястэчка. Аднак у рэальнасці, толькі ў 1750 г. тагачасны ўладальнік Славенска Станіслаў Шаняўскі атрымаў прывілеў Аўгуста III на торгі і кірмаш (Jankowski, 1896. S. 264). Яны адбываліся каля пабудаванай у 1700 г. царквы святога Мікалая. Вакол царквы і цяпер ёсць сляды селішча з керамікай і іншымі археалагічнымі матэрыяламі познесярэднявечнага перыяду, якія могуць быць звязаны з існаваннем колішняга мястэчка. Але ў 19 ст. развіццё мястэчка прыпынілася і яно пад такім статусам ужо ў дакументах не згадваецца.

У "Рэвізкай сказцы" за 1795 г. у якасці мястэчка называецца Засулле (у той час часова знаходзілася ў Нясвіжскім павеце, пазней у Менскім павеце) (НАРБ, ф. 333, воп. 9, спр. 164, арк. 115 — 117). Гэтае паселішча ўзнікла побач са шляхецкім дваром і сялом Засулле пры гасцінцы Мір — Менск. Ужо ў папярэдні час тут існавалі карчма і ўніяцкая царква Іаана Хрысціцеля, праводзіліся торгі. Таму ўладальнікам маёнтка такое месца падалося спрыяльным для стварэння гандлёва-рамеснага паселішча. У 1795 г. яно складалася з трох двароў, у якіх жылі кравец, каваль і ганчар — прадстаўнікі самых распаўсюджаных на Беларусі рамесных прафесій. У далейшым, верагодна ў сувязі з упадкам гандлёвага значэння адзначанага шляха, роста паселішча не адбывалася і яно паступова растварылася ў сяле.

У гэты ж час (канец 18 ст.) як мястэчка называецца ў дакументах Старынкі (Менскі павет), якое належала Віленскаму біскупству (НАРБ, ф. 333, воп. 9, спр. 4, арк. 843 — 853). Аднак усе 22 двары гэтага паселішча засялялі земляробы і, не гледзячы на свой статус, яно захоўвала выразны сельскагаспадарчы характар.

Да ліку паселішчаў, якія былі запланаваны як мястэчкі, але ў рэчаіснасці не сталі імі, трэба аднесці таксама Сынкавічы, Явар (Слонімскі павет), Малушычы, Старая Ельня (Навагародскі павет), Тонава, Цялякава (Менскі павет) і некаторыя іншыя.

Вядомы шэраг паселішчаў, якія ўзніклі і першапачаткова развіваліся як мястэчкі, аднак у далейшым, у выніку розных акалічнасцей, паступова ператвараліся ў сёлы (Яршэвічы Менскі павет, Вязавец, Раготна Слонімскі павет, Івашкавічы Ваўвавыскі павет і інш.).

Назвы большасці мястэчак паходзяць ад існуючых у гэтай мясцовасці тапонімаў. Напрыклад, мястэчкі Зэльва, Узда, Моўчадзь, Свіслач, Воўпа, Рось, Волма, Ілья атрымалі назвы ад рэчак, на беразе якіх яны размясціліся. З азёрамі ці іх назвамі звязаны мястэчкі Азёры, Азярніца, Мядзел, Свір, Занарач, Мястэчка Гарадзішча (Навагародскі павет) было названа па археалагічнаму помніку, які знаходзіцца побач. Ад урочышчаў ды іншых тапаграфічных аб’ектаў атрымалі сваю назву мястэчкі Забалаць, Магільная, Пясочная, Міжрэчча, Камень, Дубровы, Рубяжэвічы, Дзераўная і інш.

Часам мястэчкі называліся па імёным альбо прозвішчам іх заснавальнікаў. Да такіх паселішчаў адносяцца Багданаў, Мікалаева, Пачапава, Масаляны.

Узнікненне мястэчак садзейнічала далейшаму развіццю таварна-грашовых адносін на землях Беларусі. Яны сталі тым неабходным ланцужком, які злучыў гарады, двары і сёлы ў адзіны гаспадарчы механізм. З утварэннем мястэчак рэзка павялічваюцца даходы іх уладальнікаў. Гэта з’явілася прычынай росту колькасці мястэчак на працягу 15 — першай паловы 17 стст.

ЛІТАРАТУРА

1. АВАК. Т. 14. Вильна, 1887.
2. АВАК. Т. 22. Вильна, 1895.
3. АВАК. Т. 36. Вильна, 1912.
4. АСД. Т. 1. Вильна, 1867.
5. АСД. Т. 3. Вильна, 1867.
6. АСД. Т. 7. Вильна, 1870.
7. АЮЗР. Т. 1. Спб., 1863.
8. Грушевский А.С. Города Великого Княжества Литовского в XIV — XVI вв. Старина и борьба за старину. Киев, 1918.
9. Довнар-Запольский М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1.
10. РИБ. Т. 30. 1914.
11. Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Мн., 1960.
12. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989.
13. Alexandrowicz S. Zaludnienie miasteczek Łitwy i Białorusi w XVI — pierwszej połowie XVII wieku // Rocznik dzejów spolecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. T. 27, rok 1965.
14. Jankowski Cz. Powiat oszmiański. cz. 1. Petersburg, 1896.
15. НАРБ, г.Мінск, ф. 299, воп. 2, спр. 7643.
16. НАРБ, г.Мінск, ф. 333, воп. 9, спр. 4.
17. НАРБ, г. Мінск, ф. 333, воп. 9, спр. 164.
18. НАРБ, г.Мінск, ф. 94, воп. 1, спр. 1661.
19. НАРБ, г. Мінск, ф. 160, воп. 1, спр. 15.
20. НАРБ, г.Мінск, ф. 694, воп. 2, спр. 7710.
21. НАРБ, г.Мінск, ф. 694, воп. 4, спр. 1731.
22. НАРБ, г.Мінск, ф. 1767, воп. 1, спр. 19.
23. НАРБ, г.Мінск, кмф-5, воп. 1, спр. 1379.
24. НАРБ, г.Мінск, кмф -5, воп. 1, спр. 1696.
25. НАРБ, г.Мінск, кмф-5, воп. 1, спр. 2399.
26. НАРБ, г.Мінск, кмф-5, воп. 1, спр. 2666.
27. ОДМАМЮ. М., 1915. Кн. 21

**СКАРАЧЭННІ**

АВАК — Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора древних актов. Вильна.

АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. СПб.

АКР — Археологическая карта России. М.

АО — Археологические открытия. М.

Архив ИИ АН РБ — Архив Института истории РБ. Мн.

Архіў ІГ АН РБ — Архіў Інстытута гісторыі АН РБ. Мн.

Архив ИИМК — Архив Института истории материальной культуры. СПб.

АСГЭ — Археологический сборник Государственного Эрмитажа. Л.

АСД — Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна.

АЮЗР — Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею.

БСЭ — Большая Советская Энциклопедия. М.

ГАЗ — Гістарычна- археалагічны зборнік. Мн.

ГАРЛ — Гістарычны архіў Рэспублікі Літвы. Вільнюс.

ЗРАО — Записки императорского Русского археологического общества. СПб.

ИАК — Известия императорской Археологической комиссии.СПб.

КСИА — Краткие сообщения Института археологии АН СССР. М.

КСИИМК — Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. М.-Л.

МАР — Материалы по археологии России. М.

МИА — Материалы и исследования по археологии СССР. М., Л.

МИСО — Материалы по изучению Смоленской области. Смоленск.

НАРБ — Нацыяльны архіў Рэспублікі Беларусь. Мн.

НГАРБ — Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь. Мн.

ОАК — Отчет императорской Археологической Комиссии. СПб.

ОДМАМЮ — Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерстве Юстиции.

ПАВ — Петербурский археологический вестник. СПб.

ПРСЛ — Полное собрание русских летописей. М., СПб.

Працы. 1930. Т. 2. — Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук. Кн. 2. Працы археалагічнай камісіі. Мн., 1930. Т. 2.

Працы. 1932. Т.3 — Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1932. Т. 3.

РАБВУ — Рукапісны аддзел Бібліятэкі Вільнюсскага універсітэта. Вільнюс.

РИБ — Русская историческая библиотека. М.

СА — Советская археология. М.

СГАИМК — Сообщения Государственной академии истории материальной культуры. М.-Л.

Труды ГИМ — Труды Государственного Исторического музея. М.

AGAD — Archiwum Głowny Akt Dawnych w Warszawie.

AR — Archiwum Radziwiłłowskie w AGAD

DP — Dokumenty pergaminowe w AGAD

KDAW — Konsygnacja dawnych akt wojskowych w AGAD

LAA — Lietuvos TSR Archeologijos atlasas. Vilnius.

LAB — Lietuvos Acheologijos bruozai. Vilnius.

MADA — Mokslu Akademijos darbai. A serija. Vilnius.

